● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

19 лістапада 1996 г. аўторак, № 270 (23073)



# ЗВЯЗДА

## УЗБРОЕНЫ ЗАХОП АЎТОБУСА

Разбойны напад на пасажыраў аўтобуса, які належыць прыватнаму прадпрымальніку з г. Бабруйска і курсіруе з камерцыйнымі рэйсамі па маршруту Бабруйск—Масква, учынены ў прыцемку ля вёскі Свенск Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці.

Двое злачынцаў, узброеных пісталетамі, замаскіраваліся пад мірных пасажыраў, набыўшы білеты да канцавога пункта. У вёсцы Свенск яны прымусілі вадзіцеля спыніцца. Тут жа іх чакаў і трэці саўдзельнік у масцы і з абрэзам паляўнічага ружжа.

Адагнаўшы аўтобус у лес і забраўшы ў насмерць перапуджаных пасажыраў залатыя рэчы і грошы, злачынцы зніклі.

Аператыўныя групы міліцыі вядуць іх інтэнсіўны вышук.

**Аляксандр ЕКАЦЯРЫНЧАЎ, прэс-група УУС, г. Магілёў.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

За студзень—верасень сёлетняга года ў рэспубліцы ўчынена **777 наўмысных забойстваў**, што на 14 менш, чым у 1995 годзе, **знізілася і колькасць рабаўніцтваў** — на 405 (10,6 працэнта), вымаганняў — на 21, а таксама колькасць крадзяжоў.

На планеце ўжо трэці год запар **з'ядаюць збожжа больш,** чым вырошчваюць.

Прамысловасць **скараціла за 4 гады** спажыванне цеплаэнергіі ў 2 разы, а спажыванне яе насельніцтвам практычна не скарачаецца.

## Увага! «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

**Чаму назіраліся перабоі ў гандлі тымі ці іншымі харчовымі таварамі, як ліквідуюцца недахопы, што наогул чакае спажыўца зімой, ці застануцца ранейшымі розничныя цэны на харчаванне?**

**На гэтыя і шматлікія іншыя пытанні, шаноўныя чытачы, вам адкажа міністр гандлю краіны Пётр Афанасьевіч КАЗЛОЎ.**

***«Прамая лінія» адбудзецца ў пятніцу, 22 лістапада. У гэты дзень чакаем вашых званкоў з 12 да 13 гадзін па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92. Папярэдне вы можаце задаваць пытанні па нумару 268-27-41, а таксама дасылаць лісты на адрас: 220013 г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, рэдакцыя газеты «Звязда» (з паметкай «Пытанне міністру гандлю).***

## Увага! «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

Ужо тры гады ў нашай рэспубліцы праходзіць зямельная рэформа.

Якімі тэмпамі яна ідзе? Колькі каштуе гектар зямлі? Хто можа яе купіць? Як рэалізуецца права наследавання зямлі?

**На гэтыя і іншыя пытанні вам, паважаныя чытачы, адкажа старшыня Камітэта па зямельных рэсурсах Рэспублікі Беларусь Георгій Іванавіч КУЗНЯЦОЎ.**

**«Прамая лінія» адбудзецца 20 лістапада.**

**Вашых званкоў чакаем з 11 да 12 гадзін па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92.**

***Папярэдне тэлефануйце па нумары 268-27-50, а таксама дасылайце лісты з пытаннямі на адрас: 220013 г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, рэдакцыя газеты «Звязда» (з паметкай «Зямельнае пытанне»).***



***Аляксандр ЛУКАШЭНКА:***

## «Я НЕ СУМНЯВАЮСЯ Ў МУДРАСЦІ І ПАЛІТЫЧНАЙ СТАЛАСЦІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА»

Як паведамлялася ўжо БЕЛТА, 15 лістапада ў Магілёве на плошчы імя Леніна адбылася сустрэча Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі з жыхарамі горада, якая завяршыла праграму рабочай паездкі кіраўніка дзяржавы на Магілёўшчыну. Выказаць падтрымку курсу, што праводзіцца Прэзідэнтам Беларусі, прыйшлі тысячы магіляўчан, якія поўнасцю запоўнілі цэнтральную плошчу горада.

«Для мяне ўдвайне прыемна сустрэцца з вамі, паколькі Магілёўская вобласць дабілася нядрэнных вынікаў у прамысловасці і сельскай гаспадарцы, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Аднак усё ж ёсць шмат прадпрыемстваў, якія прастойваюць, і дзе ёсць праблемы». Сярод іх аўтазавод імя Кірава і завод штучнага валакна, на якіх пабываў Прэзідэнт у час сваёй рабочай паездкі. На гэтых прамысловых аб'ектах у значнай ступені вызначаецца поспех праграмы нарошчвання экспарту. Таму, як адзначыў Прэзідэнт, дзяржаўная дапамога будзе аказвацца перш за ўсё тым прадпрыемствам, якія вырашаюць менавіта гэту задачу.

У сваім выступленні Аляксандр Лукашэнка падрабязна спыніўся і на іншых асноватворных момантах праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця да 2000 года. Акрамя нарошчвання экспарту гэта забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання і жыллём. «Наперадзе вялікая напружаная работа, каб карэнным чынам пераламаць сітуацыю і палепшыць яе, — сказаў Прэзідэнт. — Я не хачу сёння вас заспакойваць і абяцаць, што заўтра будзе манна нябесная, пацякуць рэкі ў кісельных берагах. Не, усё гэта будзе давацца надзвычай жорсткай, цяжкай працай».

У той жа час Прэзідэнт дзяржавы запэўніў прысутных, што кіраўніцтва краіны зробіць усё магчымае, каб падтрымаць малазабяспечаныя слаі насельніцтва. У прыватнасці, у бліжэйшыя 7-8 месяцаў 50 працэнтаў кошту камунальных паслуг па-ранейшаму будзе аплачвацца за кошт дзяржаўнага бюджэту. Прэзідэнт падкрэсліў, што, пакуль не павысіцца ўзровень жыцця насельніцтва краіны, аб павышэнні цэн на камунальныя паслугі не можа быць гаворкі. А ў сувязі з тым, што за апошнія два месяцы цэны ў магазінах павялічыліся на 2—6 працэнтаў, кіраўнік дзяржавы паведаміў аб рашэнні павысіць з 1 снежня на 10 працэнтаў заработную плату, пенсіі і дапамогі. «Больш не магу, я кажу вам шчыра, бо 10 працэнтаў — гэта трыльёны рублёў, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — І я баюся, што калі мы выкінем зноў у абарачэнне нічым не забяспечаныя, пустыя грошы, мы ўзарвём эканоміку наогул».

Закрануў кіраўнік дзяржавы і палітычную сітуацыю, што склалася ў краіне. «Я назваў вельмі шмат праблем, якія нам трэба будзе вырашаць, неадкладных спраў хапае, — адзначыў Прэзідэнт. — Але, на жаль, шмат сіл і часу ідзе на марныя палітычныя разборкі, ініцыіраваныя лідэрамі шэрага палітычных партый і асобнымі прадстаўнікамі дэпутацкага корпуса. Я не належаў і не належу ні да якіх палітычных партый і рухаў і лічу, што кіраўнік дзяржавы павінен знаходзіцца над палітычнымі партыямі і амбіцыямі іх лідэраў. Няхай партыі існуюць і развіваюцца, а я павінен аднолькава ставіцца да ўсіх партый і рухаў. Але, на жаль, сёння гэта стала прычынай страшнай барацьбы супраць Прэзідэнта. Хіба вы маглі падумаць, што нашы супернацыяналісты калі-небудзь змогуць аб'яднацца з лідэрамі нашых камуністаў і накіраваць сваю барацьбу супраць Прэзідэнта? Дзякуй Богу, што радавыя камуністы за імі не ідуць».

Гаворачы аб прапанаваным Прэзідэнтам на рэферэндум праекце змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю, кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ён накіраваны не столькі на раздзяленне паўнамоцтваў розных галін улады, колькі на вяртанне сацыяльных гарантый насельніцтву, якія існавалі ў савецкі час. «Другая частка змяненняў да цяперашняй Канстытуцыі — гэта, вядома ж, павышэнне дысцыпліны і парадку, — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. — Не можа добра іграць аркестр без дырыжора, не можа быць краіны, дзе няма гаспадара. Вы выбралі мяне кіраўніком дзяржавы. І калі я прашу вашай падтрымкі, дапамогі, калі я гатоў узяць на сябе яшчэ дадатковую адказнасць, чаму б не даць мне дадатковыя функцыі, дадатковыя правы, надзяліць дадатковай адказнасцю перад вамі».

Прэзідэнт напомніў, што неаднаразова ішоў на кампрамісы з апазіцыяй. «Каб рэферэндум прайшоў у нармальных умовах, я згадзіўся з перанясеннем яго даты з 7 на 24 лістапада, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Я пайшоў насустрач пажаданням вялікай групы дэпутатаў, па іх просьбе змяніў першапачатковы праект Канстытуцыі, зрабіўшы яго больш мяккім. Чаму ж мае праціўнікі не ідуць ні на якія ўступкі? Чаму яны, наадварот, узмацняюць сваю пазіцыю? Ды таму, што рэферэндум ім не толькі не патрэбен, але і смяротна небяспечны для іх. Яны не проста баяцца прайграць рэферэндум, яны баяцца, што Лукашэнка ўвядзе ў практыку даведвацца пра думку народа, і перад народам мы павінны і будзем несці адказнасць. Вы паглядзіце, якія аргументы яны выстаўляюць супраць народнага плебісцыту? Народ не прачытае прапанаваныя на рэферэндум новыя рэдакцыі Канстытуцыі. Яны выстаўляюць і другі тэзіс — народ калі і прачытае, то не зразумее, за што яму прапануюць галасаваць. Калі гэты ж народ галасуе за перадвыбарныя платформы кандыдатаў у дэпутаты, яго інтэлектуальныя здольнасці ў гэтых палітыкаў чамусьці сумнення не выклікаюць».

Завяршаючы сваё выступленне перад землякамі, Аляксандр Лукашэнка сказаў: «Я не сумняваюся ў вашай мудрасці і палітычнай сталасці. Упэўнены, вы прыйдзеце на рэферэндум. Як вы прагаласуеце — гэта ваша справа. Няволіць нікога не будзем. Таму што ведаю, што такое рабіць націск на людзей і прымушаць іх рабіць тое, што хочацца чыноўнікам». Затым Прэзідэнт адказаў на некаторыя пытанні, якія паступілі ад магіляўчан.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## ПРЭЗІДЭНТ АДЧУВАЕ ПАДТРЫМКУ СВАЙГО НАРОДА І НЕ БАІЦЦА АПАЗІЦЫІ

У час рабочай паездкі ў Гомель 18 лістапада Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка пракаменціраваў журналістам падзеі, якія адбыліся ў Мінску 17 лістапада, а таксама грамадска-палітычную сітуацыю ў рэспубліцы ў цэлым.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што сцэнарый сутыкненняў дэманстрантаў з міліцыяй быў распрацаваны апазіцыяй даўно. У свой час сойм БНФ прыняў рашэнне зрабіць «карцінку» для сродкаў масавай інфармацыі, якую можна было б растыражаваць на ўвесь свет і паказаць, што ў Беларусі пачалася ледзь не бойня. І 18-га яны спрабавалі дасягнуць сваёй мэты, аднак дапусцілі прамашку з заявай аб тым, што адбылося кровапраліццё і ёсць раненыя. Праўда, ГРТ у начным выпуску навін усё ж «паправілася», сказаўшы, што раненых няма, і ў «хуткую дапамогу» ніхто не звяртаўся. Усё гэта Аляксандр Лукашэнка вызначыў як узмоцненае нагнятанне сітуацыі. Прэзідэнт сказаў таксама, што, звязаўшыся з Гомеля з Саветам бяспекі, ён даведаўся: на ўрад пачаўся інтэнсіўны націск з боку Вярхоўнага Савета з патрабаваннем яго адстаўкі. Робіцца гэта для таго, каб урад на злосць Прэзідэнту цяпер пайшоў у адстаўку, тым самым паказаўшы сваю нелаяльнасць да Прэзідэнта. Гэта значыць ідзе дзікі націск на ўсе структуры і органы ўлады. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што калі ў яго адсутнасць адбудзецца

**(Заканчэнне на 11-й стар.)**

***ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК***

## Дэпутаты спрабуюць абараніць закон, Міхаіл Чыгір ідзе ў адстаўку

Прагнозы палітычных апанентаў Вярхоўнага Савета наконт таго, што нечарговае пленарнае пасяджэнне сесіі не адбудзецца з-за адсутнасці кворуму, не спраўдзіліся. У абмеркаванні грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне ўзялі ўдзел роўна сто абраннікаў народа. Перашкодзіць іх рабоце не змаглі нават вельмі настойлівыя праціўнікі.

Учора рабоце заканадаўчага органа папярэднічалі некалькі падзей. Раніцай павінна было адбыцца сумеснае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета і калегіі Кабінета Міністраў, аднак з-за адсутнасці кворуму сустрэча прайшла ў форме нарады. У ёй узяў удзел прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір. Сапраўднай сенсацыяй стала яго заява аб магчымай адстаўцы з займаемай пасады. Як паведаміў кіраўнік Кабінета Міністраў у Вярхоўным Савеце, ён гэта зробіць у тым выпадку, калі Прэзідэнт не выканае дзве ўмовы: не зменіць эканамічную палітыку і не адменіць правядзенне рэферэндуму, легітымнасць якога з кожным днём губляецца ўсё больш і больш. Дарэчы, тэма адставак на гэтым не была вычарпана. У Вярхоўны Савет з просьбай вызваліць ад пасад звярнуліся намеснік старшыні Цэнтрвыбаркома сп. Жук і член камісіі сп. Кажура. Першы тлумачыць сваё рашэнне тым, што заява дзевяці членаў Цэнтрвыбаркома аб нязгодзе з пазіцыяй В. Ганчара рыхтавалася ў яго за плячамі, а другі спасылаецца на стан здароўя.

Перад самым пачаткам сесіі з мэтай прывітаць і падтрымаць дэпутатаў на плошчы Незалежнасці сабралася каля 2 тысяч чалавек з дзяржаўнымі сцягамі Рэспублікі Беларусь узору 1991 і 1995 гадоў.

**(Заканчэнне на 11-й стар.)**

***ПАДРАБЯЗНАСЦІ***

## Па крываваму следу

**Такога здарэння ў Гродне не было амаль дзесяць гадоў. Тады, сёмага красавіка 1987 года, вядомы гродзенскі «аўтарытэт» Каржылаў захапіў заложнікаў, падчас вызвалення якіх і быў застрэлены. Бадай, гэта быў першы выпадак такога роду ў рэспубліцы. Кіраваў тады аперацыяй начальнік УУС У. Данько. І вось праз дзесяцігоддзе прымаць няпростыя рашэнні ў экстрэмальнай сітуацыі давялося цяперашняму кіраўніку абласной міліцыі А. Белашэўскаму.**

Раніцай сёмага (зноў сёмага. — **Аўт.**) лістапада двое маладых хлопцаў, нібы да сябе дамоў, зайшлі ў кватэру па вуліцы Дзяржынскага. Неўзабаве прагучала некалькі глухіх стрэлаў-хлапкоў (стралялі праз падушку). А потым пачуліся хуткія крокі ўніз па лесвіцы басаногага мужчыны, за якім цягнулася крывавая дарожка, і стрэлы наўздагон уцекачу.

... З кулявымі раненнямі твару і спіны 35-гадовы жыхар Маскоўскай вобласці выжыў, а вось яго сябар з Чэлябінска ад атрыманых раненняў галавы памёр у бальніцы. Пад час нападу ў кватэры забралі звыш сямі тысяч долараў, што належалі пацярпеўшым.

Нахабнае злачынства падкінула нямала працы гродзенскім дэтэктывам. Але ўжо хутка сталі вядомы прыметы злачынцаў — землякоў аднаго з пацярпеўшых. Адначасова пацвердзілася і версія аб аўтамабільным следзе злачынства: пацярпеўшыя былі, верагодна, прадстаўнікамі аўтааматараў-чэлябінцаў у Гродне. Дарэчы, калі б для дуэта цалкам удалася іх крывавая аперацыя, верагодна, яшчэ двое іх землякоў, якія ў той дзень прыляцелі з круглай сумай «зялёных» чаўночным рэйсам з Чэлябінска, таксама трапілі б у пастку... На шчасце для іх, у аэрапорце першымі іх сустрэлі аператыўнікі...

А што ж падазраваемыя? Насуперак закону ваўкоў, яны не пакінулі Гродна, а толькі на некалькі дзён «ляглі на дно». Разлічвалі, што, як звычайна, праз тры-чатыры дні ўсё супакоіцца і можна зноў паказацца на свет? Верагодна, што захопленая здабыча іх зусім не задавальняла, бо «ў Еўропах» з ёю не вельмі разгонішся. Напэўна, вырашылі разжыцца яшчэ «баксамі» і толькі потым «матануць», тым больш што людзей, якія разбагацелі на аўтабізнесе, яны ведалі. І хаця спатканне з міліцыяй не ўваходзіла ў іх планы, аднак усё ішло да гэтага...

Роўна праз тыдзень такая сустрэча, дарэчы, у раёне іхняй «бярлогі», адбылася. На жаль, падчас праверкі дакументаў у злачынцаў быў цяжка паранены супрацоўнік крымінальнага вышуку Ленінскага РАУС С. Ягнешка. Складаная аперацыя закончылася выдаленнем пашкоджанай ныркі. І толькі моцны арганізм лейтэнанта міліцыі, майстра спорту, і намаганні медыкаў далі яму шанц на жыццё, бо акрамя таго ў яго была прастрэлена і печань.

Пасля ўчыненага злачынцы зразумелі, што далей ім заставацца ў Гродне небяспечна, бо ўвесь горад і выхады з яго былі перакрыты — пачалася пакватэрная «адпрацоўка» жылога сектара, па трывозе былі падняты ўсе органы ўнутраных спраў Гродзеншчыны. Тэрмінова, праз радыё і тэлебачанне, аб здарэнні і прыметах злачынцаў было папярэджана насельніцтва вобласці.

Дачакаўшыся цемнаты, бандыты ўсё ж змаглі па ўскраіне выбрацца за межы Гродна. Месцамі ім літаральна давялося паўзці «на пузе», каб пераадолець, напрыклад, унізе мост цераз Нёман. Калі пераканаліся, што на ўсіх дарогах стаяць пасты, яны вырашылі праслізнуць да бліжэйшай ад Гродна чыгункі кружным шляхам. Але зробленыя міліцыяй захады далі свой плён. У чатыры гадзіны раніцы ў ваколіцах «Азота» злачынцаў заўважыў гродзенец-таксіст. У раён тэрмінова былі накіраваны рэзервовыя групы АМОНа і супрацоўнікі з суседніх участкаў міліцыі Гродзенскага РАУС. Пачалося прачэсванне мясцовасці, былі праверaны ўсе адыходзячыя з Гродна цягнікі, у тым ліку і тыя, што адышлі раней. Але «зафлажаным» ваўкам усё ж пашчасціла не трапіць у поле зроку міліцыі. Каля васьмі раніцы ў прыгарадных Верцялішках «мацёрыя» рызыкнулі сесці ў рэйсавы мікрааўтобус, які ішоў да Азёр. Там якраз і была пастаўлена кропка ў крывавых прыгодах чэлябінцаў на Гродзеншчыне.

**(Заканчэнне на 11-й стар.)**

## Паважаныя чытачы газеты «Звязда»!

Працягваецца падпіска на 1997 год, год, у якім мы разам з вамі адзначым 80-годдзе старэйшай беларускай газеты. У сённяшняй складанай сітуацыі, вядома, цяжка знайсці лішнія грошы на падпіску, але, паверце, «Звязда» не будзе лішняй у вашым доме. Мы даём вам галоўнае — інфармацыю.

Падпіску можна аформіць на паўгода (тады, прыслаўшы спецыяльны купон, вы зможаце стаць удзельнікам латарэі, галоўны прыз якой — конь з вупражжу). Кошт падпіскі на першае паўгоддзе — **83.400 рублёў.**

Падпіску можна аформіць і на тры месяцы **(41.700 рублёў).** *Удзельнікі латарэі могуць выйграць тавары народнага спажывання, сярод якіх электраплуг, веласіпеды, тэлевізары, пральныя машыны, фотаапараты, люстры і г.д.*

Нагадваем, што **спецыяльны конкурс праводзіцца і для паштальёнаў,** для якіх таксама ўстаноўлены каштоўныя прызы: тэлевізар, пральная машына «Мара», веласіпед, а таксама бясплатныя пуцёўкі для аздараўлення і адпачынку дзяцей за мяжой. Падрабязна аб гэтым вы зможаце прачытаць у нумары за 15 лістапада.

Будзем разам!

ПРАЕКТ

**Мы, народ Рэспублікі Беларусь, пастанаўляем:**
**Унесці ў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, прынятую Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 15 сакавіка 1994 года (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 9, арт.144), змяненні і дапаўненні, выклаўшы яе ў наступнай рэдакцыі:**

# «КАНСТЫТУЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**(са змяненнямі і дапаўненнямі)**

Мы, народ Рэспублікі Беларусь (Беларусі),

зыходзячы з адказнасці за цяперашні стан і будучыню Беларусі,

усведамляючы сябе паўнапраўным суб'ектам сусветнага супольніцтва і пацвярджаючы сваю прыхільнасць да агульначалавечых каштоўнасцей,

грунтуючыся на сваім неад'емным праве на самавызначэнне,

абапіраючыся на шматвяковую гісторыю развіцця беларускай дзяржаўнасці,

імкнучыся зацвердзіць правы і свабоды кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь,

жадаючы забяспечыць грамадзянскую згоду, непахісныя ўстоі народаўладдзя і прававой дзяржавы,

прымаем гэтую Канстытуцыю - Асноўны Закон Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ I.
### АСНОВЫ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА ЛАДУ

Артыкул 1. Рэспубліка Беларусь - унітарная дэмакратычная сацыяль-ная прававая дзяржава.

Рэспубліка Беларусь валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку.

Рэспубліка Беларусь абараняе сваю незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць, канстытуцыйны лад, забяспечвае законнасць і правапарадак.

Артыкул 2. Чалавек, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі з'яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы.

Дзяржава адказная перад грамадзянінам за стварэнне ўмоў для свабоднага і годнага развіцця асобы. Грамадзянін адказны перад дзяржавай за няўхільнае выкананне абавязкаў, якія ўскладзены на яго Канстытуцыяй.

Артыкул 3. Адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца народ. Народ ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна, праз прадстаўнічыя і іншыя органы ў формах і межах, вызначаных Канстытуцыяй.

Любыя дзеянні па змяненню канстытуцыйнага ладу і дасягненню дзяржаўнай улады гвалтоўнымі метадамі, а таксама шляхам іншага парушэння законаў Рэспублікі Беларусь караюцца згодна з законам.

Артыкул 4. Дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў.

Ідэалогія палітычных партый, рэлігійных або іншых грамадскіх аб'яднанняў, сацыяльных груп не можа ўстанаўлівацца ў якасці абавязковай для грамадзян.

Артыкул 5. Палітычныя партыі, іншыя грамадскія аб'яднанні, дзейнічаючы ў рамках Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь, садзейнічаюць выяўленню і выказванню палітычнай волі грамадзян, удзельнічаюць у выбарах.

Палітычныя партыі і іншыя грамадскія аб'яднанні маюць права карыстацца дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі ў парадку, вызначаным заканадаўствам.

Забараняецца стварэнне і дзейнасць палітычных партый, а таксама іншых грамадскіх аб'яднанняў, якія маюць на мэце гвалтоўнае змяненне канстытуцыйнага ладу ці вядуць прапаганду вайны, сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці.

Артыкул 6. Дзяржаўная ўлада ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове падзелу яе на заканадаўчую, выканаўчую і судовую. Дзяржаўныя органы ў межах сваіх паўнамоцтваў самастойныя: яны ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, стрымліваюць і ўраўнаважваюць адзін аднаго.

Артыкул 7. У Рэспубліцы Беларусь устанаўліваецца прынцып вяршэнства права.

Дзяржава, усе яе органы і службовыя асобы дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёю актаў заканадаўства.

Прававыя акты або іх асобныя палажэнні, прызнаныя ва ўстаноўленым законам парадку супярэчнымі з палажэннямі Канстытуцыі, не маюць юрыдычнай сілы.

Нарматыўныя акты дзяржаўных органаў публікуюцца або даводзяцца да ўсеагульнага ведама іншым прадугледжаным законам спосабам.

Артыкул 8. Рэспубліка Беларусь прызнае прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права і забяспечвае адпаведнасць ім заканадаўства.

Рэспубліка Беларусь у адпаведнасці з нормамі міжнароднага права можа на добраахвотнай аснове ўваходзіць у міждзяржаўныя ўтварэнні і выходзіць з іх.

Не дапускаецца заключэнне міжнародных дагавораў, якія супярэчаць Канстытуцыі.

Артыкул 9. Тэрыторыя Рэспублікі Беларусь з'яўляецца натуральнай умовай існавання і прасторавай мяжой самавызначэння народа, асновай яго дабрабыту і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Тэрыторыя Беларусі адзіная і неадчужальная.

Тэрыторыя падзяляецца на вобласці, раёны, гарады і іншыя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі. Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел дзяржавы вызначаецца заканадаўствам.

Артыкул 10. Грамадзяніну Рэспублікі Беларусь гарантуецца абарона і заступніцтва дзяржавы як на тэрыторыі Беларусі, так і за яе межамі.

Ніхто не можа быць пазбаўлены грамадзянства Рэспублікі Беларусь або права змяніць грамадзянства.

Грамадзянін Рэспублікі Беларусь не можа быць выдадзены замежнай дзяржаве, калі іншае не прадугледжана міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

Набыццё і страта грамадзянства ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з законам.

Артыкул 11. Замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства на тэрыторыі Беларусі карыстаюцца правамі і свабодамі і выконваюць абавязкі нароўні з грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, калі іншае не вызначана Канстытуцыяй, законамі і міжнароднымі дагаворамі.

Артыкул 12. Рэспубліка Беларусь можа надаваць права прытулку асобам, якія церпяць пераслед у іншых дзяржавах за палітычныя, рэлігійныя перакананні або нацыянальную прыналежнасць.

Артыкул 13. Уласнасць можа быць дзяржаўнай і прыватнай.

Дзяржава надае ўсім роўныя правы для ажыццяўлення гаспадарчай і іншай дзейнасці, акрамя забароненай законам, і гарантуе роўную абарону і роўныя ўмовы для развіцця ўсіх форм уласнасці.

Дзяржава садзейнічае развіццю кааперацыі.

Дзяржава гарантуе ўсім роўныя магчымасці свабоднага выкарыстання здольнасцей і маёмасці для прадпрымальніцкай і іншай не забароненай законам эканамічнай дзейнасці.

Дзяржава ажыццяўляе рэгуляванне эканамічнай дзейнасці ў інтарэсах чалавека і грамадства; забяспечвае накіраванне і каардынацыю дзяржаўнай і прыватнай эканамічнай дзейнасці ў сацыяльных мэтах.

Нетры, воды, лясы складаюць выключную ўласнасць дзяржавы. Землі сельскагаспадарчага прызначэння знаходзяцца ва ўласнасці дзяржавы.

Законам могуць быць вызначаны і іншыя аб'екты, якія знаходзяцца толькі ва ўласнасці дзяржавы, або ўстаноўлены асобы парадак пераходу іх у прыватную ўласнасць, а таксама замацавана выключнае права дзяржавы на ажыццяўленне асобных відаў дзейнасці.

Дзяржава гарантуе працоўным права прымаць удзел у кіраванні прадпрыемствамі, арганізацыямі і ўстановамі з мэтай павышэння эфектыўнасці іх работы і паляпшэння сацыяльна-эканамічнага ўзроўню жыцця.

Артыкул 14. Дзяржава рэгулюе адносіны паміж сацыяльнымі, нацыянальнымі і іншымі супольнасцямі на аснове прынцыпаў роўнасці перад законам, павагі іх правоў і інтарэсаў.

Адносіны ў сацыяльна-працоўнай сферы паміж органамі дзяржаўнага кіравання, аб'яднаннямі наймальнікаў і прафесійнымі саюзамі ажыццяўляюцца на прынцыпах сацыяльнага партнёрства і ўзаемадзеяння бакоў.

Артыкул 15. Дзяржава адказная за захаванне гісторыка-культурнай і духоўнай спадчыны, свабоднае развіццё культур усіх нацыянальных супольнасцей, якія пражываюць у Рэспубліцы Беларусь.

Артыкул 16. Рэлігіі і веравызнанні роўныя перад законам.

Узаемаадносіны дзяржавы і рэлігійных арганізацый рэгулююцца законам з улікам іх уплыву на фарміраванне духоўных, культурных і дзяржаўных традыцый беларускага народа.

Забараняецца дзейнасць рэлігійных арганізацый, іх органаў і прадстаўнікоў, якая накіравана супраць суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, яе канстытуцыйнага ладу і грамадзянскай згоды ці звязана з парушэннем правоў і свабод грамадзян, а таксама перашкаджае выкананню грамадзянамі іх дзяржаўных, грамадскіх, сямейных абавязкаў або прычыняе шкоду іх здароўю і маральнасці.

Артыкул 17. Дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы.

Артыкул 18. Рэспубліка Беларусь у сваёй знешняй палітыцы зыходзіць з прынцыпаў роўнасці дзяржаў, непрымянення сілы або пагрозы сілай, непарушнасці межаў, мірнага ўрэгулявання спрэчак, неўмяшання ва ўнутраныя справы і іншых агульнапрызнаных прынцыпаў і нормаў міжнароднага права.

Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а дзяржаву — нейтральнай.

Артыкул 19. Сімваламі Рэспублікі Беларусь як суверэннай дзяржавы з'яўляюцца яе Дзяржаўны сцяг, Дзяржаўны герб і Дзяржаўны гімн.

Артыкул 20. Сталіца Рэспублікі Беларусь - горад Мінск.

Статус горада Мінска вызначаецца законам.

## РАЗДЗЕЛ II.
### АСОБА, ГРАМАДСТВА, ДЗЯРЖАВА

Артыкул 21. Забеспячэнне правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь з'яўляецца найвышэйшай мэтай дзяржавы.

Кожны мае права на годны ўзровень жыцця, уключаючы дастатковае харчаванне, адзенне, жыллё і пастаяннае паляпшэнне неабходных для гэтага ўмоў.

Дзяржава гарантуе правы і свабоды грамадзян Беларусі, замацаваныя ў Канстытуцыі, законах і прадугледжаныя міжнароднымі абавязацельствамі дзяржавы.

Артыкул 22. Усе роўныя перад законам і маюць права без усякай дыскрымінацыі на роўную абарону правоў і законных інтарэсаў.

Артыкул 23. Абмежаванне правоў і свабод асобы дапускаецца толькі ў выпадках, прадугледжаных законам, у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны маралі, здароўя насельніцтва, правоў і свабод іншых асоб.

Ніхто не можа карыстацца перавагамі і прывілеямі, якія супярэчаць закону.

Артыкул 24. Кожны мае права на жыццё.

Дзяржава абараняе жыццё чалавека ад любых супрацьпраўных замахаў.

Смяротная кара да яе адмены можа прымяняцца ў адпаведнасці з законам як выключная мера пакарання за асабліва цяжкія злачынствы і толькі згодна з прыгаворам суда.

Артыкул 25. Дзяржава забяспечвае свабоду, недатыкальнасць і годнасць асобы. Абмежаванне або пазбаўленне асабістай свабоды магчыма ў выпадках і парадку, устаноўленых законам.

Асоба, узятая пад варту, мае права на судовую праверку законнасці яе затрымання або арышту.

Ніхто не павінен падвяргацца катаванням, жорсткаму, бесчалавечнаму або зневажальнаму да яго годнасці абыходжанню ці пакаранню, а таксама без яго згоды падвяргацца медыцынскім або іншым доследам.

Артыкул 26. Ніхто не можа быць прызнаны вінаватым у злачынстве, калі яго віна не будзе ў прадугледжаным законам парадку даказана і ўстаноўлена прыгаворам суда, які ўступіў у законную сілу. Той, каго абвінавачваюць, не павінен даказваць сваю невінаватасць.

Артыкул 27. Ніхто не павінен прымушацца даваць паказанні і тлумачэнні супраць самога сябе, членаў сваёй сям'і, блізкіх родных. Доказы, атрыманыя з парушэннем закона, не маюць юрыдычнай сілы.

Артыкул 28. Кожны мае права на абарону ад незаконнага ўмяшання ў яго асабістае жыццё, у тым ліку ад замаху на тайну яго карэспандэнцыі, тэлефонных і іншых паведамленняў, на яго гонар і годнасць.

Артыкул 29. Недатыкальнасць жылля і іншых законных уладанняў грамадзян гарантуецца. Ніхто не мае права без законнай падставы ўвайсці ў жыллё і іншае законнае ўладанне грамадзяніна супраць яго волі.

Артыкул 30. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права свабодна перамяшчацца і выбіраць месца жыхарства ў межах Рэспублікі Беларусь, пакідаць яе і бесперашкодна вяртацца назад.

Артыкул 31. Кожны мае права самастойна вызначаць свае адносіны да рэлігіі, асабіста або сумесна з іншымі вызнаваць любую рэлігію або не вызнаваць ніякай, выказваць і распаўсюджваць перакананні, звязаныя з адносінамі да рэлігіі, удзельнічаць у адпраўленні рэлігійных культаў, рытуалаў, абрадаў, не забароненых законам.

Артыкул 32. Шлюб, сям'я, мацярынства, бацькоўства і дзяцінства знаходзяцца пад абаронай дзяржавы.

Жанчына і мужчына па дасягненні шлюбнага ўзросту маюць права на добраахвотнай аснове ўступіць у шлюб і стварыць сям'ю. Муж і жонка раўнапраўныя ў сямейных адносінах.

Бацькі або асобы, якія іх замяняюць, маюць права і абавязаны выхоўваць дзяцей, клапаціцца аб іх здароўі, развіцці і навучанні. Дзіця не павінна падвяргацца жорсткаму абыходжанню або знявазе, прыцягвацца да работ, якія могуць нанесці шкоду яго фізічнаму, разумоваму або маральнаму развіццю. Дзеці абавязаны клапаціцца пра бацькоў, а таксама пра асоб, якія іх замяняюць, і аказваць ім дапамогу.

Дзеці могуць быць аддзелены ад сваёй сям'і супраць волі бацькоў і іншых асоб, якія іх замяняюць, толькі на падставе рашэння суда, калі бацькі або іншыя асобы, якія іх замяняюць, не выконваюць сваіх абавязкаў.

Жанчынам забяспечваецца прадастаўленне роўных з мужчынамі магчымасцей у атрыманні адукацыі і прафесійнай падрыхтоўцы, у працы і вылучэнні па службе (рабоце), у грамадска-палітычнай, культурнай і іншых сферах дзейнасці, а таксама стварэнне ўмоў для аховы іх працы і здароўя.

Моладзі гарантуецца права на яе духоўнае, маральнае і фізічнае развіццё.

Дзяржава стварае неабходныя ўмовы для свабоднага і эфектыўнага ўдзелу моладзі ў палітычным, сацыяльным, эканамічным і культурным развіцці.

Артыкул 33. Кожнаму гарантуецца свабода поглядаў, перакананняў і іх свабоднае выказванне.

Ніхто не можа быць прымушаны да выказвання сваіх перакананняў або адмовы ад іх.

Манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі дзяржавай, грамадскімі аб'яднаннямі або асобнымі грамадзянамі, а таксама цэнзура не дапускаюцца.

Артыкул 34. Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на атрыманне, захоўванне і распаўсюджванне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, аб палітычным, эканамічным, культурным і міжнародным жыцці, стане навакольнага асяроддзя.

Дзяржаўныя органы, грамадскія аб'яднанні, службовыя асобы абавязаны даць грамадзяніну Рэспублікі Беларусь магчымасць азнаёміцца з матэрыяламі, якія закранаюць яго правы і законныя інтарэсы.

Карыстанне інфармацыяй можа быць абмежавана заканадаўствам у мэтах абароны гонару, годнасці, асабістага і сямейнага жыцця грамадзян і поўнага ажыццяўлення імі сваіх правоў.

Артыкул 35. Свабода сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання, якія не парушаюць правапарадак і правы іншых грамадзян Рэспублікі Беларусь, гарантуецца дзяржавай. Парадак правядзення ўказаных мерапрыемстваў вызначаецца законам.

Артыкул 36. Кожны мае права на свабоду аб'яднанняў.

Суддзі, пракурорскія работнікі, супрацоўнікі органаў унутраных спраў, Камітэта дзяржаўнага кантролю, органаў бяспекі, ваеннаслужачыя не могуць быць членамі палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў, якія дамагаюцца палітычных мэт.

Артыкул 37. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права ўдзельнічаць у вырашэнні дзяржаўных спраў як непасрэдна, так і праз свабодна выбраных прадстаўнікоў.

Непасрэдны ўдзел грамадзян у кіраванні справамі грамадства і дзяржавы забяспечваецца правядзеннем рэферэндумаў, абмеркаваннем праектаў законаў і пытанняў рэспубліканскага і мясцовага значэння, іншымі вызначанымі законам спосабамі.

У парадку, устаноўленым заканадаўствам, грамадзяне Рэспублікі Беларусь прымаюць удзел у абмеркаванні пытанняў дзяржаўнага і грамадскага жыцця на рэспубліканскіх і мясцовых сходах.

Артыкул 38. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права свабодна выбіраць і быць выбранымі ў дзяржаўныя органы на аснове ўсеагульнага, роўнага, прамога або ўскоснага выбарчага права пры тайным галасаванні.

Артыкул 39. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці са сваімі здольнасцямі, прафесійнай падрыхтоўкай маюць права роўнага доступу да любых пасад у дзяржаўных органах.

Артыкул 40. Кожны мае права накіроўваць асабістыя або калектыўныя звароты ў дзяржаўныя органы.

Дзяржаўныя органы, а таксама службовыя асобы абавязаны разглядзець зварот і даць адказ па сутнасці ў вызначаны законам тэрмін. Адмова ад разгляду пададзенай заявы павінна быць пісьмова матываванай.

Артыкул 41. Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на працу як найбольш годны спосаб самасцвярджэння чалавека, гэта значыць права на выбар прафесіі, роду заняткаў і работы ў адпаведнасці з прызваннем, здольнасцямі, адукацыяй, прафесійнай падрыхтоўкай і з улікам грамадскіх патрэбнасцей, а таксама на здаровыя і бяспечныя ўмовы працы.

Дзяржава стварае ўмовы для поўнай занятасці насельніцтва. У выпадку незанятасці асобы па не залежных ад яе прычынах ёй гарантуецца навучанне новым спецыяльнасцям і павышэнне кваліфікацыі з улікам грамадскіх патрэбнасцей, а таксама дапамога па беспрацоўі ў адпаведнасці з законам.

Грамадзяне маюць права на абарону сваіх эканамічных і сацыяльных інтарэсаў, уключаючы права на аб'яднанне ў прафесійныя саюзы, заключэнне калектыўных дагавораў (пагадненняў) і права на забастоўку.

Прымусовая праца забараняецца, акрамя работы або службы, якая вызначаецца прыгаворам суда або ў адпаведнасці з законам аб надзвычайным і ваенным становішчы.

Артыкул 42. Асобам, якія працуюць па найму, гарантуецца справядлівая доля ўзнагароджання ў эканамічных выніках працы ў адпаведнасці з яе колькасцю, якасцю і грамадскім значэннем, але не ніжэй за ўзровень, які забяспечвае ім і іх сем'ям свабоднае і годнае існаванне.

Жанчыны і мужчыны, дарослыя і непаўналетнія маюць права на роўнае ўзнагароджанне за працу роўнай вартасці.

Артыкул 43. Працоўныя маюць права на адпачынак. Для тых, хто працуе па найму, гэта права забяспечваецца ўстанаўленнем рабочага тыдня, які не перавышае 40 гадзін, скарочанай працягласцю работы ў начны час, прадастаўленнем штогадовых аплатных водпускаў, дзён штотыднёвага адпачынку.

Артыкул 44. Дзяржава гарантуе кожнаму права ўласнасці і садзейнічае яе набыццю.

Уласнік мае права валодаць, карыстацца і распараджацца маёмасцю як аднаасобна, так і сумесна з іншымі асобамі. Недатыкальнасць уласнасці, права яе атрымання ў спадчыну ахоўваюцца законам.

Уласнасць, набытая законным спосабам, абараняецца дзяржавай.

(Працяг на 3-й стар.)

# КАНСТЫТУЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## (са змяненнямі і дапаўненнямі)

(Працяг. Пачатак на 2-й стар.)

Дзяржава заахвочвае і ахоўвае зберажэнні грамадзян, стварае гарантыі вяртання ўкладаў.

Прымусовае адчужэнне маёмасці дапускаецца толькі па матывах грамадскай неабходнасці пры захаванні ўмоў і парадку, вызначаных законам, са своечасовым і поўным кампенсаваннем кошту адчужанай маёмасці, а таксама згодна з пастановай суда.

Ажыццяўленне права ўласнасці не павінна супярэчыць грамадскай карысці і бяспецы, наносіць шкоды навакольнаму асяроддзю, гісторыка-культурным каштоўнасцям, уціскаць правы і абараняемыя законам інтарэсы іншых асоб.

Артыкул 45. Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на ахову здароўя, уключаючы бясплатнае лячэнне ў дзяржаўных установах аховы здароўя.

Дзяржава стварае ўмовы даступнага для ўсіх грамадзян медыцынскага абслугоўвання.

Права грамадзян Рэспублікі Беларусь на ахову здароўя забяспечваецца таксама развіццём фізічнай культуры і спорту, мерамі па аздараўленню навакольнага асяроддзя, магчымасцю карыстання аздараўленчымі ўстановамі, удасканальваннем аховы працы.

Артыкул 46. Кожны мае права на спрыяльнае навакольнае асяроддзе і на пакрыццё шкоды, прычыненай парушэннем гэтага права.

Дзяржава ажыццяўляе кантроль за рацыянальным выкарыстаннем прыродных рэсурсаў у мэтах абароны і паляпшэння ўмоў жыцця, а таксама аховы і аднаўлення навакольнага асяроддзя.

Артыкул 47. Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на сацыяльнае забеспячэнне ў старасці, у выпадку хваробы, інваліднасці, страты працаздольнасці, страты карміцеля і ў іншых выпадках, прадугледжаных законам. Дзяржава праяўляе асаблівы клопат аб ветэранах вайны і працы, а таксама аб асобах, якія страцілі здароўе пры абароне дзяржаўных і грамадскіх інтарэсаў.

Артыкул 48. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права на жыллё. Гэтае права забяспечваецца развіццём дзяржаўнага і прыватнага жыллёвага фонду, садзейнічаннем грамадзянам у набыцці жылля.

Грамадзянам, якія маюць патрэбу ў сацыяльнай абароне, жыллё прадастаўляецца дзяржавай і мясцовым самакіраваннем бясплатна або па даступнай для іх плаце ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Ніхто не можа быць адвольна пазбаўлены жылля.

Артыкул 49. Кожны мае права на адукацыю.

Гарантуюцца даступнасць і бясплатнасць агульнай сярэдняй і прафесійна-тэхнічнай адукацыі.

Сярэдняя спецыяльная і вышэйшая адукацыя даступная для ўсіх у адпаведнасці са здольнасцямі кожнага. Кожны можа на конкурснай аснове бясплатна атрымаць адпаведную адукацыю ў дзяржаўных навучальных установах.

Артыкул 50. Кожны мае права захоўваць сваю нацыянальную прыналежнасць, таксама як ніхто не можа быць прымушаны да вызначэння і ўказання нацыянальнай прыналежнасці.

Знявага нацыянальнай годнасці караецца згодна з законам.

Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносін. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання.

Артыкул 51. Кожны мае права на ўдзел у культурным жыцці. Гэта права забяспечваецца агульнадаступнасцю каштоўнасцей айчыннай і сусветнай культуры, якія знаходзяцца ў дзяржаўных і грамадскіх фондах, развіццём сеткі культурна-асветных устаноў.

Свабода мастацкай, навуковай, тэхнічнай творчасці і выкладання гарантуецца.

Інтэлектуальная ўласнасць ахоўваецца законам.

Дзяржава садзейнічае развіццю культуры, навуковых і тэхнічных даследаванняў на карысць агульных інтарэсаў.

Артыкул 52. Кожны, хто знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, абавязаны выконваць яе Канстытуцыю, законы і паважаць нацыянальныя традыцыі.

Артыкул 53. Кожны абавязаны паважаць годнасць, правы, свабоды, законныя інтарэсы іншых асоб.

Артыкул 54. Кожны абавязаны берагчы гісторыка-культурную, духоўную спадчыну і іншыя нацыянальныя каштоўнасці.

Артыкул 55. Ахова прыроднага асяроддзя - абавязак кожнага.

Артыкул 56. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь абавязаны прымаць удзел у фінансаванні дзяржаўных расходаў шляхам выплаты дзяржаўных падаткаў, пошлін і іншых плацяжоў.

Артыкул 57. Абарона Рэспублікі Беларусь - абавязак і свяшчэнны доўг грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

Парадак праходжання вайсковай службы, падставы і ўмовы вызвалення ад вайсковай службы ці замена яе альтэрнатыўнай вызначаюцца законам.

Артыкул 58. Ніхто не можа быць прымушаны да выканання абавязкаў, якія не прадугледжаны Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і яе законамі, ці да адмаўлення ад сваіх правоў.

Артыкул 59. Дзяржава абавязана прымаць усе даступныя ёй меры дзеля стварэння ўнутранага і міжнароднага парадку, неабходнага для поўнага ажыццяўлення правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь, прадугледжаных Канстытуцыяй.

Дзяржаўныя органы, службовыя і іншыя асобы, якім даверана выкананне дзяржаўных функцый, абавязаны ў межах сваёй кампетэнцыі прымаць неабходныя меры для ажыццяўлення і абароны правоў і свабод асобы.

Гэтыя органы і асобы нясуць адказнасць за дзеянні, якія парушаюць правы і свабоды асобы.

Артыкул 60. Кожнаму гарантуецца абарона яго правоў і свабод кампетэнтным, незалежным і непрадузятым судом у вызначаныя законам тэрміны.

З мэтай абароны правоў, свабод, гонару і годнасці грамадзяне ў адпаведнасці з законам маюць права спагнаць у судовым парадку як маёмасную шкоду, так і матэрыяльнае кампенсаванне маральнай шкоды.

Артыкул 61. Кожны мае права ў адпаведнасці з міжнародна-прававымі актамі, якія ратыфікаваны Рэспублікай Беларусь, звяртацца ў міжнародныя арганізацыі з мэтай абароны сваіх правоў і свабод, калі вычарпаны ўсе наяўныя ўнутрыдзяржаўныя сродкі прававой абароны.

Артыкул 62. Кожны мае права на юрыдычную дапамогу для ажыццяўлення і абароны правоў і свабод, у тым ліку права карыстацца ў любы момант дапамогай адвакатаў і іншых сваіх прадстаўнікоў у судзе, іншых дзяржаўных органах, органах мясцовага кіравання, на прадпрыемствах, ва ўстановах, у арганізацыях, грамадскіх аб'яднаннях і ў адносінах са службовымі асобамі і грамадзянамі. У выпадках, прадугледжаных законам, юрыдычная дапамога аказваецца за кошт дзяржаўных сродкаў.

Процідзеянне аказанню прававой дапамогі ў Рэспубліцы Беларусь забараняецца.

Артыкул 63. Ажыццяўленне прадугледжаных гэтай Канстытуцыяй правоў і свабод асобы можа быць прыпынена толькі ва ўмовах надзвычайнага або ваеннага становішча ў парадку і межах, вызначаных Канстытуцыяй і законам.

Пры ажыццяўленні асобых мер у перыяд надзвычайнага становішча не могуць абмяжоўвацца правы, прадугледжаныя ў артыкуле 24, частцы трэцяй артыкула 25, артыкулах 26, 31 Канстытуцыі.

### РАЗДЗЕЛ III. ВЫБАРЧАЯ СІСТЭМА. РЭФЕРЭНДУМ

#### ГЛАВА 1. ВЫБАРЧАЯ СІСТЭМА

Артыкул 64. Выбары дэпутатаў і іншых асоб, якія выбіраюцца на дзяржаўныя пасады народам, з'яўляюцца ўсеагульнымі: права выбіраць маюць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія дасягнулі 18 гадоў.

У выбарах не ўдзельнічаюць грамадзяне, прызнаныя судом недзеяздольнымі, асобы, якія ўтрымліваюцца па прыгавору суда ў месцах пазбаўлення волі. У галасаванні не прымаюць удзелу асобы, у адносінах да якіх у парадку, устаноўленым крымінальна-працэсуальным заканадаўствам, выбрана мера стрымання - утрыманне пад вартай. Любое прамое або ўскоснае абмежаванне выбарчых правоў грамадзян у іншых выпадках з'яўляецца недапушчальным і караецца згодна з законам.

Узроставы цэнз дэпутатаў і іншых асоб, якія выбіраюцца на дзяржаўныя пасады, вызначаецца адпаведнымі законамі, калі іншае не прадугледжана Канстытуцыяй.

Артыкул 65. Выбары з'яўляюцца свабоднымі: выбаршчык асабіста вырашае, ці ўдзельнічаць яму ў выбарах і за каго галасаваць.

Падрыхтоўка і правядзенне выбараў праводзяцца адкрыта і галосна.

Артыкул 66. Выбары з'яўляюцца роўнымі: выбаршчыкі маюць роўную колькасць галасоў.

Кандыдаты, якія выбіраюцца на дзяржаўныя пасады, удзельнічаюць у выбарах на роўных падставах.

Артыкул 67. Выбары дэпутатаў з'яўляюцца прамымі: дэпутаты выбіраюцца грамадзянамі непасрэдна.

Артыкул 68. Галасаванне на выбарах з'яўляецца тайным: кантроль за волевыяўленнем выбаршчыкаў у ходзе галасавання забараняецца.

Артыкул 69. Права вылучэння кандыдатаў у дэпутаты належыць грамадскім аб'яднанням, працоўным калектывам і грамадзянам у адпаведнасці з законам.

Артыкул 70. Расходы на падрыхтоўку і правядзенне выбараў ажыццяўляюцца за кошт дзяржавы ў межах выдзеленых на гэтыя мэты сродкаў. У выпадках, прадугледжаных законам, расходы на падрыхтоўку і правядзенне выбараў могуць ажыццяўляцца за кошт сродкаў грамадскіх аб'яднанняў, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, грамадзян.

Артыкул 71. Правядзенне выбараў забяспечваюць выбарчыя камісіі, калі іншае не прадугледжана Канстытуцыяй.

Парадак правядзення выбараў вызначаецца законамі Рэспублікі Беларусь.

Выбары не праводзяцца ў перыяд надзвычайнага або ваеннага становішча.

Артыкул 72. Адкліканне дэпутатаў ажыццяўляецца па падставах, прадугледжаных законам.

Галасаванне аб адкліканні дэпутата праводзіцца ў парадку, прадугледжаным для выбрання дэпутата, па ініцыятыве не менш дваццаці працэнтаў грамадзян, якія валодаюць выбарчым правам і пражываюць на адпаведнай тэрыторыі.

Падставы і парадак адклікання членаў Савета Рэспублікі ўстанаўліваюцца законам.

#### ГЛАВА 2. РЭФЕРЭНДУМ (НАРОДНАЕ ГАЛАСАВАННЕ)

Артыкул 73. Для вырашэння важнейшых пытанняў дзяржаўнага і грамадскага жыцця могуць праводзіцца рэспубліканскія і мясцовыя рэферэндумы.

Артыкул 74. Рэспубліканскія рэферэндумы назначаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь па ўласнай ініцыятыве, а таксама па прапанове Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі, якая прымаецца на іх раздзельных пасяджэннях большасцю галасоў ад устаноўленага Канстытуцыяй складу (поўнага складу) кожнай з палат, або па прапанове не менш як 450 тысяч грамадзян, якія валодаюць выбарчым правам, у тым ліку не менш як 30 тысяч грамадзян ад кожнай з абласцей і горада Мінска.

Прэзідэнт пасля ўнясення на яго разгляд у адпаведнасці з законам прапаноў Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі або грамадзян аб правядзенні рэферэндуму назначае рэспубліканскі рэферэндум.

Дата правядзення рэферэндуму ўстанаўліваецца не пазней як праз тры месяцы з дня выдання ўказа Прэзідэнта аб назначэнні рэферэндуму.

Рашэнні, прынятыя рэспубліканскім рэферэндумам, падпісваюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Артыкул 75. Мясцовыя рэферэндумы назначаюцца адпаведнымі мясцовымі прадстаўнічымі органамі па сваёй ініцыятыве або па прапанове не менш дзесяці працэнтаў грамадзян, якія валодаюць выбарчым правам і пражываюць на адпаведнай тэрыторыі.

Артыкул 76. Рэферэндумы праводзяцца шляхам усеагульнага, свабоднага, роўнага і тайнага галасавання.

У рэферэндумах удзельнічаюць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія валодаюць выбарчым правам.

Артыкул 77. Рашэнні, прынятыя рэферэндумам, могуць быць адменены або зменены толькі шляхам рэферэндуму, калі іншае не будзе вызначана рэферэндумам.

Артыкул 78. Парадак правядзення рэспубліканскіх і мясцовых рэферэндумаў, а таксама пералік пытанняў, якія не могуць быць вынесены на рэферэндум, вызначаюцца законам Рэспублікі Беларусь.

### РАЗДЗЕЛ IV. ПРЭЗІДЭНТ, ПАРЛАМЕНТ, УРАД, СУД

#### ГЛАВА 3. ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Артыкул 79. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь з'яўляецца Кіраўніком дзяржавы, гарантам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, правоў і свабод чалавека і грамадзяніна.

Прэзідэнт увасабляе адзінства народа, гарантуе рэалізацыю асноўных напрамкаў унутранай і знешняй палітыкі, прадстаўляе Рэспубліку Беларусь у адносінах з іншымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі. Прэзідэнт прымае меры па ахове суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, яе нацыянальнай бяспекі і тэрытарыяльнай цэласнасці, забяспечвае палітычную і эканамічную стабільнасць, пераемнасць і ўзаемадзеянне органаў дзяржаўнай улады, ажыццяўляе пасрэдніцтва паміж органамі дзяржаўнай улады.

Прэзідэнт валодае недатыкальнасцю, яго гонар і годнасць ахоўваюцца законам.

Артыкул 80. Прэзідэнтам можа быць выбраны грамадзянін Рэспублікі Беларусь па нараджэнню, не маладзейшы за 35 гадоў, які валодае выбарчым правам і пастаянна пражывае ў Рэспубліцы Беларусь не менш дзесяці гадоў непасрэдна перад выбарамі.

Артыкул 81. Прэзідэнт выбіраецца на пяць гадоў непасрэдна народам Рэспублікі Беларусь на аснове ўсеагульнага, свабоднага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні. Адна і тая ж асоба можа быць Прэзідэнтам не больш двух тэрмінаў.

Кандыдаты на пасаду Прэзідэнта вылучаюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь пры наяўнасці не менш як 100 тысяч подпісаў выбаршчыкаў.

Выбары Прэзідэнта назначаюцца Палатай прадстаўнікоў не пазней чым за пяць месяцаў і праводзяцца не пазней чым за два месяцы да сканчэння тэрміну паўнамоцтваў папярэдняга Прэзідэнта.

Калі пасада Прэзідэнта аказалася вакантнай, выбары праводзяцца не раней чым праз 30 дзён і не пазней чым праз 70 дзён з дня адкрыцця вакансіі.

Артыкул 82. Лічыцца, што выбары адбыліся, калі ў галасаванні прынялі ўдзел больш паловы грамадзян Рэспублікі Беларусь, уключаных у спіс выбаршчыкаў.

Прэзідэнт лічыцца выбраным, калі за яго прагаласавала больш як палова грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія прынялі ўдзел у галасаванні.

Калі ні адзін з кандыдатаў не набраў неабходнай колькасці галасоў, то ў двухтыднёвы тэрмін праводзіцца другі тур галасавання па двух кандыдатах, якія атрымалі найбольшую колькасць галасоў выбаршчыкаў. Выбраным лічыцца кандыдат у Прэзідэнты, які атрымаў пры паўторным галасаванні больш паловы галасоў выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні.

Парадак правядзення выбараў Прэзідэнта вызначаецца законам Рэспублікі Беларусь.

Артыкул 83. Прэзідэнт заступае на пасаду пасля прынясення Прысягі наступнага зместу:

«Заступаючы на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, урачыста клянуся верна служыць народу Рэспублікі Беларусь, паважаць і ахоўваць правы і свабоды чалавека і грамадзяніна, захоўваць і абараняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, свята і добрасумленна выконваць ускладзеныя на мяне высокія абавязкі».

Прысяга прыносіцца ва ўрачыстай абстаноўцы ў прысутнасці дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і членаў Савета Рэспублікі, суддзяў Канстытуцыйнага, Вярхоўнага і Вышэйшага Гаспадарчага судоў не пазней двух месяцаў з дня выбрання Прэзідэнта. З моманту прынясення Прысягі нававыбраным Прэзідэнтам паўнамоцтвы папярэдняга Прэзідэнта спыняюцца.

Артыкул 84. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь:

1) назначае рэспубліканскія рэферэндумы;

2) назначае чарговыя і нечарговыя выбары ў Палату прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі і мясцовыя прадстаўнічыя органы;

3) распускае палаты ў выпадках і ў парадку, прадугледжаных Канстытуцыяй;

4) назначае шэсць членаў Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў;

5) утварае, ліквідуе і рэарганізуе Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, іншыя органы дзяржаўнага кіравання, а таксама кансультатыўна-дарадчыя і іншыя органы пры Прэзідэнце;

6) са згоды Палаты прадстаўнікоў назначае на пасаду Прэм'ер-міністра;

7) вызначае структуру Урада Рэспублікі Беларусь, назначае на пасаду і вызваляе ад пасады намеснікаў Прэм'ер-міністра, міністраў і іншых членаў Урада, прымае рашэнне аб адстаўцы Урада або яго членаў;

8) са згоды Савета Рэспублікі назначае на пасаду Старшыню Канстытуцыйнага Суда, Старшыню Вярхоўнага Суда, Старшыню Вышэйшага Гаспадарчага Суда з ліку суддзяў гэтых судоў;

9) са згоды Савета Рэспублікі назначае на пасаду суддзяў Вярхоўнага Суда, суддзяў Вышэйшага Гаспадарчага Суда, Старшыню Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, Генеральнага пракурора, Старшыню і членаў Праўлення Нацыянальнага банка;

10) назначае шэсць суддзяў Канстытуцыйнага Суда, іншых суддзяў Рэспублікі Беларусь;

11) вызваляе ад пасады Старшыню і суддзяў Канстытуцыйнага Суда, Старшыню і суддзяў Вярхоўнага Суда, Старшыню і суддзяў Вышэйшага Гаспадарчага Суда, Старшыню і членаў Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, Генеральнага пракурора, Старшыню і членаў Праўлення Нацыянальнага банка па падставах, прадугледжаных законам, з паведамленнем Савету Рэспублікі;

12) назначае на пасаду і вызваляе ад пасады Старшыню Камітэта дзяржаўнага кантролю;

13) звяртаецца з пасланнямі да народа Рэспублікі Беларусь аб становішчы ў дзяржаве і аб асноўных напрамках унутранай і знешняй палітыкі;

14) звяртаецца са штогадовымі пасланнямі да Парламента, якія заслухоўваюцца без абмеркавання на пасяджэннях Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі; мае права ўдзельнічаць у рабоце Парламента і яго органаў, выступаць перад імі ў любы час з прамовай або паведамленнем;

15) мае права старшынстваваць на пасяджэннях Урада Рэспублікі Беларусь;

16) назначае кіраўнікоў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання і вызначае іх статус; назначае прадстаўнікоў Прэзідэнта ў Парламенце і іншых службовых асоб, пасады якіх вызначаны ў адпаведнасці з заканадаўствам, калі іншае не прадугледжана Канстытуцыяй;

17) вырашае пытанні аб прыёме ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь, яго спыненні і прадастаўленні прытулку;

18) устанаўлівае дзяржаўныя святы і святочныя дні, узнагароджвае дзяржаўнымі ўзнагародамі, прысвойвае класныя чыны і званні;

19) ажыццяўляе памілаванне асуджаных;

20) вядзе перагаворы і падпісвае міжнародныя дагаворы, назначае і адклікае дыпламатычных прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь у замежных дзяржавах і пры міжнародных арганізацыях;

21) прымае даверчыя і адзыўныя граматы акрэдытаваных пры ім дыпламатычных прадстаўнікоў замежных дзяржаў;

22) у выпадку стыхійнага бедства, катастрофы, а таксама беспарадкаў, што суправаджаюцца гвалтам ці пагрозай гвалту з боку групы асоб і арганізацый, у выніку якіх узнікае небяспека жыццю і здароўю людзей, тэрытарыяльнай цэласнасці і існаванню дзяржавы, уводзіць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь або ў асобных яе мясцовасцях надзвычайнае становішча з унясеннем у трохдзённы тэрмін прынятага рашэння на зацвярджэнне Савета Рэспублікі;

23) у выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, мае права адкласці правядзенне забастоўкі або прыпыніць яе, але не больш чым на трохмесячны тэрмін;

24) падпісвае законы; мае права ў парадку, устаноўленым Канстытуцыяй, вярнуць закон або асобныя яго палажэнні са сваімі пярэчаннямі ў Палату прадстаўнікоў;

25) мае права адмяняць акты Урада;

26) непасрэдна або праз ствараемыя ім органы ажыццяўляе кантроль за захаваннем заканадаўства мясцовымі органамі кіравання і самакіравання; мае права прыпыняць рашэнні мясцовых Саветаў дэпутатаў і адмяняць рашэнні мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў у выпадку неадпаведнасці іх заканадаўству;

27) фарміруе і ўзначальвае Савет Бяспекі Рэспублікі Беларусь; назначае на пасаду і вызваляе ад пасады Дзяржаўнага сакратара Савета Бяспекі;

28) з'яўляецца Галоўнакамандуючым Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь; назначае на пасады і вызваляе ад пасад вышэйшае камандаванне Узброеных Сіл;

29) уводзіць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у выпадку ваеннай пагрозы або нападу ваеннае становішча, аб'яўляе поўную або частковую мабілізацыю з уня-

(Працяг на 4-й стар.)

# КАНСТЫТУЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## (са змяненнямі і дапаўненнямі)

**(Працяг. Пачатак на 2,3-й стар.)**

сеннем у трохдзённы тэрмін прынятага рашэння на зацвярджэнне Савета Рэспублікі;

30) ажыццяўляе іншыя паўнамоцтвы, ускладзеныя на яго Канстытуцыяй і законамі.

Артыкул 85. Прэзідэнт на аснове і ў адпаведнасці з Канстытуцыяй выдае ўказы і распараджэнні, якія маюць абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

У выпадках, прадугледжаных Канстытуцыяй, Прэзідэнт выдае дэкрэты, што маюць сілу законаў. Прэзідэнт непасрэдна або праз ствараемыя ім органы забяспечвае выкананне дэкрэтаў, указаў і распараджэнняў.

Артыкул 86. Прэзідэнт не можа займаць іншыя пасады, атрымліваць апрача заработнай платы грашовыя ўзнагароджанні, за выключэннем ганарараў за творы навукі, літаратуры і мастацтва.

Прэзідэнт прыпыняе членства ў палітычных партыях і іншых грамадскіх аб'яднаннях, якія дамагаюцца палітычных мэт, на ўвесь тэрмін паўнамоцтваў.

Артыкул 87. Прэзідэнт можа ў любы час падаць у адстаўку. Адстаўка Прэзідэнта прымаецца Палатай прадстаўнікоў.

Артыкул 88. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь можа быць датэрмінова вызвалены ад пасады пры стойкай няздольнасці па стану здароўя ажыццяўляць абавязкі Прэзідэнта. Рашэнне аб датэрміновым вызваленні Прэзідэнта прымаецца большасцю не менш як дзве трэці галасоў ад поўнага складу Палаты прадстаўнікоў і большасцю не менш як дзве трэці галасоў ад поўнага складу Савета Рэспублікі на падставе заключэння спецыяльна ствараемай палатамі камісіі.

Прэзідэнт можа быць зняты з пасады ў сувязі з учыненнем дзяржаўнай здрады або іншага цяжкага злачынства. Рашэнне аб выстаўленні абвінавачання і яго расследаванні ў гэтым выпадку лічыцца прынятым, калі за яго прагаласавала большасць ад поўнага складу Палаты прадстаўнікоў па прапанове не менш як адной трэці яе дэпутатаў. Расследаванне абвінавачання арганізуецца Саветам Рэспублікі. Прэзідэнт лічыцца знятым з пасады, калі за гэта рашэнне прагаласавала не менш як дзве трэці ад поўнага складу Савета Рэспублікі, а таксама не менш як дзве трэці ад поўнага складу Палаты прадстаўнікоў.

Непрыняцце Саветам Рэспублікі і Палатай прадстаўнікоў рашэння аб зняцці Прэзідэнта з пасады на працягу месяца з дня выстаўлення абвінавачання азначае адхіленне абвінавачання. Прапанова аб зняцці Прэзідэнта з пасады не можа ініцыіравацца ў перыяд разгляду ў адпаведнасці з Канстытуцыяй пытання аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў Парламента.

У выпадку зняцця Прэзідэнта ў сувязі з учыненнем злачынства справа па сутнасці абвінавачання разглядаецца Вярхоўным Судом.

Артыкул 89. У выпадку вакансіі пасады Прэзідэнта або немагчымасці выканання ім сваіх абавязкаў па падставах, прадугледжаных Канстытуцыяй, яго паўнамоцтвы да прынясення Прысягі нававыбраным Прэзідэнтам пераходзяць да Прэм'ер-міністра.

### ГЛАВА 4. ПАРЛАМЕНТ - НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД

Артыкул 90. Парламент - Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь з'яўляецца прадстаўнічым і заканадаўчым органам Рэспублікі Беларусь.

Парламент складаецца з дзвюх палат - Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі.

Артыкул 91. Склад Палаты прадстаўнікоў - 110 дэпутатаў. Выбранне дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з законам на аснове ўсеагульнага, свабоднага, роўнага, прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

Савет Рэспублікі з'яўляецца палатай тэрытарыяльнага прадстаўніцтва. Ад кожнай вобласці і горада Мінска тайным галасаваннем выбіраюцца на пасяджэннях дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню кожнай вобласці і горада Мінска па восем членаў Савета Рэспублікі. Восем членаў Савета Рэспублікі назначаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Выбары новага складу палат Парламента назначаюцца не пазней як за чатыры месяцы і праводзяцца не пазней як за 30 дзён да сканчэння паўнамоцтваў палат дзеючага склікання Парламента.

Нечарговыя выбары палат Парламента праводзяцца на працягу трох месяцаў з дня датэрміновага спынення паўнамоцтваў палат Парламента.

Артыкул 92. Дэпутатам Палаты прадстаўнікоў можа быць грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які дасягнуў 21 года.

Членам Савета Рэспублікі можа быць грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які дасягнуў 30 гадоў і пражыў на тэрыторыі адпаведнай вобласці, горада Мінска не менш як пяць гадоў.

Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы ў Парламенце на прафесійнай аснове, калі іншае не прадугледжана Канстытуцыяй. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў можа быць адначасова членам Урада.

Адна і тая ж асоба не можа адначасова з'яўляцца членам дзвюх палат Парламента. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў не можа быць дэпутатам мясцовага Савета дэпутатаў. Член Савета Рэспублікі не можа быць адначасова членам Урада. Не дапускаецца сумяшчэнне абавязкаў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі з адначасовым заняццем пасады Прэзідэнта або суддзі.

Артыкул 93. Тэрмін паўнамоцтваў Парламента - чатыры гады. Паўнамоцтвы Парламента могуць быць прадоўжаны на падставе закона толькі ў выпадку вайны.

Першая пасля выбараў сесія палат Парламента склікаецца Цэнтральнай камісіяй па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў і пачынае сваю работу не пазней як праз 30 дзён пасля выбараў. Адлік трыццацідзённага тэрміну для склікання і пачатку работы першай сесіі Палаты прадстаўнікоў ажыццяўляецца з дня другога туру галасавання па выбарах яе новага складу. Калі другі тур галасавання па выбарах у Палату прадстаўнікоў не праводзіцца, адлік трыццацідзённага тэрміну ажыццяўляецца з дня правядзення першага туру агульных выбараў у Рэспубліцы Беларусь. Адлік трыццацідзённага тэрміну для склікання і пачатку работы першай сесіі Савета Рэспублікі ажыццяўляецца з дня першага пасяджэння дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню па выбарах членаў Савета Рэспублікі ад вобласці або горада Мінска.

У выпадках і ў парадку, прадугледжаных Канстытуцыяй, паўнамоцтвы Палаты прадстаўнікоў або Савета Рэспублікі могуць быць спынены датэрмінова. Са спыненнем паўнамоцтваў Палаты прадстаўнікоў або Савета Рэспублікі па рашэнню Прэзідэнта могуць быць таксама спынены паўнамоцтвы адпаведна Савета Рэспублікі або Палаты прадстаўнікоў.

Артыкул 94. Паўнамоцтвы Палаты прадстаўнікоў могуць быць датэрмінова спынены пры адмове ў даверы Ураду, выказванні вотуму недаверу Ураду або двухразовай адмове ў дачы згоды на назначэнне Прэм'ер-міністра.

Паўнамоцтвы Палаты прадстаўнікоў або Савета Рэспублікі могуць быць таксама датэрмінова спынены на падставе заключэння Канстытуцыйнага Суда ў выпадку сістэматычнага або грубага парушэння палатамі Парламента Канстытуцыі.

Рашэнні па гэтых пытаннях Прэзідэнт прымае не пазней чым у двухмесячны тэрмін пасля афіцыйных кансультацый са старшынямі палат.

Палаты не могуць быць распушчаны ў перыяд надзвычайнага або ваеннага становішча, у апошнія шэсць месяцаў паўнамоцтваў Прэзідэнта, у перыяд вырашэння палатамі пытання аб датэрміновым вызваленні або зняцці Прэзідэнта з пасады.

Не дапускаецца роспуск палат на працягу года з дня іх першых пасяджэнняў.

Артыкул 95. Палаты збіраюцца на дзве чарговыя сесіі ў год.

Першая сесія адкрываецца 2 кастрычніка; яе працягласць не можа быць больш як восемдзесят дзён.

Другая сесія адкрываецца 2 красавіка; яе працягласць не можа быць больш як дзевяноста дзён.

Калі 2 кастрычніка або 2 красавіка прыпадаюць на нерабочы дзень, то сесія адкрываецца ў першы наступны за ім рабочы дзень.

Палата прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі ў выпадку асаблівай неабходнасці склікаюцца на нечарговую сесію па ініцыятыве Прэзідэнта, а таксама па патрабаванню большасці не менш як дзве трэці галасоў ад поўнага складу кожнай з палат па вызначаным парадку дня.

Нечарговыя сесіі адкрываюцца ўказамі Прэзідэнта.

Артыкул 96: Палата прадстаўнікоў выбірае са свайго складу Старшыню Палаты прадстаўнікоў і яго намесніка.

Савет Рэспублікі выбірае са свайго складу Старшыню Савета Рэспублікі і яго намесніка.

Старшыні Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі, іх намеснікі вядуць пасяджэнні і кіруюць унутраным распарадкам палат.

Палата прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі са свайго складу выбіраюць пастаянныя камісіі і іншыя органы для вядзення законапраектнай работы, папярэдняга разгляду і падрыхтоўкі пытанняў, якія адносяцца да ведання палат.

Артыкул 97. Палата прадстаўнікоў:

1) разглядае па прапанове Прэзідэнта або па ініцыятыве не менш як 150 тысяч грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія валодаюць выбарчым правам, праекты законаў аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю, аб тлумачэнні Канстытуцыі;

2) разглядае праекты законаў, у тым ліку аб зацвярджэнні асноўных напрамкаў унутранай і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь; ваеннай дактрыны; аб ратыфікацыі і дэнансацыі міжнародных дагавораў; аб асноўным змесце і прынцыпах ажыццяўлення правоў, свабод і абавязкаў грамадзян; аб грамадзянстве, статусе іншаземцаў і асоб без грамадзянства; аб правах нацыянальных меншасцей; аб зацвярджэнні рэспубліканскага бюджэту і справаздачы аб яго выкананні; устанаўленні рэспубліканскіх падаткаў і збораў; аб прынцыпах ажыццяўлення адносін уласнасці; аб асновах сацыяльнай абароны; аб прынцыпах рэгулявання працы і занятасці; аб шлюбе, сям'і, дзяцінстве, мацярынстве, бацькоўстве, выхаванні, адукацыі, культуры і ахове здароўя; аб ахове навакольнага асяроддзя і рацыянальным выкарыстанні прыродных рэсурсаў; аб вызначэнні парадку вырашэння пытанняў адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкавання дзяржавы; аб мясцовым самакіраванні; аб судаўладкаванні, судаводстве і статусе суддзяў; аб крымінальнай адказнасці; аб амністыі; аб абвяшчэнні вайны і заключэнні міру; аб прававым рэжыме ваеннага і надзвычайнага становішча; аб устанаўленні дзяржаўных узнагарод; аб тлумачэнні законаў;

3) назначае выбары Прэзідэнта;

4) дае згоду Прэзідэнту на назначэнне Прэм'ер-міністра;

5) заслухоўвае даклад Прэм'ер-міністра аб праграме дзейнасці Урада і адабрае або адхіляе праграму; паўторнае адхіленне палатай праграмы азначае выказванне вотуму недаверу Ураду;

6) разглядае па ініцыятыве Прэм'ер-міністра пытанне аб даверы Ураду;

7) па ініцыятыве не менш як адной трэці ад поўнага складу Палаты прадстаўнікоў выказвае вотум недаверу Ураду; пытанне аб адказнасці Урада не можа быць пастаўлена на працягу года пасля адабрэння праграмы яго дзейнасці;

8) прымае адстаўку Прэзідэнта;

9) выстаўляе большасцю галасоў ад поўнага складу Палаты прадстаўнікоў абвінавачанне супраць Прэзідэнта ва ўчыненні дзяржаўнай здрады або іншага цяжкага злачынства; на падставе адпаведнага рашэння Савета Рэспублікі прымае большасцю не менш як дзве трэці галасоў ад поўнага складу рашэнне аб зняцці Прэзідэнта з пасады;

10) адмяняе распараджэнні Старшыні Палаты прадстаўнікоў.

Палата прадстаўнікоў можа прымаць рашэнні па іншых пытаннях, калі гэта прадугледжана Канстытуцыяй.

Артыкул 98. Савет Рэспублікі:

1) адабрае або адхіляе прынятыя Палатай прадстаўнікоў праекты законаў аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю; аб тлумачэнні Канстытуцыі; праекты іншых законаў;

2) дае згоду на назначэнне Прэзідэнтам Старшыні Канстытуцыйнага Суда, Старшыні і суддзяў Вярхоўнага Суда, Старшыні і суддзяў Вышэйшага Гаспадарчага Суда, Старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, Генеральнага пракурора, Старшыні і членаў Праўлення Нацыянальнага банка;

3) выбірае шэсць суддзяў Канстытуцыйнага Суда;

4) выбірае шэсць членаў Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў;

5) адмяняе рашэнні мясцовых Саветаў дэпутатаў, якія не адпавядаюць заканадаўству;

6) прымае рашэнне аб роспуску мясцовага Савета дэпутатаў у выпадку сістэматычнага або грубага парушэння ім патрабаванняў заканадаўства і ў іншых выпадках, прадугледжаных законам;

7) разглядае выстаўленае Палатай прадстаўнікоў абвінавачанне супраць Прэзідэнта ва ўчыненні дзяржаўнай здрады або іншага цяжкага злачынства, прымае рашэнне аб яго расследаванні. Пры наяўнасці падстаў большасцю не менш як дзвюма трацямі галасоў ад поўнага складу прымае рашэнне аб зняцці Прэзідэнта з пасады;

8) разглядае ўказы Прэзідэнта аб увядзенні надзвычайнага становішча, ваеннага становішча, поўнай або частковай мабілізацыі і не пазней як у трохдзённы тэрмін пасля іх унясення прымае адпаведнае рашэнне.

Савет Рэспублікі можа прымаць рашэнні па іншых пытаннях, калі гэта прадугледжана Канстытуцыяй.

Артыкул 99. Права заканадаўчай ініцыятывы належыць Прэзідэнту, дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, Савету Рэспублікі, Ураду, а таксама грамадзянам, якія валодаюць выбарчым правам, у колькасці не менш як 50 тысяч чалавек і рэалізуецца ў Палаце прадстаўнікоў.

Законапраекты, вынікам прыняцця якіх можа быць скарачэнне дзяржаўных сродкаў, стварэнне або павелічэнне расходаў, могуць уносіцца ў Палату прадстаўнікоў толькі са згоды Прэзідэнта або па яго даручэнню - Урада.

Прэзідэнт або па яго даручэнню Урад маюць права ўносіць прапановы ў Палату прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі аб абвяшчэнні разгляду праекта закона тэрміновым. Палата прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі у гэтым выпадку павінны разгледзець дадзены праект на працягу дзесяці дзён з дня ўнясення на іх разгляд.

Па патрабаванню Прэзідэнта або, з яго згоды, Урада Палата прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі на сваіх пасяджэннях прымаюць рашэнні, галасуючы ў цэлым за ўвесь унесены Прэзідэнтам або Урадам праект ці яго частку, захаваўшы толькі тыя папраўкі, якія прапанаваны ці прыняты Прэзідэнтам або Урадам.

Артыкул 100. Любы законапраект, калі іншае не прадугледжана Канстытуцыяй, спачатку разглядаецца ў Палаце прадстаўнікоў, а потым у Савеце Рэспублікі.

Законапраект, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных Канстытуцыяй, становіцца законам пасля прыняцця Палатай прадстаўнікоў і адабрэння Саветам Рэспублікі большасцю галасоў ад поўнага складу кожнай палаты.

Прынятыя Палатай прадстаўнікоў законапраекты на працягу пяці дзён перадаюцца на разгляд у Савет Рэспублікі, дзе могуць разглядацца не больш як дваццаць дзён, калі іншае не прадугледжана Канстытуцыяй.

Закон лічыцца адобраным Саветам Рэспублікі, калі за яго прагаласавала большасць ад поўнага складу Савета Рэспублікі, або калі на працягу дваццаці дзён, а пры абвяшчэнні законапраекта тэрміновым - дзесяці дзён з дня ўнясення ён не быў разгледжаны Саветам Рэспублікі. У выпадку адхілення законапраекта Саветам Рэспублікі палаты могуць стварыць пагаджальную камісію, якая фарміруецца на парытэтнай аснове, для пераадолення ўзнікшых рознагалоссяў. Тэкст законапраекта, выпрацаваны пагаджальнай камісіяй, прадстаўляецца на адабрэнне абедзвюх палат.

Калі пагаджальнай камісіяй не прыняты ўзгоднены тэкст законапраекта, Прэзідэнт або па яго даручэнню Урад могуць запатрабаваць, каб Палата прадстаўнікоў прыняла канчатковае рашэнне. Закон лічыцца прынятым Палатай прадстаўнікоў пры ўмове, што за яго прагаласавала не менш як дзве трэці ад поўнага складу Палаты прадстаўнікоў.

Закон, прыняты Палатай прадстаўнікоў і адобраны Саветам Рэспублікі, або прыняты Палатай прадстаўнікоў у парадку, прадугледжаным дадзеным артыкулам, прадстаўляецца ў дзесяцідзённы тэрмін Прэзідэнту на подпіс. Калі Прэзідэнт згодны з тэкстам закона, ён яго падпісвае. Калі Прэзідэнт не вяртае які-небудзь закон на працягу двух тыдняў пасля таго, як ён быў яму прадстаўлены, закон лічыцца падпісаным. Закон не лічыцца падпісаным і не ўступае ў сілу, калі ён не мог быць вернуты ў Парламент у сувязі з заканчэннем сесіі.

Пры нязгодзе з тэкстам закона Прэзідэнт вяртае яго са сваімі пярэчаннямі ў Палату прадстаўнікоў, якая павінна разгледзець закон з пярэчаннямі Прэзідэнта не пазней як праз трыццаць дзён. Калі закон будзе прыняты Палатай прадстаўнікоў большасцю не менш як дзве трэці галасоў ад поўнага складу, ён разам з пярэчаннямі Прэзідэнта ў пяцідзённы тэрмін накіроўваецца ў Савет Рэспублікі, які таксама павінен разгледзець яго паўторна не пазней як праз дваццаць дзён. Закон лічыцца прынятым, калі ён адобраны большасцю не менш як дзвюма трацямі галасоў ад поўнага складу Савета Рэспублікі. Закон пасля пераадолення Палатай прадстаўнікоў і Саветам Рэспублікі пярэчанняў Прэзідэнта падпісваецца Прэзідэнтам у пяцідзённы тэрмін. Закон уступае ў сілу і ў тым выпадку, калі ён не будзе падпісаны Прэзідэнтам у гэты тэрмін.

У такім жа парадку палатамі разглядаюцца пярэчанні Прэзідэнта на асобныя палажэнні закона, якія вяртаюцца для паўторнага галасавання. У гэтым выпадку да вынясення адпаведнага рашэння Палатай прадстаўнікоў і Саветам Рэспублікі закон падпісваецца Прэзідэнтам і ўступае ў сілу, за выключэннем тых палажэнняў, адносна якіх маюцца пярэчанні Прэзідэнта.

Артыкул 101. Палата прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі законам, прынятым большасцю галасоў ад поўнага складу палат, па прапанове Прэзідэнта могуць дэлегаваць яму заканадаўчыя паўнамоцтвы на выданне дэкрэтаў, якія маюць сілу закона. Гэты закон павінен вызначаць прадмет рэгулявання і тэрмін паўнамоцтваў Прэзідэнта на выданне дэкрэтаў.

Не дапускаецца дэлегаванне паўнамоцтваў Прэзідэнту на выданне дэкрэтаў, якія прадугледжваюць змяненне і дапаўненне Канстытуцыі, яе тлумачэнне; змяненне і дапаўненне праграмных законаў; зацвярджэнне рэспубліканскага бюджэту і справаздачы аб яго выкананні; змяненне парадку выбараў Прэзідэнта і Парламента, абмежаванне канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян. Закон аб дэлегаванні заканадаўчых паўнамоцтваў Прэзідэнту не можа дазваляць яму змяненне гэтага закона, а таксама прадастаўляць права прымаць нормы, якія маюць зваротную сілу.

З прычыны асаблівай неабходнасці Прэзідэнт па сваёй ініцыятыве або па прапанове Урада можа выдаваць часовыя дэкрэты, якія маюць сілу закона. Калі такія дэкрэты выдаюцца па прапанове Урада, яны змацоўваюцца подпісам Прэм'ер-міністра. Часовыя дэкрэты павінны быць у трохдзённы тэрмін прадстаўлены для наступнага разгляду Палатай прадстаўнікоў, а потым Саветам Рэспублікі. Гэтыя дэкрэты захоўваюць сілу, калі яны не адменены большасцю не менш як дзве трэці галасоў ад поўнага складу кожнай з палат. Палаты могуць рэгуляваць законам адносіны, што ўзніклі на аснове дэкрэтаў, якія адменены.

Артыкул 102. Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў і члены Савета Рэспублікі карыстаюцца недатыкальнасцю пры выказванні сваіх меркаванняў і ажыццяўленні сваіх паўнамоцтваў. Гэта не адносіцца да абвінавачання іх у паклёпе і знявазе.

На працягу тэрміну сваіх паўнамоцтваў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў і члены Савета Рэспублікі могуць быць арыштаваны, іншым чынам пазбаўлены асабістай свабоды толькі з папярэдняй згоды адпаведнай палаты, за выключэннем учынення дзяржаўнай здрады або іншага цяжкага злачынства, а таксама затрымання на месцы ўчынення злачынства.

Крымінальная справа ў дачыненні да дэпутата Палаты прадстаўнікоў або члена Савета Рэспублікі разглядаецца Вярхоўным Судом.

Артыкул 103. Пасяджэнні палат з'яўляюцца адкрытымі. Палаты, калі гэтага патрабуюць інтарэсы дзяржавы, могуць прыняць рашэнне аб правядзенні закрытага пасяджэння большасцю галасоў ад іх поўнага складу. У час пасяджэнняў, у тым ліку і закрытых, Прэзідэнт, яго прадстаўнікі, Прэм'ер-міністр і члены Урада могуць выступаць без чаргі тых, хто запісаўся для выступлення, столькі разоў, колькі яны гэтага запатрабуюць.

Адно пасяджэнне ў месяц рэзервуецца для пытанняў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і членаў Савета Рэспублікі і адказаў Урада.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі мае права звярнуцца з запытам да Прэм'ер-міністра, членаў Урада, кіраўнікоў дзяржаўных органаў, што ўтвараюцца або выбіраюцца Парламентам. Запыт павінен быць уключаны ў парадак дня палаты. Адказ на запыт належыць даць на працягу дваццаці сесійных дзён у парадку, устаноўленым палатай Парламента.

Пасяджэнне палаты лічыцца правамоцным пры ўмове, што на ім прысутнічае не менш як дзве трэці дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў або членаў Савета Рэспублікі ад поўнага складу палаты.

Галасаванне ў Палаце прадстаўнікоў і Савеце Рэспублікі адкрытае і ажыццяўляецца асабіста дэпутатам, членам Савета Рэспублікі шляхам падачы голасу «за» або «супраць». Тайнае галасаванне праводзіцца толькі пры вырашэнні кадравых пытанняў.

Артыкул 104. Рашэнні Палаты прадстаўнікоў прымаюцца ў форме законаў і пастаноў. Пастановы Палаты прадстаўнікоў прымаюцца па пытаннях распарадчага і кантрольнага характару.

Рашэнні Савета Рэспублікі прымаюцца ў форме пастаноў.

Рашэнні палат лічацца прынятымі пры ўмове, што за іх прагаласавала большасць ад поўнага складу палат, калі іншае не прадугледжана Канстытуцыяй.

Законы аб асноўных напрамках унутранай і знешняй палітыкі Рэспуб-

**(Заканчэнне на 5-й стар.)**

# КАНСТЫТУЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**(са зმяненнямі і дапаўненнямі)**

(Заканчэнне. Пачатак на 2,3,4-й стар.)

лікі Беларусь, аб ваеннай дактрыне Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца праграмнымі і лічацца прынятымі пры ўмове, калі за іх прагаласавала не менш як дзве трэці ад поўнага складу палат.

Законы падлягаюць неадкладнаму апублікаванню пасля іх падпісання і ўступаюць у сілу праз дзесяць дзён пасля апублікавання, калі ў самім законе не ўстаноўлены іншы тэрмін. У такім жа парадку публікуюцца і ўступаюць у сілу дэкрэты Прэзідэнта.

Закон не мае зваротнай сілы, за выключэннем выпадкаў, калі ён змякчае або адмяняе адказнасць грамадзян.

Артыкул 105. Парадак дзейнасці Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, іх органаў, дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і членаў Савета Рэспублікі вызначаецца рэгламентамі палат, якія падпісваюцца старшынямі палат.

### ГЛАВА 5. УРАД - САВЕТ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Артыкул 106. Выканаўчую ўладу ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляе Урад - Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь - цэнтральны орган дзяржаўнага кіравання.

Урад у сваёй дзейнасці падсправаздачны Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь і адказны перад Парламентам Рэспублікі Беларусь.

Урад складае свае паўнамоцтвы перад нававыбраным Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Урад Рэспублікі Беларусь складаецца з Прэм'ер-міністра, яго намеснікаў і міністраў. У склад Урада могуць уваходзіць і кіраўнікі іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання.

Прэм'ер-міністр назначаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь са згоды Палаты прадстаўнікоў. Рашэнне па гэтаму пытанню прымаецца Палатай прадстаўнікоў не пазней як у двухтыднёвы тэрмін з дня ўнясення прапановы па кандыдатуры Прэм'ер-міністра. У выпадку двухразовай адмовы ў дачы згоды на назначэнне Прэм'ер-міністра Палатай прадстаўнікоў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь мае права назначыць выконваючага абавязкі Прэм'ер-міністра, распусціць Палату прадстаўнікоў і назначыць новыя выбары.

Работай Урада кіруе Прэм'ер-міністр.

Прэм'ер-міністр:

1) ажыццяўляе непасрэднае кіраўніцтва дзейнасцю Урада і нясе персанальную адказнасць за яго работу;

2) падпісвае пастановы Урада;

3) у двухмесячны тэрмін пасля свайго назначэння прадстаўляе Парламенту праграму дзейнасці Урада, а ў выпадку яе адхілення прадстаўляе паўторную праграму дзейнасці Урада на працягу двух месяцаў;

4) інфармуе Прэзідэнта аб асноўных напрамках дзейнасці Урада і аб усіх яго найважнейшых рашэннях;

5) выконвае іншыя функцыі, звязаныя з арганізацыяй і дзейнасцю Урада.

Урад або любы член Урада маюць права заявіць Прэзідэнту аб сваёй адстаўцы, калі лічаць немагчымым далейшае ажыццяўленне ўскладзеных на іх абавязкаў. Урад заяўляе Прэзідэнту аб адстаўцы ў выпадку выказвання Палатай прадстаўнікоў вотуму недаверу Ураду.

Прэм'ер-міністр можа паставіць перад Палатай прадстаўнікоў пытанне аб даверы Ураду па прадстаўленай праграме або з канкрэтнай нагоды. Калі Палата прадстаўнікоў у даверы адмаўляе, Прэзідэнт мае права ў дзесяцідзённы тэрмін прыняць рашэнне аб адстаўцы Урада або аб роспуску Палаты прадстаўнікоў і назначэнні новых выбараў. Пры адхіленні адстаўкі Урад прадаўжае ажыццяўляць свае паўнамоцтвы.

Прэзідэнт мае права па ўласнай ініцыятыве прыняць рашэнне аб адстаўцы Урада і вызваліць ад пасады любога члена Урада.

У выпадку адстаўкі або складання паўнамоцтваў Урад Рэспублікі Беларусь па даручэнню Прэзідэнта прадаўжае ажыццяўляць свае паўнамоцтвы да сфарміравання новага Урада.

Артыкул 107. Урад Рэспублікі Беларусь:

кіруе сістэмай падпарадкаваных яму органаў дзяржаўнага кіравання і іншых органаў выканаўчай улады;

распрацоўвае асноўныя напрамкі ўнутранай і знешняй палітыкі і прымае меры па іх рэалізацыі;

распрацоўвае і прадстаўляе Прэзідэнту для ўнясення ў Парламент праект рэспубліканскага бюджэту і справаздачу аб яго выкананні;

забяспечвае правядзенне адзінай эканамічнай, фінансавай, крэдытнай і грашовай палітыкі, дзяржаўнай палітыкі ў галіне навукі, культуры, адукацыі, аховы здароўя, экалогіі, сацыяльнага забеспячэння і аплаты працы;

прымае меры па забеспячэнню правоў і свабод грамадзян, абароне інтарэсаў дзяржавы, нацыянальнай бяспецы і абараназдольнасці, ахове ўласнасці і грамадскага парадку, барацьбе са злачыннасцю;

выступае ад імя ўласніка ў дачыненні да маёмасці, якая з'яўляецца ўласнасцю Рэспублікі Беларусь, арганізуе кіраванне дзяржаўнай уласнасцю;

забяспечвае выкананне Канстытуцыі, законаў і дэкрэтаў, указаў і распараджэнняў Прэзідэнта;

адмяняе акты міністэрстваў і іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання;

ажыццяўляе іншыя паўнамоцтвы, ускладзеныя на яго Канстытуцыяй, законамі і актамі Прэзідэнта.

Артыкул 108. Урад Рэспублікі Беларусь выдае пастановы, якія маюць абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Прэм'ер-міністр выдае ў межах сваёй кампетэнцыі распараджэнні.

Кампетэнцыя, парадак арганізацыі і дзейнасці Урада вызначаюцца на аснове Канстытуцыі законам аб Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

### ГЛАВА 6. СУД

Артыкул 109. Судовая ўлада ў Рэспубліцы Беларусь належыць судам.

Сістэма судоў будуецца на прынцыпах тэрытарыяльнасці і спецыялізацыі.

Судаўладкаванне ў Рэспубліцы Беларусь вызначаецца законам.

Утварэнне надзвычайных судоў забараняецца.

Артыкул 110. Суддзі пры ажыццяўленні правасуддзя незалежныя і падпарадкоўваюцца толькі закону.

Якое-небудзь умяшанне ў дзейнасць суддзяў па выкананню правасуддзя недапушчальнае і цягне адказнасць па закону.

Артыкул 111. Суддзі не могуць ажыццяўляць прадпрымальніцкую дзейнасць, выконваць іншую аплачваемую работу, акрамя выкладчыцкай і навукова-даследчай.

Падставы для выбрання (назначэння) суддзяў на пасады і іх вызвалення прадугледжваюцца законам.

Артыкул 112. Суды ажыццяўляюць правасуддзе на аснове Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёю іншых нарматыўных актаў.

Калі пры разглядзе канкрэтнай справы суд прыйдзе да вываду аб неадпаведнасці нарматыўнага акта Канстытуцыі, ён прымае рашэнне ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і ставіць ва ўстаноўленым парадку пытанне аб прызнанні дадзенага нарматыўнага акта неканстытуцыйным.

Артыкул 113. Справы ў судах разглядаюцца калегіяльна, а ў прадугледжаных законам выпадках - аднаасобна суддзямі.

Артыкул 114. Разбор спраў ва ўсіх судах адкрыты.

Слуханне спраў у закрытым судовым пасяджэнні дапускаецца толькі ў выпадках, вызначаных законам, з выкананнем усіх правілаў судаводства.

Артыкул 115. Правасуддзе ажыццяўляецца на аснове спаборнасці і роўнасці бакоў у працэсе.

Судовыя пастановы з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх грамадзян і службовых асоб.

Бакі і асобы, якія ўдзельнічаюць у працэсе, маюць права на абскарджанне рашэнняў, прыгавораў і іншых судовых пастаноў.

Артыкул 116. Кантроль за канстытуцыйнасцю нарматыўных актаў у дзяржаве ажыццяўляецца Канстытуцыйным Судом Рэспублікі Беларусь.

Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь фарміруецца ў колькасці 12 суддзяў з высокакваліфікаваных спецыялістаў у галіне права, якія маюць, як правіла, вучоную ступень.

Шэсць суддзяў Канстытуцыйнага Суда назначаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, шэсць суддзяў выбіраюцца Саветам Рэспублікі. Старшыня Канстытуцыйнага Суда назначаецца Прэзідэнтам са згоды Савета Рэспублікі. Тэрмін паўнамоцтваў членаў Канстытуцыйнага Суда - 11 гадоў. Гранічны ўзрост членаў Канстытуцыйнага Суда - 70 гадоў.

Канстытуцыйны Суд па прапановах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь, Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь дае заключэнні:

аб адпаведнасці законаў, дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта, міжнародных дагаворных і іншых абавязацельстваў Рэспублікі Беларусь Канстытуцыі і міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь;

аб адпаведнасці актаў міждзяржаўных утварэнняў, у якія ўваходзіць Рэспубліка Беларусь, указаў Прэзідэнта, выдадзеных у мэтах выканання закона, Канстытуцыі, міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь, законам і дэкрэтам;

аб адпаведнасці пастаноў Савета Міністраў, актаў Вярхоўнага Суда, Вышэйшага Гаспадарчага Суда, Генеральнага пракурора Канстытуцыі, міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь, законам, дэкрэтам і ўказам;

аб адпаведнасці актаў любога другога дзяржаўнага органа Канстытуцыі, міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь, законам, дэкрэтам і ўказам.

Нарматыўныя акты або іх асобныя палажэнні, прызнаныя неканстытуцыйнымі, страчваюць сілу ў парадку, што вызначаецца законам.

У выпадках, прадугледжаных Канстытуцыяй, Канстытуцыйны Суд па прапанове Прэзідэнта дае заключэнне аб наяўнасці фактаў сістэматычнага або грубага парушэння палатамі Парламента Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Кампетэнцыя, арганізацыя і парадак дзейнасці Канстытуцыйнага Суда вызначаюцца законам.

## РАЗДЗЕЛ V. МЯСЦОВАЕ КІРАВАННЕ І САМАКІРАВАННЕ

Артыкул 117. Мясцовае кіраванне і самакіраванне ажыццяўляецца грамадзянамі праз мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы, органы тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання, мясцовыя рэферэндумы, сходы і іншыя формы прамога ўдзелу ў дзяржаўных і грамадскіх справах.

Артыкул 118. Мясцовыя Саветы дэпутатаў выбіраюцца грамадзянамі адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак тэрмінам на чатыры гады.

Артыкул 119. Кіраўнікі мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў назначаюцца на пасаду і вызваляюцца ад пасады Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь або ва ўстаноўленым ім парадку і зацвярджаюцца на пасадзе адпаведнымі мясцовымі Саветамі дэпутатаў.

Артыкул 120. Мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы ў межах кампетэнцыі вырашаюць пытанні мясцовага значэння зыходзячы з агульнадзяржаўных інтарэсаў і інтарэсаў насельніцтва, якое пражывае на адпаведнай тэрыторыі, выконваюць рашэнні вышэйстаячых дзяржаўных органаў.

Артыкул 121. Да выключнай кампетэнцыі мясцовых Саветаў дэпутатаў належаць:

зацвярджэнне праграм эканамічнага і сацыяльнага развіцця, мясцовых бюджэтаў і справаздач аб іх выкананні;

устанаўленне ў адпаведнасці з законам мясцовых падаткаў і збораў;

вызначэнне ў межах, устаноўленых законам, парадку кіравання і распараджэння камунальнай уласнасцю;

назначэнне мясцовых рэферэндумаў.

Артыкул 122. Мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы на падставе дзеючага заканадаўства прымаюць рашэнні, якія маюць абавязковую сілу на адпаведнай тэрыторыі.

Рашэнні мясцовых Саветаў дэпутатаў, якія не адпавядаюць заканадаўству, адмяняюцца вышэйстаячымі прадстаўнічымі органамі.

Рашэнні мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, якія не адпавядаюць заканадаўству, адмяняюцца адпаведнымі Саветамі дэпутатаў, вышэйстаячымі выканаўчымі і распарадчымі органамі, а таксама Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Рашэнні мясцовых Саветаў дэпутатаў, выканаўчых і распарадчых органаў, якія абмяжоўваюць ці парушаюць правы, свабоды і законныя інтарэсы грамадзян, а таксама ў іншых прадугледжаных заканадаўствам выпадках могуць быць абскарджаны ў судовым парадку.

Артыкул 123. У выпадку сістэматычнага або грубага парушэння мясцовым Саветам дэпутатаў патрабаванняў заканадаўства ён можа быць распушчаны Саветам Рэспублікі. Іншыя падставы датэрміновага спынення паўнамоцтваў мясцовых Саветаў дэпутатаў вызначаюцца законам.

Артыкул 124. Кампетэнцыя, парадак стварэння і дзейнасці органаў мясцовага кіравання і самакіравання вызначаюцца заканадаўствам.

## РАЗДЗЕЛ VI. ПРАКУРАТУРА. КАМІТЭТ ДЗЯРЖАЎНАГА КАНТРОЛЮ

### ГЛАВА 7. ПРАКУРАТУРА

Артыкул 125. Нагляд за дакладным і аднастайным выкананнем законаў, дэкрэтаў, указаў і іншых нарматыўных актаў міністэрствамі і другімі падведамнымі Савету Міністраў органамі, мясцовымі прадстаўнічымі і выканаўчымі органамі, прадпрыемствамі, арганізацыямі і ўстановамі, грамадскімі аб'яднаннямі, службовымі асобамі і грамадзянамі ўскладаецца на Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь і падначаленых яму пракурораў.

Пракуратура ажыццяўляе нагляд за выкананнем законаў пры расследаванні злачынстваў, адпаведнасцю закону судовых рашэнняў па грамадзянскіх, крымінальных справах і справах аб адміністрацыйных правапарушэннях, у выпадках, прадугледжаных законам, праводзіць папярэдняе следства, падтрымлівае дзяржаўнае абвінавачанне ў судах.

Артыкул 126. Адзіную і цэнтралізаваную сістэму органаў пракуратуры ўзначальвае Генеральны пракурор, які назначаецца Прэзідэнтам са згоды Савета Рэспублікі.

Ніжэйстаячыя пракуроры назначаюцца Генеральным пракурорам.

Артыкул 127. Генеральны пракурор і ніжэйстаячыя пракуроры незалежныя ў ажыццяўленні сваіх паўнамоцтваў і кіруюцца заканадаўствам. У сваёй дзейнасці Генеральны пракурор падсправаздачны Прэзідэнту.

Артыкул 128. Кампетэнцыя, арганізацыя і парадак дзейнасці органаў пракуратуры вызначаюцца заканадаўствам.

### ГЛАВА 8. КАМІТЭТ ДЗЯРЖАЎНАГА КАНТРОЛЮ

Артыкул 129. Дзяржаўны кантроль за выкананнем рэспубліканскага бюджэту, выкарыстаннем дзяржаўнай уласнасці, выкананнем актаў Прэзідэнта, Парламента, Урада і іншых дзяржаўных органаў, якія рэгулююць адносіны дзяржаўнай уласнасці, гаспадарчыя, фінансавыя і падатковыя адносіны, ажыццяўляе Камітэт дзяржаўнага кантролю.

Артыкул 130. Камітэт дзяржаўнага кантролю ўтвараецца Прэзідэнтам.

Старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю назначаецца Прэзідэнтам.

Артыкул 131. Кампетэнцыя, арганізацыя і парадак дзейнасці Камітэта дзяржаўнага кантролю вызначаюцца заканадаўствам.

## РАЗДЗЕЛ VII. ФІНАНСАВА-КРЭДЫТНАЯ СІСТЭМА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Артыкул 132. Фінансава-крэдытная сістэма Рэспублікі Беларусь уключае бюджэтную сістэму, банкаўскую сістэму, а таксама фінансавыя сродкі пазабюджэтных фондаў, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадзян.

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь праводзіцца адзіная бюджэтна-фінансавая, падатковая, грашова-крэдытная, валютная палітыка.

Артыкул 133. Бюджэтная сістэма Рэспублікі Беларусь уключае рэспубліканскі і мясцовыя бюджэты.

Даходы бюджэту фарміруюцца за кошт падаткаў, якія вызначаюцца законам, іншых абавязковых плацяжоў, а таксама іншых паступленняў.

Агульнадзяржаўныя расходы ажыццяўляюцца за кошт рэспубліканскага бюджэту ў адпаведнасці з яго расходнай часткай.

У адпаведнасці з законам у Рэспубліцы Беларусь могуць ствараццa пазабюджэтныя фонды.

Артыкул 134. Парадак складання, зацвярджэння і выканання бюджэтаў і дзяржаўных пазабюджэтных фондаў вызначаецца законам.

Артыкул 135. Справаздача аб выкананні рэспубліканскага бюджэту прадстаўляецца на разгляд Парламента не пазней пяці месяцаў з дня заканчэння справаздачнага фінансавага года.

Справаздачы аб выкананні мясцовых бюджэтаў падаюцца на разгляд адпаведных Саветаў дэпутатаў у вызначаны заканадаўствам тэрмін.

Справаздачы аб выкананні рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў публікуюцца.

Артыкул 136. Банкаўская сістэма Рэспублікі Беларусь складаецца з Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь і іншых банкаў. Нацыянальны банк рэгулюе крэдытныя адносіны, грашовае абарачэнне, вызначае парадак разлікаў і валодае выключным правам эмісіі грошай.

## РАЗДЗЕЛ VIII. ДЗЕЯННЕ КАНСТЫТУЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І ПАРАДАК ЯЕ ЗМЯНЕННЯ

Артыкул 137. Канстытуцыя валодае найвышэйшай юрыдычнай сілай. Законы, дэкрэты, указы і іншыя акты дзяржаўных органаў выдаюцца на падставе і ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

У выпадку разыходжання закона, дэкрэта або ўказа з Канстытуцыяй дзейнічае Канстытуцыя.

У выпадку разыходжання дэкрэта або ўказа з законам закон мае вяршэнства толькі тады, калі паўнамоцтвы на выданне дэкрэта або ўказа былі прадастаўлены законам.

Артыкул 138. Пытанне аб змяненні і дапаўненні Канстытуцыі разглядаецца палатамі Парламента па ініцыятыве Прэзідэнта або не менш як 150 тысяч грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія валодаюць выбарчым правам.

Артыкул 139. Закон аб змяненні і дапаўненні Канстытуцыі можа быць прыняты пасля двух абмеркаванняў і адабрэнняў Парламентам з прамежкам не менш трох месяцаў.

Змяненні і дапаўненні Канстытуцыі Парламентам не праводзяцца ў перыяд надзвычайнага становішча, а таксама ў апошнія шэсць месяцаў паўнамоцтваў Палаты прадстаўнікоў.

Артыкул 140. Канстытуцыя, законы аб унясенні ў яе змяненняў і дапаўненняў, аб увядзенні ў дзеянне ўказаных законаў, акты аб тлумачэнні Канстытуцыі лічацца прынятымі, калі за іх прагаласавала не менш як дзве трэці ад поўнага складу кожнай з палат Парламента.

Змяненні і дапаўненні Канстытуцыі могуць быць праведзены праз рэферэндум. Рашэнне аб змяненні і дапаўненні Канстытуцыі шляхам рэферэндуму лічыцца прынятым, калі за яго прагаласавала большасць грамадзян, унесеных у спісы для галасавання.

Раздзелы I, II, IV, VIII Канстытуцыі могуць быць зменены толькі шляхам рэферэндуму.

## РАЗДЗЕЛ IX. ЗАКЛЮЧНЫЯ І ПЕРАХОДНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

Артыкул 141. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятымі на рэспубліканскім рэферэндуме (гэтая Канстытуцыя), уступае ў сілу з дня яе апублікавання, за выключэннем яе асобных палажэнняў, якія ўступаюць у сілу ў тэрміны, устаноўленыя гэтай Канстытуцыяй. Адначасова спыняецца дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб парадку ўступлення ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь».

Артыкул 142. Законы, указы і іншыя акты, што дзейнічалі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь да ўвядзення ў дзеянне гэтай Канстытуцыі, прымяняюцца ў частцы, якая не супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Артыкул 143. У месячны тэрмін з дня ўступлення ў сілу гэтай Канстытуцыі Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь фарміруюць Палату прадстаўнікоў з ліку дэпутатаў Вярхоўнага Савета, выбраных да дня прызначэння даты правядзення рэспубліканскага рэферэндуму 1996 года. Пры гэтым дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь захоўваюць свае паўнамоцтвы на працягу тэрміну, прадугледжанага гэтай Канстытуцыяй. Тэрмін іх паўнамоцтваў лічыцца з дня ўступлення ў сілу гэтай Канстытуцыі.

Савет Рэспублікі фарміруецца ў парадку, прадугледжаным артыкулам 91 гэтай Канстытуцыі.

Калі ў названы тэрмін склад Палаты прадстаўнікоў не будзе сфарміраваны з прычыны рознагалоссяў паміж Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам, Прэзідэнт у адпаведнасці з пунктамі 2 і 3 артыкула 84 гэтай Канстытуцыі распускае Вярхоўны Савет і прызначае выбары ў Парламент.

Артыкул 144. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь захоўвае свае паўнамоцтвы. Тэрмін яго паўнамоцтваў лічыцца з дня ўступлення ў сілу гэтай Канстытуцыі.

Артыкул 145. Урад Рэспублікі Беларусь набывае з дня ўступлення ў сілу гэтай Канстытуцыі ўстаноўленыя ёю правы і абавязкі.

Артыкул 146. Прэзідэнт, Парламент, Урад на працягу двух месяцаў з дня ўступлення ў сілу гэтай Канстытуцыі ўтвараюць і фарміруюць названыя ў ёй органы ў парадку, устаноўленым гэтай Канстытуцыяй, калі іншае не прадугледжана часткай трэцяй артыкула 143 Канстытуцыі».

**Перадрукоўваецца са спецыяльнага выпуска "Советской Белоруссии" ад 10 лістапада 1996 г.**

ІМЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ЗАКЛЮЧЭННЕ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пунктаў 2.2, 2.5 і 3 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню».

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — Старшыні Канстытуцыйнага суда Ціхіні В. Г., намесніка Старшыні суда Фадзеева В. А., суддзяў Васілевіча Г. А., Вашкевіча А. Е., Кенік К. І., Пастухова М.І., Падгрушы В. В., Серады Н. М., Цішкевіча С. І., Філіпчык Р. І., Чудакова М. Ф.

з удзелам:

прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь як боку па справе, што выдала нарматыўны акт:

Калякіна С. І. — члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

Мануковай Т. А. — сакратара Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню;

Матусевіча А. В. — дырэктара Беларускага інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства;

Юркевіч Г. І. — загадчыцы аддзела экспертна-прававога кіравання Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

экспертаў:

Бараўцова В. А. — дырэктара юрыдычнай фірмы «Бараўцоў і Салей»;

Броўкі Ю. П. — доктара юрыдычных навук, прафесара кафедры міжнароднага права Беларускага дзяржаўнага універсітэта;

Галаўко А. А. — доктара юрыдычных навук, прафесара кафедры канстытуцыйнага права Беларускага дзяржаўнага універсітэта;

Ляўшуновай С. Е. — кандыдата юрыдычных навук, дацэнта, галоўнага эксперта-каардынатара навуковага напрамку Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход-Захад»;

Сажынай В. В. — кандыдата юрыдычных навук, дацэнта кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Беларускага дзяржаўнага універсітэта;

Сільчанка Н. В. — доктара юрыдычных навук, прафесара, загадчыка кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта;

сведкаў:

Абрамовіча А. М. — намесніка Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

Лубоўскага В. Е. — намесніка начальніка Галоўнага кіраўніцтва па рабоце з органамі заканадаўчай і судовай улады Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

Марыскіна А. В. — начальніка Галоўнага кіраўніцтва прававога забеспячэння Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

Пласкавіцкага А. Л. — намесніка начальніка Галоўнага кіраўніцтва прававога забеспячэння Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

разгледзеў у адкрытым судовым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пунктаў 2.2., 2.5 і 3 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню».

У судовым пасяджэнні прынялі ўдзел:

Новікаў В. Н. — Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь,

Міранічэнка І. А. — намеснік Старшыні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь,

Канянкоў В. С. — намеснік Старшыні Вышэйшага Гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь,

Сашчэка І. Ф. — намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь,

Сукала В. А. — Міністр юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Вытворчасць па справе ўзбуджана Канстытуцыйным судом 20 верасня 1996 года на падставе часткі другой артыкула 127 Канстытуцыі, часткі другой артыкула 5 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» на погляд суда. Прычынай да ўзбуджэння вытворчасці па справе з'явілася просьба Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шарэцкага С. Г.

Праверцы належалі пункты 2.2, 2.5 і 3 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 26, арт. 492).

У адпаведнасці з артыкуламі 74 і 83 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанавіў правесці ў Рэспубліцы Беларусь 24 лістапада 1996 года рэспубліканскі рэферэндум, уключыўшы ў бюлетэнь для тайнага галасавання адначасова з іншымі наступныя пытанні:

«Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), прапанаванымі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам» (пункт 2.2).

«Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі дэпутатамі фракцый камуністаў і аграрыяў» (пункт 2.5).

У пункце 3 правяраемага акта Вярхоўны Савет пастанавіў, што ў адпаведнасці з артыкуламі 1, 14, 39 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» пытанні, прадугледжаныя ўказанымі пунктамі Пастановы, выносяцца на абавязковы рэферэндум, рашэнні якога з'яўляюцца канчатковымі і маюць абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Выслухаўшы прадстаўнікоў бакоў па справе, сведкаў, экспертаў, вывучыўшы матэрыялы справы, прааналізаваўшы становішча Канстытуцыі, законаў Рэспублікі Беларусь, іншых нарматыўных актаў, міжнародных дагавораў, вывучыўшы практыку канстытуцыйнага будаўніцтва ў замежных дзяржавах, Канстытуцыйны суд прыйшоў да наступных вывадаў.

Артыкул 73 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь устанаўлівае, што для вырашэння важнейшых пытанняў дзяржаўнага і грамадскага жыцця могуць праводзіцца рэспубліканскія рэферэндумы.

У адпаведнасці з артыкулам 74 Канстытуцыі рэспубліканскія рэферэндумы могуць быць ініцыіраваны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, групай дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў колькасці не менш як 70 чалавек, а таксама грамадзянамі Рэспублікі Беларусь у колькасці не менш 450 тысяч чалавек. Згодна з артыкулам 83 Канстытуцыі права назначаць рэферэндум і ўстанаўліваць дату яго правядзення належыць Вярхоўнаму Савету.

Артыкул 149 Канстытуцыі прадугледжвае магчымасць унясення змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі праз рэферэндум.

Як устаноўлена ў судовым пасяджэнні, Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і групай дэпутатаў Вярхоўнага Савета на разгляд Вярхоўнага Савета былі ўнесены праекты змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Паводле ацэнак беларускіх экспертаў, а таксама замежных вучоных у галіне канстытуцыйнага права ўказаныя змяненні і дапаўненні Канстытуцыі фактычна з'яўляюцца праектамі новай Канстытуцыі. Аднак у дзеючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь няма крытэрыяў ацэнкі аб'ёма і характару ўнесеных у яе змяненняў і дапаўненняў. У сувязі з гэтым суд лічыць, што Вярхоўны Савет меў права вынесці на рэферэндум прапанаваныя ініцыятарамі праекты рашэння.

Канстытуцыяй і Законам «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» не вызначана працэдура ўнясення змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі праз рэферэндум. На думку суда, механізм прыняцця такіх змяненняў і дапаўненняў павінен быць заканадаўча ўрэгуляваны, як гэта зроблена, напрыклад, у адносінах да прыняцця Вярхоўным Саветам змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі. Устанаўленне і захаванне асаблівай працэдуры правядзення канстытуцыйных рэферэндумаў з'яўляецца гарантыяй стабільнасці Канстытуцыі — Асноўнага Закона дзяржавы.

Як сведчыць практыка канстытуцыйнага будаўніцтва многіх замежных дзяржаў, вынясенню на рэферэндум канстытуцыйных праектаў папярэднічае адабрэнне або прыняцце такіх праектаў парламентам. Рэферэндум можа таксама папярэднічаць прыняццю парламентам канчатковых рашэнняў па Канстытуцыі.

Пры назначэнні рэферэндуму на 24 лістапада 1996 года Вярхоўны Савет як вышэйшы прадстаўнічы і адзіны заканадаўчы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь аказаўся фактычна выключаным з канстытуцыйнага працэсу.

З улікам патрабаванняў артыкула 11 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», які прадугледжвае, што пры праверцы акта Канстытуцыйны суд мае на ўвазе як літаральны яго сэнс, так і сэнс, надаваемы яму практыкай прымянення, суд адзначае наступнае.

Наступныя змяненні і дапаўненні, унесеныя ініцыятарамі ў першапачатковыя праекты, выключаюць, на думку суда, магчымасць правядзення рэферэндуму па зацверджаных 6 верасня 1996 года праектах рашэнняў. Таму Вярхоўнаму Савету трэба вярнуцца да перагляду сваёй пастановы ў частцы вынясення на рэферэндум тэкстаў змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі.

Фармуліроўкі пытанняў, якія змешчаны ў п. п. 2.2 і 2.5 правяраемай пастановы Вярхоўнага Савета, не адпавядаюць прад'яўленым артыкулам 3 Закона аб рэферэндуме патрабаванням, а таксама сэнсу вынесеных на рэферэндум праектаў рашэнняў. У адпаведнасці з Законам у бюлетэнь для галасавання павінны ўключацца фармуліроўкі пытанняў, а не фармуліроўкі сцвярджэнняў.

Акрамя таго, нельга прызнаць юрыдычна бездакорнай фармуліроўку пытання аб прыняцці Канстытуцыі 1994 года ў цэлым, паколькі на рэферэндум выносяцца змяненні і дапаўненні Канстытуцыі.

Прымаючы да ўвагі ўказаныя абставіны, суд лічыць, што ўнясенне пытанняў, прадугледжаных п. п. 2.2. і 2.5 правяраемай пастановы Вярхоўнага Савета, на абавязковы рэферэндум, рашэнне якога з'яўляецца канчатковым і зацверджання не патрабуе, неправамернае.

**На падставе выкладзенага і кіруючыся артыкуламі 127, 128, 129 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 36, 38, 40, 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд**

**РАШЫЎ:**

1. Прызнаць неадпавядаючым Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пункт 3 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню» ў частцы вынясення праектаў змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі на абавязковы рэферэндум.

Лічыць гэту норму не маючай юрыдычнай сілы з дня прыняцця.

2. Прапанаваць Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь прывесці пастанову ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню» ў адпаведнасць з гэтым Заключэннем.

3. Апублікаваць гэта Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь», «Народнай газеце», «Звяздзе», а таксама ў тых выданнях, дзе была апублікавана правяраемая пастанова.

4. Гэта Заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця, з'яўляецца канчатковым, абскарджванню і апратэставанню не належыць.

**Старшынствуючы**
**Старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь**
**В. Г. ЦІХІНЯ.**

4 лістапада 1996 г., г. Мінск
№ 3-43/96.

### АСОБАЕ МЕРКАВАННЕ

**суддзяў Канстытуцыйнага суда Васілевіча Г. А., Кенік К. І. і Філіпчык Р. І. па справе «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пунктаў 2.2, 2.5 і 3 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню»**

Заключэннем Канстытуцыйнага суда ад 4 лістапада 1996 года па гэтай справе прызнаны неадпавядаючым Канстытуцыі п. 3 пастановы Вярхоўнага Савета ў частцы вынясення пытанняў, якія прадугледжаны п. п. 2.2 і 2.5, на абавязковы рэферэндум.

Пагаджаючыся з вывадамі суда аб канстытуцыйнасці п. п. 2.2 і 2.5 пастановы, лічым неабгрунтаваным вывад аб тым, што п. 3 пастановы Вярхоўнага Савета ад 6 верасня 1996 года не адпавядае Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь па наступных падставах.

Згодна з часткай другой артыкула 149 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь змяненні і дапаўненні Канстытуцыі могуць быць праведзены праз рэферэндум. Такім чынам, і новая Канстытуцыя можа быць прынята на рэферэндуме.

Артыкул 74 Канстытуцыі прадугледжвае, што рэспубліканскія рэферэндумы назначаюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь па прапанове Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Вярхоўны Савет не пазней як за 30 дзён пасля ўнясення на яго разгляд у адпаведнасці з законам прапаноў Прэзідэнта аб правядзенні рэферэндуму абавязаны назначыць дату правядзення рэспубліканскага рэферэндуму.

У артыкуле 78 Канстытуцыі ўказана, што парадак правядзення рэспубліканскага і мясцовых рэферэндумаў, а таксама пералік пытанняў, якія не могуць быць вынесены на рэферэндум, вызначаюцца законам Рэспублікі Беларусь.

Законам «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» вызначаны парадак правядзення рэспубліканскіх і мясцовых рэферэндумаў, а таксама пералік пытанняў, якія не могуць быць вынесены на рэспубліканскі рэферэндум. Указаным законам дапускаецца прыняцце і змяненне Канстытуцыі шляхам рэферэндуму (артыкул 36).

Законам урэгуляваны парадак прыняцця пастановы Вярхоўнага Савета па прапанове аб правядзенні рэферэндуму па пытаннях прыняцця і змянення Канстытуцыі. Разам з тым адзначаем, што ў законе не ўрэгулявана пытанне аб парадку ўнясення прапаноў Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь на рэферэндум і разгляду іх Вярхоўным Саветам, так званы даны закон прымаўся ў 1991 г. Аднак адсутнасць у законе такіх нормаў не з'яўляецца падставай для прызнання неканстытуцыйнай пастановы Вярхоўнага Савета.

У адпаведнасці з артыкуламі 14 і 15 Закона аб народным галасаванні (рэферэндуме) Вярхоўны Савет па атрыманні афармленай у належным парадку прапановы аб правядзенні рэферэндуму разглядае пытанне аб назначэнні даты абавязковага або кансультатыўнага рэферэндуму і мерах па яго забеспячэнню.

У пастанове Вярхоўнага Савета аб назначэнні рэферэндума ўказваюцца дата правядзення рэферэндума, фармулёўка пастаўленага на рэферэндум пытання для далейшага ўключэння ў бюлетэнь.

Судом устаноўлена, што 7 жніўня 1996 г. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь звярнуўся ў Вярхоўны Савет з прапановай назначыць рэспубліканскі рэферэндум, а 30 жніўня 1996 года ўнёс праект Закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь», а таксама праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь).

5 верасня 1996 года дэпутаты фракцыі камуністаў і аграрыяў унеслі ў Вярхоўны Савет прапанову аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму па пытанню прыняцця змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю.

Якіх-небудзь парушэнняў у прапановах ініцыятараў не бачым, таму што яны дзейнічалі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і Законам аб народным галасаванні (рэферэндуме).

Вярхоўны Савет разгледзеў прапановы ініцыятараў і прыняў 6 верасня 1996 г. у межах сваёй кампетэнцыі пастанову, якой назначыў дату правядзення рэферэндуму на 24 лістапада 1996 г., уключыўшы пытанні, прапануемыя на рэферэндум.

Вывады ў Заключэнні суда аб тым, што пытанні, указаныя ў пунктах 2.2 і 2.5 пастановы павінны быць вынесены на кансультатыўны, а не на абавязковы рэферэндум, паколькі не ўстаноўлена працэдура прыняцця Канстытуцыі на рэферэндуме, не заснаваны на Канстытуцыі і законе. Абавязковасць наяўнасці працэдуры прыняцця Канстытуцыі на рэферэндуме не прадугледжана ні Канстытуцыяй, ні законамі. Працэдура прыняцця законаў рэферэндумам можа адрозніваца ад працэдуры, прадугледжанай для прыняцця законаў Вярхоўным Саветам.

З улікам выкладзенага, лічым, што Канстытуцыйны суд выйшаў за межы сваіх паўнамоцтваў, вырашаючы пытанне аб тым, які від рэферэндума — абавязковы або кансультатыўны — павінен праводзіцца.

**Суддзі**
**Г. А. ВАСІЛЕВІЧ, К. І. КЕНІК, Р. І. ФІЛІПЧЫК.**

# Закон Рэспублікі Беларусь

## Аб навуковай дзейнасці

Гэты Закон вызначае прававыя асновы і гарантыі ажыццяўлення навуковай дзейнасці і абароны яе вынікаў для ўсіх суб'ектаў і ўдзельнікаў гэтай дзейнасці незалежна ад форм арганізацыі і ўласнасці. Закон накіраваны на стварэнне спрыяльных умоў для ажыццяўлення навуковай дзейнасці і на ўзмацненне дзяржаўнай падтрымкі навукі як неабходнай умовы эканамічнага і сацыяльнага развіцця Рэспублікі Беларусь, павышэння інтэлектуальнага і культурнага ўзроўню яе грамадзян, умацавання аўтарытэту і незалежнасці дзяржавы.

**Глава 1. Агульныя палажэнні**

*Артыкул 1. Асноўныя паняцці, якія выкарыстоўваюцца ў гэтым Законе*

Навуковая дзейнасць — творчая дзейнасць, накіраваная на атрыманне новых ведаў аб чалавеку, прыродзе, грамадстве, штучна створаных аб'ектах і на выкарыстанне навуковых ведаў для распрацоўкі новых спосабаў іх прымянення.

Фундаментальныя навуковыя даследаванні — тэарэтычныя і (або) эксперыментальныя даследаванні, накіраваныя на атрыманне новых ведаў аб асноўных заканамернасцях развіцця прыроды, чалавека, грамадства і штучна створаных аб'ектаў.

Прыкладныя навуковыя даследаванні — даследаванні, накіраваныя на прымяненне вынікаў фундаментальных навуковых даследаванняў, дасягненне практычных мэт і вырашэнне канкрэтных задач.

Падрыхтоўка навуковых работнікаў вышэйшай кваліфікацыі — від навуковай дзейнасці, што ўключае ў сябе вучэбныя мерапрыемствы і правядзенне навуковых даследаванняў з мэтай набыцця навуковым работнікам вышэйшай навуковай кваліфікацыі.

Навуковы работнік — асоба, якая валодае неабходнай кваліфікацыяй і прафесійна займаецца навуковай дзейнасцю. Да навуковых работнікаў прыроўніваюцца асобы, якія вучацца стацыянарна ў аспірантуры, ад'юнктуры, дактарантуры ў парадку, што ўстанаўліваецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Навуковая арганізацыя — юрыдычная асоба або яе структурнае падраздзяленне, у функцыі якіх уваходзіць ажыццяўленне навуковай дзейнасці ў адпаведнасці з артыкулам 3 гэтага Закона.

Дысертацыя — навуковая кваліфікацыйная работа суіскальніка вучонай ступені, прадстаўленая да абароны ў выглядзе спецыяльна падрыхтаванага рукапісу, манаграфіі, падручніка, а ў асобных выпадках — навуковага даклада.

Часовы навуковы калектыў — добраахвотнае аб'яднанне фізічных асоб без утварэння юрыдычнай асобы ў мэтах ажыццяўлення навуковай дзейнасці ў адпаведнасці з атрыманым па конкурсу грантам або ў адпаведнасці з дагаворам.

Навуковы фонд — юрыдычная асоба, якая фінансуе навуковую дзейнасць, як правіла, па выніках адкрытых конкурсаў ад імя дзяржавы, ад свайго імя або ад імя фізічных і юрыдычных асоб, што прынялі ўдзел у заснаванні гэтага фонду. Навуковы фонд дзейнічае на падставе статута, зарэгістраванага ва ўстаноўленым парадку.

Грант — мэтавыя сродкі, якія прадастаўляюцца фізічным і (або) юрыдычным асобам на конкурснай аснове ў грашовай ці натуральнай форме на правядзенне навуковых даследаванняў на ўмовах, што вызначаюцца дагаворам або іншым актам.

Спонсар — юрыдычная або фізічная асоба, якая аказвае бязвыплатную фінансавую і (або) матэрыяльную дапамогу пры ажыццяўленні навуковай дзейнасці.

Інвестар — юрыдычная або фізічная асоба, якая ажыццяўляе ўкладанні ўласных, пазыковых і іншых прыцягнутых маёмасных і інтэлектуальных каштоўнасцей (інвестыцый) у інвестыцыйны праект.

*Артыкул 2. Прававое рэгуляванне адносін у сферы навуковай дзейнасці*

Прававое рэгуляванне адносін у сферы навуковай дзейнасці ажыццяўляецца на падставе гэтага Закона, іншых актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 3. Віды навуковай дзейнасці*

Да відаў навуковай дзейнасці адносяцца:

правядзенне фундаментальных і прыкладных навуковых даследаванняў;

апрабацыя вынікаў навуковых даследаванняў;

падрыхтоўка навуковых работнікаў вышэйшай кваліфікацыі (кандыдатаў і дактароў навук).

*Артыкул 4. Права на ажыццяўленне навуковай дзейнасці*

Права на ажыццяўленне навуковай дзейнасці маюць:

грамадзяне Рэспублікі Беларусь;

юрыдычныя асобы (навуковыя арганізацыі) незалежна ад форм арганізацыі і ўласнасці, зарэгістраваныя ва ўстаноўленым парадку;

часовыя навуковыя калектывы.

Замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, замежныя юрыдычныя асобы і іх структурныя падраздзяленні ажыццяўляюць навуковую дзейнасць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 5. Асноўныя прынцыпы дзяржаўнага рэгулявання навуковай дзейнасці*

Дзяржаўнае рэгуляванне навуковай дзейнасці грунтуецца на наступных асноўных прынцыпах:

неўмяшання органаў дзяржаўнай улады і іх службовых асоб у працэс навуковай дзейнасці, акрамя выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

роўнасці ўсіх суб'ектаў навуковай дзейнасці перад законам;

свабоды выбару напрамкаў навуковай дзейнасці для ўсіх суб'ектаў навуковай дзейнасці ў межах іх кампетэнцыі;

прадастаўлення грамадзянам Рэспублікі Беларусь роўных магчымасцей набыцця і павышэння навуковай кваліфікацыі;

стымулявання навуковай дзейнасці, кантролю і адказнасці за вынікі навуковай дзейнасці для ўсіх суб'ектаў навуковай дзейнасці незалежна ад форм арганізацыі і ўласнасці;

абавязковасці, аб'ектыўнасці і кампетэнтнасці дзяржаўнай экспертызы навукова-тэхнічных праграм, асобных праектаў і вынікаў навуковай дзейнасці;

забеспячэння прававой абароны вынікаў навуковай дзейнасці;

канцэнтрацыі навуковага патэнцыялу і фінансавых сродкаў на прыярытэтных напрамках;

стварэння спрыяльных умоў для інвесціравання і спонсарскай падтрымкі навуковай дзейнасці шляхам прадастаўлення падатковых ільгот;

уліку інтарэсаў асобы, грамадства, дзяржавы.

Вынікі навуковых даследаванняў, выкананых па праграмах міжнароднага навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва, а таксама па заказах або пры фінансавай падтрымцы замежных арганізацый і фондаў, падлягаюць дзяржаўнаму кантролю ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 6. Дзяржаўнае фінансаванне навуковай дзейнасці*

У мэтах забеспячэння належных прававых гарантый і матэрыяльных умоў развіцця навукі штогод забяспечваецца дзяржаўнае фінансаванне навуковай дзейнасці з рэспубліканскага бюджэту, якое з'яўляецца абароненым артыкулам бягучых расходаў бюджэтнай класіфікацыі. Напрамкі выкарыстання сродкаў, прадугледжаных у рэспубліканскім бюджэце, вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 7. Арганізацыйная сістэма навуковай дзейнасці*

У арганізацыйную сістэму навуковай дзейнасці ўваходзяць:

вышэйшыя органы заканадаўчай і выканаўчай улады;

міністэрствы, дзяржаўныя камітэты і іншыя цэнтральныя органы дзяржаўнага кіравання;

Нацыянальная Акадэмія навук Беларусі;

галіновыя і іншыя акадэміі навук;

навуковыя фонды.

Нацыянальная Акадэмія навук Беларусі з'яўляецца самакіравальнай навуковай арганізацыяй, якой заканадаўствам Рэспублікі Беларусь прадастаўлены адпаведны статус. Сродкі на яе дзейнасць штогод вызначаюцца ў бюджэце Рэспублікі Беларусь асобным радком.

Дзейнасць іншых юрыдычных асоб, якія ўваходзяць у арганізацыйную сістэму навуковай дзейнасці, рэгулюецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

У арганізацыйную сістэму навуковай дзейнасці могуць уваходзіць іншыя юрыдычныя асобы, створаныя ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Глава 2. Суб'екты і ўдзельнікі навуковай дзейнасці**

*Артыкул 8. Суб'екты і ўдзельнікі навуковай дзейнасці*

Суб'ектамі навуковай дзейнасці могуць быць:

фізічныя асобы;

юрыдычныя асобы (навуковыя арганізацыі) незалежна ад форм арганізацыі і ўласнасці;

часовыя навуковыя калектывы.

Удзельнікамі навуковай дзейнасці могуць быць фізічныя і юрыдычныя асобы, якія набылі ва ўстаноўленым законам парадку права на ўдзел у гэтай дзейнасці ў якасці яе інвестараў, заказчыкаў і спонсараў, а таксама тыя з іх, якія ажыццяўляюць інфармацыйнае, патэнтна-ліцэнзійнае, метралагічнае, праграмнае, арганізацыйна-метадычнае і тэхнічнае забеспячэнне навуковай дзейнасці.

Прававы статус суб'ектаў і ўдзельнікаў навуковай дзейнасці вызначаецца гэтым Законам, іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 9. Адносіны паміж суб'ектамі і (або) удзельнікамі навуковай дзейнасці*

Адносіны паміж суб'ектамі і (або) удзельнікамі навуковай дзейнасці будуюцца на аснове заканадаўства Рэспублікі Беларусь і пісьмовага дагавора (кантракта), які заключаецца на аснове добраахвотнасці і раўнапраўя бакоў.

Суб'екты і ўдзельнікі навуковай дзейнасці пры заключэнні дагавора (кантракта) маюць права на выбар партнёраў, вызначэнне абавязацельстваў і ўмоў гаспадарчых узаемаадносін, якія не супярэчаць заканадаўству Рэспублікі Беларусь.

(Заканчэнне на 9-й стар.)

# Аб навуковай дзейнасці

(Заканчэнне. Пачатак на 8-й стар.)

Дагавор (кантракт) можа быць скасаваны па патрабаванню аднаго з бакоў у выпадках, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і дагаворам (кантрактам). Спрэчкі паміж бакамі дагавора (кантракта) разглядаюцца судамі ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Глава 3. Навуковы работнік і яго навуковая кваліфікацыя**

*Артыкул 10. Кваліфікацыя навуковага работніка*

Кваліфікацыя навуковага работніка вызначаецца:

наяўнасцю вышэйшай адукацыі;

наяўнасцю ступені магістра;

праходжаннем спецыяльнай навуковай падрыхтоўкі (аспірантуры, ад'юнктуры, дактарантуры);

наяўнасцю вучонай ступені;

наяўнасцю вучонага звання;

наяўнасцю вучонага звання члена-карэспандэнта і акадэміка нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі;

наяўнасцю вучонага звання члена-карэспандэнта і акадэміка галіновых і іншых акадэмій навук;

наяўнасцю ганаровых званняў і ўзнагарод, прысвоеных за навуковыя дасягненні;

аб'ёмам і ўзроўнем апублікаваных работ, выкананых даследаванняў і распрацовак;

ацэнкамі навуковага супольніцтва і спецыялістаў у адпаведнай галіне ведаў.

Ні адна з пералічаных ацэнак не можа быць абсалютызавана пры вызначэнні кваліфікацыі навуковага работніка.

*Артыкул 11. Падрыхтоўка навуковых работнікаў вышэйшай кваліфікацыі*

Падрыхтоўка навуковых работнікаў вышэйшай кваліфікацыі праводзіцца навуковымі арганізацыямі, вышэйшымі навучальнымі ўстановамі і іншымі арганізацыямі, якія атрымалі на гэта права ва ўстаноўленым парадку. Такая падрыхтоўка ажыццяўляецца праз суіскальніцтва, аспірантуру, ад'юнктуру, дактарантуру.

Падрыхтоўка навуковых работнікаў вышэйшай кваліфікацыі можа ажыццяўляцца таксама і ў замежных навуковых установах і навуковых арганізацыях.

*Артыкул 12. Вучоныя ступені*

У Рэспубліцы Беларусь прысуджваюцца вучоныя ступені кандыдата навук і доктара навук. Гэтыя ступені прысуджваюцца асобам, якія маюць вышэйшую адукацыю, публічна абаранілі падрыхтаваную імі самастойна дысертацыю ў парадку, што вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Дысертацыя павінна абагульняць вынікі навуковых даследаванняў, выкананых аўтарам, і сведчыць аб яго асабістым укладзе ў навуку.

Вучоныя ступені, прысуджаныя ў іншых дзяржавах, прызнаюцца ў Рэспубліцы Беларусь у парадку, які ўстанаўліваецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь, або на аснове міждзяржаўных пагадненняў.

*Артыкул 13. Саветы па абароне дысертацый*

Саветы па абароне дысертацый ствараюцца пры навуковых арганізацыях і вышэйшых навучальных установах. Яны могуць быць створаны некалькімі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі і навуковымі арганізацыямі, у тым ліку з удзелам замежных або міжнародных навуковых арганізацый.

Парадак стварэння і рэгістрацыі саветаў па абароне дысертацый і кантролю за іх дзейнасцю, а таксама працэдура і парадак прысуджэння вучоных ступеней устанаўліваюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 14. Вучоныя званні*

У Рэспубліцы Беларусь прысвойваюцца вучоныя званні дацэнта і прафесара. Гэтыя званні прысвойваюцца асобам, якія маюць вышэйшую адукацыю і дасягненні ў навуковай і навукова-педагагічнай дзейнасці.

Неабходнай умовай пры прысваенні звання прафесара з'яўляецца наяўнасць вучонай ступені. Асаблівасці прысваення вучоных званняў у галіне мастацтва ўстанаўліваюцца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Вучоныя званні дацэнта і прафесара прысвойваюцца ў парадку, які вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 15. Сістэма найму на работу навуковага работніка*

Пасада навуковага работніка замяшчаецца па конкурсу з наступным заключэннем тэрміновага працоўнага дагавора або на падставе індывідуальнага дагавора (кантракта), які заключаецца паміж наймальнікам і навуковым работнікам.

Парадак і ўмовы правядзення конкурсу і заключэння дагавора (кантракта) устанаўліваюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 16. Аплата працы навуковага работніка*

Аплата працы навуковага работніка ў дзяржаўных навуковых арганізацыях ажыццяўляецца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь з улікам вынікаў яго навуковай дзейнасці і навуковай кваліфікацыі.

Аплата працы членаў часовых навуковых калектываў ажыццяўляецца на дагаворнай аснове.

Навуковы работнік, які працуе ў дзяржаўнай навуковай арганізацыі, мае права працаваць у часовых навуковых калектывах і па сумяшчальніцтву з дадатковай аплатай.

Аплата працы навуковага работніка ў навуковых арганізацыях недзяржаўных форм уласнасці ажыццяўляецца па пагадненню бакоў.

Устанавіць з 1 студзеня 1997 года памеры штомесячных даплат за вучоныя званні і ступені:

Акадэмікам і членам-карэспандэнтам нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Акадэміі аграрных навук Рэспублікі Беларусь, асноўным месцам работы якіх з'яўляюцца ўстановы і арганізацыі навукі, адукацыі, культуры, аховы здароўя, а таксама пенсіянерам, якія маюць указаныя званні, — не менш дзевяці і сямі мінімальных заработных плат адпаведна;

дактарам і кандыдатам навук — работнікам арганізацый і ўстаноў, якія фінансуюцца за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту, — не менш шасці і трох мінімальных заработных плат адпаведна (даплаты за вучоныя ступені доктара і кандыдата навук не прымяняюцца да асоб, указаных у абзацы другім дадзенай часткі).

*Артыкул 17. Асноўныя правы навуковага работніка*

Навуковы работнік мае права:

самастойна выбіраць напрамак і метады даследаванняў у адпаведнасці са сваімі навуковымі інтарэсамі і кампетэнцыяй і ў межах напрамкаў даследаванняў навуковай арганізацыі, у якой ён працуе;

удзельнічаць у адкрытых конкурсах навукова-даследчых работ у Рэспубліцы Беларусь і за яе межамі ў адпаведнасці з устаноўленым парадкам;

па запрашэнню зацікаўленага боку прымаць удзел у выбары напрамкаў і прыярытэтаў дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі, правядзенні экспертызы праграм і праектаў, ацэнцы і прагназіраванні сацыяльна-эканамічных вынікаў іх рэалізацыі, падрыхтоўцы заканадаўчых і іншых нарматыўных актаў;

па ўзгадненню з наймальнікам, з якім знаходзіцца ў працоўных адносінах, у парадку конкурсу атрымліваць фінансаванне з дзяржаўнага бюджэту, са сродкаў прадпрыемстваў, грамадскіх аб'яднанняў, фондаў і прыватных асоб. У адносінах да атрыманых такім чынам сродкаў навуковы работнік мае права быць распарадчыкам крэдытаў. Права быць распарадчыкам крэдытаў на аснове дагавора можа перадавацца наймальніку, з якім навуковы работнік знаходзіцца ў працоўных адносінах;

удзельнічаць у конкурсах для атрымання сродкаў на павышэнне сваёй кваліфікацыі;

у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам прымаць удзел у распрацоўцы і рэалізацыі міжнародных навуковых праграм і праектаў;

заключаць кантракты з міжнароднымі арганізацыямі, юрыдычнымі і фізічнымі асобамі для работы як за мяжой, так і на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

інфармаваць грамадства аб выніках сваёй навуковай дзейнасці, калі яны не з'яўляюцца дзяржаўнай або іншай тайнай, якая ахоўваецца законам, а таксама ў межах сваёй кампетэнцыі даваць кансультацыі і экспертныя заключэнні пры прыцягненні яго ва ўстаноўленым парадку ў якасці кансультанта або эксперта;

прыцягваць і выкарыстоўваць для навуковай дзейнасці любыя віды рэсурсаў, уключаючы матэрыяльныя, фінансавыя, працоўныя, інтэлектуальныя, інфармацыйныя і прыродныя, у парадку і на ўмовах, устаноўленых заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

валодаць, карыстацца і распараджацца вынікамі навуковай дзейнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам, статутам навуковай арганізацыі, дагаворам (кантрактам);

па ўзгадненню з наймальнікам прымаць удзел у навуковых канферэнцыях, сімпозіумах, семінарах і нарадах, у тым ліку міжнародных;

на штогадовы аплатны дадатковы водпуск у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

аб'ядноўвацца ў прафесійныя саюзы, асацыяцыі, часовыя навуковыя калектывы.

Работа навуковых і навукова-педагагічных работнікаў у органах дзяржаўнай улады залічваецца ў навукова-педагагічны стаж.

Спрэчкі, якія ўзнікаюць наконт захавання правоў навуковага работніка, разглядаюцца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 18. Адказнасць навуковага работніка*

За невыкананне навуковым работнікам сваіх абавязкаў ён нясе адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Глава 4. Навуковыя арганізацыі**

*Артыкул 19. Навуковыя арганізацыі*

Навуковыя арганізацыі дзейнічаюць на падставе заканадаўства Рэспублікі Беларусь, свайго статута. Парадак стварэння, дзяржаўнай рэгістрацыі, рэарганізацыі і ліквідацыі навуковых арганізацый вызначаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Навуковыя арганізацыі валодаюць, карыстаюцца і распараджаюцца рухомай і нерухомай маёмасцю, якая перадаецца ім заснавальнікамі для ажыццяўлення дзейнасці, вызначанай устаноўчымі дакументамі. Правы і парадак валодання, карыстання і распараджэння маёмасцю навуковых арганізацый вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Навуковыя арганізацыі могуць быць дзяржаўнымі, прыватнымі і (або) заснаванымі на змешанай форме ўласнасці. Навуковыя арганізацыі маюць права ўтвараць асацыяцыі і аб'яднанні ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Змяненне формы ўласнасці навуковых арганізацый ажыццяўляецца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 20. Некамерцыйныя навуковыя арганізацыі*

Некамерцыйнымі незалежна ад форм арганізацыі і ўласнасці лічацца беспрыбытковыя або якія атрымліваюць прыбытак навуковыя арганізацыі, выкарыстоўваюць яго выключна на мэты свайго развіцця, вызначаныя статутам навуковай арганізацыі, і на дабрачынныя мэты.

*Артыкул 21. Кіраўніцтва дзяржаўнай навуковай арганізацыяй*

Кіраўнік дзяржаўнай навуковай арганізацыі выбіраецца (назначаецца) на пасаду ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, статутам навуковай арганізацыі.

У дзяржаўнай навуковай арганізацыі ствараецца Вучоны савет, парадак выбрання і кампетэнцыя якога вызначаюцца статутам навуковай арганізацыі.

*Артыкул 22. Статут дзяржаўнай навуковай арганізацыі*

У статуце дзяржаўнай навуковай арганізацыі павінны быць указаны:

назва, адрас, юрыдычны статус арганізацыі;

асноўныя напрамкі навуковай дзейнасці;

парадак кіравання арганізацыяй і кантролю за яе дзейнасцю;

парадак выбрання (назначэння) кіраўніка арганізацыі;

парадак выбрання Вучонага савета і яго старшыні;

крыніцы фінансавання;

парадак аплаты працы;

парадак рэарганізацыі і ліквідацыі;

парадак утварэння, дзейнасці і ліквідацыі структурных падраздзяленняў і часовых навуковых калектываў;

іншыя звязаныя з асаблівасцямі дзейнасці арганізацыі палажэнні.

Статут дзяржаўнай навуковай арганізацыі зацвярджаецца яе заснавальнікам (заснавальнікамі) і рэгіструецца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 23. Вучоны савет дзяржаўнай навуковай арганізацыі*

У дзяржаўнай навуковай арганізацыі ствараецца Вучоны савет, парадак фарміравання і кампетэнцыя якога вызначаюцца статутам гэтай арганізацыі.

Да выключнай кампетэнцыі Вучонага савета адносяцца:

вызначэнне тэматыкі навуковай дзейнасці арганізацыі;

ацэнка вынікаў навуковай дзейнасці структурных падраздзяленняў, часовых навуковых калектываў, асобных навуковых работнікаў арганізацыі і зацвярджэнне справаздачы аб дзейнасці арганізацыі;

выбранне службовых асоб арганізацыі ў адпаведнасці са статутам;

зацвярджэнне каштарыса расходаў арганізацыі.

*Артыкул 24. Адказнасць навуковых арганізацый і іх службовых асоб*

За парушэнне заканадаўства і свайго статута навуковая арганізацыя і яе службовыя асобы нясуць адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Глава 5. Часовыя навуковыя калектывы**

*Артыкул 25. Заснавальнікі часовых навуковых калектываў*

Заснавальнікамі часовых навуковых калектываў могуць выступаць прадпрыемствы, установы і арганізацыі незалежна ад форм уласнасці, у тым ліку замежныя і міжнародныя, а таксама фізічныя асобы.

Заснавальнік (заснавальнікі) мае права назначаць кіраўніка часовага навуковага калектыву.

*Артыкул 26. Адносіны часовых навуковых калектываў з заснавальнікам (заснавальнікамі)*

Адносіны часовых навуковых калектываў з заснавальнікам (заснавальнікамі) вызначаюцца дагаворам, у якім адлюстроўваюцца патрабаванні артыкула 33 гэтага Закона.

*Артыкул 27. Адносіны паміж членамі часовых навуковых калектываў*

Адносіны паміж членамі часовых навуковых калектываў рэгулююцца пагадненнем, якое зацвярджаецца заснавальнікам часовага навуковага калектыву.

**Глава 6. Вынікі навуковай дзейнасці і іх прававая абарона**

*Артыкул 28. Вынікі навуковай дзейнасці*

Да вынікаў навуковай дзейнасці адносяцца:

новыя веды, атрыманыя тэарэтычна або эксперыментальна і (або) выкладзеныя ў любой форме ці зафіксаваныя на любых матэрыяльных носьбітах інфармацыі, якія дапускаюць іх узнаўленне і (або) практычнае выкарыстанне;

эксперыментальныя (лабараторныя) узоры аб'ектаў і працэсы, створаныя на аснове новых ведаў, а таксама дакументацыя на гэтыя аб'екты і працэсы.

Вынікі навуковай дзейнасці могуць быць канчатковымі, прамежкавымі ці пабочнымі, што павінна адлюстроўвацца ў дагаворы (кантракце) на правядзенне навуковых даследаванняў.

Да вынікаў навуковай дзейнасці, якія маюць канчатковы характар, адносяцца веды і (або) аб'екты, створаныя або атрыманыя як прадугледжаны дагаворам (кантрактам), службовым або спецыяльным заданнем вынік навуковых даследаванняў.

Да вынікаў навуковай дзейнасці, якія маюць прамежкавы характар, адносяцца веды і (або) аб'екты, прадугледжаныя дагаворам (кантрактам), службовым або спецыяльным заданнем, створаныя або атрыманыя ў працэсе правядзення навуковых даследаванняў.

Да вынікаў навуковай дзейнасці, якія маюць пабочны характар, адносяцца веды і (або) аб'екты, створаныя або атрыманыя ў працэсе або ў выніку правядзення навуковых даследаванняў у адпаведнасці з дагаворам (кантрактам), службовым або спецыяльным заданнем, але не прадугледжаныя гэтымі дакументамі і прыгодныя для выкарыстання выключна ў мэтах, што адрозніваюцца ад тых, якія былі агавораны ў дагаворы (кантракце), службовым або спецыяльным заданні.

*Артыкул 29. Ацэнка вынікаў навуковай дзейнасці*

Вынікі навуковай дзейнасці ацэньваюцца па крытэрыях навізны, значнасці для навукі і практыкі, аб'ектыўнасці, доказнасці і дакладнасці. Такая ацэнка праводзіцца ў адпаведнасці з палажэннем, якое распрацоўваецца і зацвярджаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 30. Права ўласнасці на вынікі навуковай дзейнасці*

Правам уласнасці на вынікі навуковай дзейнасці з'яўляецца прызнаная і ахоўваемая законам магчымасць уласніка паводле свайго меркавання валодаць, карыстацца і распараджацца вынікамі гэтай дзейнасці.

Уласнік мае права выконваць у адносінах да вынікаў сваёй навуковай дзейнасці любыя дзеянні, якія не супярэчаць закону або дагавору (кантракту), і выкарыстоўваць іх для ажыццяўлення любой гаспадарчай або іншай дзейнасці, не забароненай законам.

Юрыдычныя і фізічныя асобы могуць быць абмежаваны ў праве распараджацца вынікамі навуковай дзейнасці па меркаваннях бяспекі ці ахоўваемай законам тайны ў адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 31. Падставы для ўзнікнення права ўласнасці на вынікі навуковай дзейнасці*

Права ўласнасці на вынікі навуковай дзейнасці ўзнікае на аснове атрымання канчатковых, прамежкавых або пабочных вынікаў навуковай дзейнасці пры выкананні:

дагавора паміж заказчыкам і выканаўцам;

службовага або спецыяльнага задання асобнымі навуковымі работнікамі, якія дзейнічаюць на аснове працоўнага дагавора (кантракта);

планаў работ навуковых арганізацый;

самастойнай або ініцыятыўнай навуковай работы асобнымі навуковымі работнікамі або іх калектывамі.

*Артыкул 32. Суб'екты права ўласнасці на вынікі навуковай дзейнасці*

Суб'ектамі права ўласнасці на вынікі навуковай дзейнасці з'яўляюцца юрыдычныя або фізічныя асобы (заказчыкі і выканаўцы), якія заключылі дагавор (кантракт) на правядзенне навуковых даследаванняў, ажыццявілі ў адпаведнасці з ім фінансаванне, забяспечылі прадугледжанае дагаворам (кантрактам) прадастаўленне неабходных для правядзення гэтых даследаванняў інфармацыйных даных, вырабаў, матэрыялаў і прынялі ва ўстаноўленым парадку вынікі работ.

Уласнікам вынікаў навуковай дзейнасці, атрыманых пры выкананні службовага або спецыяльнага задання, з'яўляецца юрыдычная асоба, з якой выканаўцы, што ажыццявілі гэтыя работы, знаходзяцца ў працоўных адносінах, калі іншае не прадугледжана працоўным дагаворам.

Уласнікамі вынікаў навуковай дзейнасці, атрыманых пры ініцыятыўным правядзенні навуковых даследаванняў, з'яўляюцца грамадзяне або іх калектывы, якія ажыццявілі гэтыя даследаванні.

Уласнікам прамежкавых або пабочных вынікаў навуковай дзейнасці з'яўляюцца юрыдычныя або фізічныя асобы, якія стварылі або атрымалі гэтыя вынікі, калі іншае не прадугледжана дагаворам (кантрактам).

Юрыдычныя і фізічныя асобы не набываюць права ўласнасці на вынікі навуковай дзейнасці, атрыманыя імі для экспертызы або рэцэнзавання.

*Артыкул 33. Дагавор як падстава для ўзнікнення права ўласнасці на вынік навуковай дзейнасці*

Дагавор, прадметам якога з'яўляецца навуковая дзейнасць, павінен вызначаць у адпаведнасці з гэтым Законам:

крыніцы фінансавання і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння навуковай дзейнасці;

уласніка яе вынікаў;

умовы патэнтавання гэтых вынікаў;

меры па забеспячэнню канфідэнцыяльнасці;

парадак стварэння і выкарыстання вынікаў навуковай дзейнасці;

парадак размеркавання даходаў, атрыманых ад выкарыстання гэтых вынікаў;

адказнасць бакоў за парушэнне ўмоў дагавора;

прававы статус канчатковых, прамежкавых і пабочных вынікаў навуковай дзейнасці.

Форма дагавора, а таксама іншыя ўмовы, не прадугледжаныя часткай другой гэтага артыкула, вызначаюцца бакамі ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 34. Працоўны дагавор (кантракт) як падстава для ўзнікнення права ўласнасці на вынік навуковай дзейнасці*

Права ўласнасці на вынік навуковай дзейнасці можа ўзнікаць на падставе працоўнага дагавора (кантракта) пры правядзенні навуковых даследаванняў у парадку службовага або спецыяльнага задання.

Бакі працоўнага дагавора (кантракта) самастойна агаворваюць абавязацельствы, накіраваныя на ахову права ўласнасці на вынік навуковай дзейнасці як навуковага работніка, так і наймальніка, а таксама маёмасную або іншую адказнасць наймальніка і навуковага работніка за парушэнне гэтага права, калі гэтыя абавязацельствы і адказнасць не прадугледжаны заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 35. Прававая абарона вынікаў навуковай дзейнасці*

Прававая абарона вынікаў навуковай дзейнасці ажыццяўляецца на падставе актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Вынікі навуковай дзейнасці падлягаюць прававой абароне незалежна ад таго, з'яўляюцца яны канчатковымі, прамежкавымі ці пабочнымі.

Спрэчкі аб правах суб'ектаў і ўдзельнікаў навуковай дзейнасці разглядаюцца ў судовым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 36. Асабістыя немаёмасныя правы на вынікі навуковай дзейнасці і іх ахова*

На вынікі навуковай дзейнасці, атрыманыя навуковым работнікам, распаўсюджваюцца асабістыя немаёмасныя правы:

права прызнання яго аўтарам;

права выкарыстання вынікаў навуковай дзейнасці ад свайго імя.

Асабістыя немаёмасныя правы на вынікі навуковай дзейнасці, атрыманыя сумеснай творчай працай дзвюх або больш фізічных асоб, вызначаюцца пісьмовым пагадненнем паміж імі.

Асабістыя немаёмасныя правы на вынікі навуковай дзейнасці захоўваюцца за навуковым работнікам пасля ўступкі ім правоў на выкарыстанне гэтых вынікаў.

Ахова асабістых немаёмасных правоў на вынікі навуковай дзейнасці ажыццяўляецца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул 37. Маёмасныя правы на вынікі навуковай дзейнасці*

Маёмасныя правы на вынікі навуковай дзейнасці вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і дагаворам (кантрактам).

Кожны ўласнік вынікаў навуковай дзейнасці можа выкарыстоўваць гэтыя вынікі па свайму меркаванню, калі іншае не прадугледжана дагаворам (кантрактам) або заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Усе ўласнікі вынікаў навуковай дзейнасці ў выпадку іх камерцыйнага выкарыстання маюць права на пэўную частку ўзнагароджання, велічыня якой вызначаецца пісьмовым пагадненнем паміж уласнікамі гэтых вынікаў.

Выкарыстанне вынікаў навуковай дзейнасці, даступных неабмежаванаму колу асоб, не з'яўляецца парушэннем маёмасных правоў уласнікаў вынікаў навуковай дзейнасці, калі гэта не супярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь.

**Глава 7. Заключныя палажэнні**

*Артыкул 38. Арганізацыйна-прававое забеспячэнне па ўвядзенню гэтага Закона ў дзеянне*

Да прывядзення заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам прымяняецца дзеючае заканадаўства, калі яно не супярэчыць гэтаму Закону.

Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь у шасцімесячны тэрмін з дня ўвядзення гэтага Закона ў дзеянне:

прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

забяспечыць распрацоўку і зацвярджэнне нарматыўных актаў, неабходных для рэалізацыі гэтага Закона;

забяспечыць адмену міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі і іншымі цэнтральнымі органамі кіравання Рэспублікі Беларусь іх нарматыўных актаў, якія супярэчаць гэтаму Закону;

прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы па прывядзенню заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам для наступнага ўнясення іх у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь;

з мэтай павышэння прэстыжу навуковай дзейнасці распрацаваць і зацвердзіць гарантыі прававой і сацыяльнай абароны навуковых работнікаў, маючы на ўвазе прадастаўленне ім комплексу дзяржаўных гарантый па ўмовах і аплаце працы, занятасці, захаванню дастойнага ўзроўню жыцця пры дапамозе прамой эканамічнай падтрымкі з боку дзяржавы;

распрацаваць і зацвердзіць:

парадак стварэння, дзяржаўнай рэгістрацыі, рэарганізацыі і ліквідацыі навуковых арганізацый;

палажэнне аб парадку стварэння і ўмовах дзейнасці часовых навуковых калектываў;

парадак рэгістрацыі саветаў па абароне дысертацый і кантролю за іх дзейнасцю;

палажэнне аб прысуджэнні вучоных ступеней і прысваенні вучоных званняў;

палажэнне аб парадку і ўмовах заключэння кантрактаў з навуковымі работнікамі.

Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

пачынаючы з 1 студзеня 1997 года забяспечыць паэтапнае павышэнне сярэднямесячнай заработнай платы навуковым і навукова-педагагічным работнікам з тым, каб з 1 студзеня 1998 года яна была як мінімум у паўтара раза вышэй сярэднямесячнай заработнай платы ў прамысловасці;

устанавіць з 1 студзеня 1997 года стыпендыі аспірантам у памеры службовага акладу малодшага навуковага супрацоўніка і дактарантам — у памеры службовага акладу вядучага навуковага супрацоўніка;

пры падрыхтоўцы праектаў законаў аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты па пытаннях падаткаабкладання на 1997 год прадугледзець вызваленне вышэйшых навучальных устаноў, акрэдытаваных ва ўстаноўленым парадку, і навуковых арганізацый ад выплаты:

падаткаў на дабаўленую вартасць і прыбытак, плацяжоў у дарожныя фонды па сумах, атрыманых імі ад навуковай дзейнасці;

мытных плацяжоў пры экспарце прадукцыі, вырабленай у выніку навуковай дзейнасці;

падаткаў на дабаўленую вартасць і мытных пошлін пры ўвозе на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь рэчаў, якія выкарыстоўваюцца пры ажыццяўленні навуковай дзейнасці;

на працягу года з дня ўвядзення гэтага Закона ў дзеянне распрацаваць праекты Законаў «Аб інавацыйнай дзейнасці» і «Аб нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі» для наступнага ўнясення іх у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

Устанавіць, што раней прысвоенае званне старшага навуковага супрацоўніка прыроўніваецца да звання дацэнта.

Артыкул 6 гэтага Закона ўводзіцца ў дзеянне з дня ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1997 год».

*Артыкул 39. Увядзенне гэтага Закона ў дзеянне*

Гэты Закон увесці ў дзеянне з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭнКА**

21 кастрычніка 1996 г., г. Мінск.
№ 708-XIII

# КІРМАШ

**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 43 (62)**



## ПРАДАЕЦЦА:

❑ матацыкл «К-650» з няспраўным рухавіком. *Тэл. (8-273) 67-6-78.*

❑ аўтамабіль «ЗАЗ-968М» з запчасткамі, у добрым стане, танна. *Тэл. у Бялынічах 2-16-45.*

❑ аўтамабіль «ЗАЗ-968М», э/вымяральны прыбор АВО-5, кабель сувязі 20х2х0,5 ТПП. *Тэл. у Лідзе 4-18-52.*

❑ насенне цыбулі духмянай, 5 тыс. руб. — 20 шт., папярэдняя аплата. *Звяртацца: 231232 Гродзенская вобл., Астравецкі раён, п/а Падольцы. Юковіч І. В.*

❑ фотаружжо «ФС-12» і два матацыклы «Днепр» з запчасткамі, танна. *Тэл. у Бялынічах 2-16-45.*

❑ зруб 9х9 крыты шыферам, маецца ўчастак; кватэра 3-пакаёвая ў г. Беразіно. *Тэл. у Беразіно 54-6-59.*

❑ аўтамабіль «Таўрыя» 95 г. в., 4-дзверная, 4,8 л/100 км. *Званіць пасля 19.00 і ў выхадныя дні. Тэл. у Мазыры 2-45-43.*

❑ жарабок, узрост 1 год. Вілейскі раён, в. Хаценчыцы. *Тэл. (8-01771) 40-3-61.*

❑ корань жэньшэню сухі, 1 г — 2500 руб. Заказваць любую колькасць. *Звяртацца: 231814 Гродзенская вобл., Слонімскі раён, п/а Высацк. Жукоўскі І. У. Тэл. 73-2-06, вечарам.*

❑ кампрэсар венгерскі, да 15 атм. Новы, танна, тэрмінова — 160$. г. Беразіно, *тэл. (8-215) 54-2-11.*

❑ «ВАЗ-21011», танна. г. Міёры, *тэл. 2-10-92.*

❑ матацыкл «Ява 350/360» у добрым стане (без АБ) і запчасткі. 85$. *Тэл. у Стаўбцоўскім раёне 34-7-75, пасля 18.00. Гена.*

❑ катэдж у г. Смаргоні без унутраных работ, маецца сталярнае і сантэхабсталяванне, гараж, падвал, 15 сотак зямлі, побач возера. *Тэл. (8-01592) 5-14-43.*

❑ дом драўляны, хлеў, сад, танна, 15 км ад Петрыкава ў в. Сотнічы. *Тэл. у Гомелі 48-53-09.*

❑ прадаю або мяняю дом з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Куркулі Мядзельскага раёна. *Тэл. 58-9-79.*

❑ вагі тарныя (да 150 кг). *Тэл. у Баранавічах 7-80-41.*

❑ «Фольксваген-універсал» 91 г. в. з паслугамі вадзіцеля на 1,5 года ў крэдыт. *Тэл. у Мінску 255-52-01.*

❑ прычэп да мотаблока «МТЗ», касілку, колы ММВЗ, э/рухавік, танна. Магчыма дастаўка. Тэл. у Мінску 232-98-98.

❑ аўтамабіль «ВАЗ-21063» 85 г. в., у выдатным стане, колер белы, танна. *Тэл. у Брэсце (8-0162) 43-61-79.*

❑ трактар «Т-25» у выдатным стане з прычэпам. Г/п Любча, *тэл. (8-297) 71-7-53.*





## Максімум інфармацыі — мінімум намаганняў

**Разабрацца ў тонкасцях заканадаўства, якое пастаянна мяняецца, чалавеку, які не мае юрыдычнай адукацыі, сёння вельмі праблематычна.**

Зрэшты, выйсце ёсць: штомесячна прадастаўляць чытачам 100-працэнтную інфармацыю аб усялякіх змяненнях у рэспубліканскім заканадаўстве ўзялося выдавецтва «Амалфея», што спецыялізуецца на выданні юрыдычнай і іншай дзелавой літаратуры. Яго штомесячнік «Агляды-каментарыі сучаснага заканадаўства РБ» («АКСЗ») змяшчае інфармацыю аб усіх нарматыўных актах, прынятых у Рэспубліцы Беларусь за апошні месяц. У абавязковым парадку аўтары аглядаў-каментарыяў засяроджваюць увагу на навізне адносінаў і праблемах, што выклічуць новыя нормы пры іх практычным прымяненні.

На штомесячнік «Агляды-каментарыі сучаснага заканадаўства РБ» можна падпісацца ў «Рэспубліканскім аб'яднанні «Белпошта», а таксама атрымліваць яго на дыскетах ці па мадэмнай сувязі.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## РОЗНАЕ

❑ Складаю індывідуальныя псіхалагічныя гараскопы па даце і часе нараджэння. *Тэл. 239-77-61.*

❑ Аказваем аўдытарскія паслугі. *Тэл. 227-94-46.*

❑ Мяняю два матацыклы «Днепр» з запчасткамі на рухавік да «Запарожца». *Тэл. у Бялынічах 2-16-45.*

❑ Мяняю дом (74 кв. м, хлеў, лазня, сад, 50 сотак) за 50 км ад Мінска на кватэру ў Мінску. *Тэл. (8-272) 32-3-78.*

❑ прапаную работу на даму, ад вас — канверт са *з/а: 231800 г. Слонім, а/с 23.*

❑ Вышлю сачыненні Лермантава ў 2-х тамах, самавучыцель машынапісу, пласцінку Р. Ларэці — запіс 1960 г. Прышліце канверт, купон газеты «Звязда»: *223310 Беразіно, п/с 681034.*

❑ Народныя спосабы лячэння скурных захворванняў без лякарстваў. *Звяртацца: 211840 Паставы 2, а/с 7.*

❑ Мяняю «ВАЗ-21061» белага колеру, 95 г. в., аўтамагнітолу, цэнтр. замок, процiўгонная сістэма, ахова крылаў, чахлы на «супер-МАЗ», сядзельны цягач у добрым стане альбо прадам. *Звяртацца: Мінская вобл., Салігорскі раён, в. Хорастава. Ванюк А. А.*

## ВІНШУЕМ!

***Вячаслава Брыкача*** *з Гродна, руплiўца на ніве культуры і добрага сябра, віншуе з юбілеем А. Малкоўскі з Ліды.*

***Вера Верамееўна Тумар*** *з в. Вераскава, дарагая любая бабуля! Віншуем цябе з днём нараджэння! Жадаем здароўя, радасці, шчасця, поспехаў у хатніх справах.*

**З павагай сям'я Калашнікавых.**

*Сардэчна віншуем дарагога* ***Аляксандра Цімафеевіча Праліску*** *з г. п. Дружны з днём нараджэння. Жадаем поспехаў у працы, доўгіх шчаслівых гадоў жыцця. Сем'і Макоўчыкаў і Цюшкевічаў з в. Малеч.*

*Віншуем* ***Міхаіла Градовіча*** *з днём нараджэння!*

Неумолимые года остановить
не в нашей власти.
Так пусть же будет так всегда:
чем больше лет — тем больше счастья.

**Жонка, дачка.**

*Віншуем з 55-годдзем* ***Алену Аляксандраўну Леванец.*** *Жадаем моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.*

**Высоцкія з Гродна.**



## Асабістае жыццё

**Аб. 219.** Мужчына 52/185, чакаю пісьма і фотаздымак ад стройнай жанчыны.

**Аб. 220.** Вельмі прывабная, Вольга, 19/164/53, пазнаёміцца з цудоўным хлопцам не маладзей 25 гадоў.

**Аб. 221.** Адзінокі мужчына жадае пазнаёміцца з адзінокай жанчынай да 65 гадоў, згоднай на пераезд.

**Аб. 222.** Пазнаёмлюся з працавітым мужчынам 30—37 гадоў з сельскай мясцовасці, без шкодных звычак. Пра сябе: 32 гады, стройная, прывабная, жыву ў сельская мясцовасці. 220033 г. Мінск, а/с 100.

**Аб. 223.** 30 гадоў, 171/65. Авен, нежанаты, адукацыя сярэдняя, жыллём і матэрыяльна забяспечаны.

Былых партызан атрада імя Сімацкага Асвейскай брыгады «Фрунзе» прашу выслаць свае адрасы **Аржаніку Віктару Паўлавічу:** ***213160 Магілёўская вобл., г. п. Бялынічы, вул. Калініна, дом 1в, кв. 5. Тэл. 2-16-45.***



## Слаўны вэксаль даўжынёю ў 13 «вузлоў»

**Згодна з данымі Мінгарвыканкома, многія прадпрыемствы горада цяпер адчуваюць значны фінансавы голад. Няма грошай для аплаты за электраэнергію, за газ і водазабеспячэнне. Не плацяцца падаткі, не выдаецца своечасова зарплата. Часта нават прадпрыемствы, якія моцна стаяць на нагах, адчуваюць фінансавую ліхаманку. Аказваецца, арганізацыі і прадпрыемствы краіны пагалоўна павінны адзін аднаму. Усяго па рэспубліцы, на сённяшні дзень, аб'ём неплацяжоў перавысіў 70 трлн. рублёў.**

У гэтым выпадку, на думку гарадскіх уладаў, значную дапамогу можа аказаць сістэма вэксальных разлікаў як спосаб развязкі неплацяжоў. Першыя вэксалі выйшлі ў абарачэнне з пачатку гэтага года. Як вядома, працягласць хаджэння вэксаля 90 дзён, і выдаецца ён пад 36,5 працэнта гадавых. Ужо сёння, паводле слоў намесніка старшыні Мінгарвыканкома Мікалая Пацкевіча, вэксаль даказаў, што ён можа вырашаць даволі глабальныя пытанні. Так, на 25 кастрычніка вэксальны абарот даў магчымасць вырашыць праблему неплацяжоў за электраэнергію на 70 млрд. 270 млн. рублёў, за газ — на 20 млрд. 310 млн. рублёў, па падатках — на 150 млрд. 720 млн. рублёў і па водаканалу — у памеры 24 млрд. 150 млн. рублёў.

Цяпер распрацавана матэматычная мадэль, у якой вызначаецца аптымальная колькасць пунктаў адліку, праз фінансаванне якіх праходзяць усе структуры гаспадарання. Па стану на 29 кастрычніка гэтага года, з дапамогай вэксаляў па Мінску было развязана неплацяжоў на суму 1 трлн. 39 млрд. рублёў. Сёння вэксалядаўцамі выступіла 41 прадпрыемства горада, якімі было выпушчана 2586 вэксаляў на суму 80,38 млрд. рублёў. Калі правільна кіраваць вэксалем і ўважліва сачыць за яго праходжаннем, кошт яго выпуску поўнасцю апраўдае праведзеную ім работу.

«Сістэма вэксальнага абароту — гэта толькі інструмент выжывання прадпрыемстваў у цяжкіх сучасных умовах», — адзначыў сп. Пацкевіч.

**Сяргей КУРКАЧ.**

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**

**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**
**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 268-28-77.**

## ПРЭЗІДЭНТ АДЧУВАЕ ПАДТРЫМКУ СВАЙГО НАРОДА...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

адстаўка ўрада, то ён будзе прымаць адэкватныя меры. «Я абсалютна нікога не баюся, — сказаў Прэзідэнт, — людзі мяне падтрымаюць». Адносна да адстаўкі Міхаіла Чыгіра Прэзідэнт адзначыў, што незаменных людзей няма. Аднак, на яго думку, непрыгожа падаваць у адстаўку ў адсутнасць кіраўніка дзяржавы.

Прэзідэнт таксама абвергнуў чуткі аб тым, што ў выпадку, калі на рэферэндуме яго ініцыятывы будуць падтрыманы, ён разгоніць парламент. Кіраўнік дзяржавы яшчэ раз падкрэсліў, што новы парламент будзе сфарміраваны з ліку цяпер дзеючых дэпутатаў і ўсё будзе рабіцца згодна з Канстытуцыяй. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што не адпавядае рэчаіснасці інфармацыя аб тым, быццам колькасць надрукаваных для рэферэндуму бюлетэняў застаецца невядомай. Паводле яго слоў, у Беларусі надрукавана крыху больш за 7 мільёнаў бюлетэняў, што абсалютна адпавядае патрэбнасцям рэспублікі. За ўдакладненнямі, падкрэсліў Прэзідэнт, трэба звярнуцца ў Цэнтрвыбарком, які і друкуе гэтыя дакументы.

Гомель стаў другім горадам Беларусі ў серыі рабочых паездак Прэзідэнта па абласных цэнтрах рэспублікі.

Раніцай 18 лістапада з Гомельскага аэрапорта кіраўнік дзяржавы ў суправаджэнні шэрага грамадскіх і дзяржаўных дзеячаў, а таксама прадстаўнікоў абласной адміністрацыі адправіўся на навукова-вытворчае аб'яднанне «Ратон», якое да распаду СССР спецыялізавалася на выпуску спецыяльнага тэхналагічнага абсталявання для патрэб абаронных галін прамысловасці. У выніку развалу Саюза і канверсіі ваеннай вытворчасці прадпрыемства засталося без заказчыкаў і панесла пры гэтым значныя страты. Але з 1991 года тут пачалася вялікая работа па перапрофіляванню вытворчасці на выпуск грамадзянскай прадукцыі. Толькі за апошнія шэсць гадоў прадпрыемства забяспечыла рост аб'ёмаў таварнай прадукцыі (да 1991 года ў супастаўных цэнах) на 362 працэнты. Як сказаў карэспандэнту БЕЛТА галоўны інжынер аб'яднання Васіль Салановіч, сёння «Ратон» вырабляе самы шырокі спектр прадукцыі: ад мэблевай фурнітуры да аўтаматаў для гульняў. Пры гэтым 25 працэнтаў усёй прадукцыі ідзе на экспарт. Аднак рэнтабельнасць аб'яднання ўсё роўна застаецца нізкай з-за няхваткі абаротных сродкаў.

У час візіту на «Ратон» Аляксандр Лукашэнка наведаў інструментальны, механічны цэхі, а таксама завод медыцынскага абсталявання. Кіраўніка дзяржавы перш за ўсё хвалявалі ўмовы работы ратонаўцаў, іх сацыяльнае забеспячэнне. Сустракаючыся з рабочымі, Прэзідэнт растлумачыў ім мэты і задачы маючага адбыцца рэферэндуму, а рабочыя, у сваю чаргу, выказалі падтрымку прэзідэнцкім ініцыятывам.

Пасля «Ратона» кіраўнік дзяржавы пабываў у Інстытуце механікі металапалімерных сістэм імя У.А.Белага. А самым незвычайным аб'ектам, які наведаў Прэзідэнт, была жаночая калонія агульнага рэжыму — адзіная жаночая калонія ў Беларусі. Размаўляючы са зняволенымі, Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што канчатковае рашэнне аб амністыі будзе прынята на гэтым ці наступным тыдні.

Прэзідэнт наведаў таксама ўнівермаг «Гомель», дзе адказаў на шматлікія пытанні жыхароў горада. На галоўнай плошчы Гомеля адбыўся мітынг у падтрымку ініцыіраванага кіраўніком дзяржавы рэферэндуму, у якім прынялі ўдзел звыш 20000 чалавек.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

## Венецыянская камісія прыняла рэзалюцыю аб нашых праектах Канстытуцыі

**Еўрапейская камісія «Да дэмакратыі праз права» аператыўна разгледзела змененыя варыянты паправак у дзеючую беларускую Канстытуцыю, якія прапаноўваюцца на рэферэндум. Сваё заключэнне яны ўхвалілі на пасяджэнні камісіі 15—16 лістапада ў Венецыі. Заключэнне было падрыхтавана вядомымі юрыстамі: С.Бартоле (Італія), Г.Малінверні (Швейцарыя), А.Міленкова (Балгарыя), Е. Озбудун (Турцыя), М.Расел (Ірландыя).**

Адносна прэзідэнцкага праекта навукоўцы заключылі, што ён вядзе да зусім іншай сістэмы дзяржаўнай улады.

У заключэнні зазначаецца: «Абодва вывучаныя праекты знаходзяцца ў супярэчнасці з прынцыпамі дэмакратычнай дзяржавы».

Нават калі цяпер дзеючая Канстытуцыя і ўтрымлівае шэраг недахопаў, што дапускаюць такое становішча, у якім парламент мае нязначную перавагу над прэзідэнтам (перавага, якая да вядомай ступені можа быць апраўдана на падставе прынцыпу народаўладдзя і якая ўяўляецца хутчэй тэарэтычнай, чым практычнай), то абедзве прапановы на ўнясенне паправак вядуць да эскалацыі інстытуцыйных праблем у двух процілеглых, напрамках на аўтарытарную эвалюцыю беларускай канстытуцыйнай сістэмы.

Іншак кажучы, ні ўстанаўленне несапраўднага паўпрэзідэнцкага рэжыму з моцным уплывам Прэзідэнта (які іншы раз мае на ўвазе поўны кантроль) на ўсе астатнія органы і ведамствы дзяржавы (уключаючы парламент), ні прапанова аб ліквідацыі пасады Прэзідэнта з увядзеннем «рэжыму сходу», пазбаўленага сістэмы стрымання і процістаяння, якая адмяняе ўсёмагутнасць парламента, не могуць разглядацца як прымальныя альтэрнатывы Канстытуцыі 1994 года.

У гэтай сувязі Венецыянская камісія адзначае, што Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь прыняў рашэнне аб тым, што рэферэндум не можа насіць абавязковы, а толькі кансультатыўны характар, а Вярхоўны Савет заявіў у адпаведнасці з гэтым рашэннем, што не будзе мець абавязковай сілы. Для Камісіі відавочна, што ў любой краіне, якая хоча стаць членам Савета Еўропы, рашэнні Канстытуцыйнага суда павінны прымацца і ажыццяўляцца ўсімі органамі дзяржаўнай улады.

Таму Камісія заклікае ўлады Беларусі кіравацца рашэннем Канстытуцыйнага суда і паспрабаваць знайсці рашэнне па выхаду з канстытуцыйнага крызісу, якое адпавядае еўрапейскім нормам, рашэнне, якое можа быць толькі значна адрозніваецца ад абодвух праектаў, што разглядаюцца тут. Камісія знаходзіцца ў распараджэнні ўладаў Беларусі, калі яны хочуць атрымаць дапамогу ў гэтых адносінах.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## Дэпутаты спрабуюць абараніць закон...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

У гэты час на пленарным пасяджэнні аднавіліся парламенцкія слуханні па пытанню аб грубым парушэнні заканадаўства пры правядзенні рэферэндуму. Вось толькі асноўныя прапановы, якія прагучалі з вуснаў дэпутатаў падчас выступленняў: рэарганізаваць Цэнтрвыбарком, каб той нарэшце змог выконваць свае непасрэдныя абавязкі, стварыць спецыяльную камісію для выяўлення саставу злачынства ў некаторых дзеяннях Прэзідэнта А. Лукашэнкі, адмяніць пастанову аб правядзенні рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь. Аднак усе гэтыя прапановы пакуль так і застаюцца на словах. З гэтай нагоды некаторыя дэпутаты заклікалі спачатку сфармуляваць канкрэтную мэту пасяджэння і распрацаваць праект падагульняючага дакумента слуханняў.

На сесіі быў закрануты і надзвычайны інцыдэнт, які адбыўся 15 лістапада з Віктарам Ганчаром і некаторымі іншымі дэпутатамі, калі тыя былі «выстаўлены» з памяшкання Цэнтрвыбаркома. Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь Васіль Капітан, які, дарэчы, быў сведкам здарэння, паведаміў, што пасля заяў чатырох дэпутатаў у Генпракуратуру ў дачыненні да супрацоўнікаў службы бяспекі Прэзідэнта ўзбуджана крымінальная справа аб перавышэнні службовых паўнамоцтваў і ўжо ідзе расследаванне. Дарэчы, пасля пазаўчарашніх падзей у Мінску ў пракуратуру ад пацярпеўшых не паступіла ніводнай заявы.

Перад дэпутатамі з прамовай выступіў і старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня, які даў прававую ацэнку тым падзеям, што апошнім часам разгарнуліся ў краіне. Ён паведаміў, што суд узбудзіў справу адносна ўказа Прэзідэнта Беларусі ад 7 лістапада, які адмяняе заключэнне Канстытуцыйнага суда і пастанову Вярхоўнага Савета наконт неабавязковасці рэферэндуму. Акрамя таго, ён заявіў, што валодае інфармацыяй, паводле якой у Адміністрацыі Прэзідэнта распрацоўваецца план прыпынення дзейнасці Канстытуцыйнага суда.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### ДЫРЭКЦЫЯ РАСІЙСКАГА ТЭЛЕКАНАЛА НТБ, МАГЧЫМА, ВЫМУШАНА БУДЗЕ СПЫНІЦЬ ВЯШЧАННЕ НА ТЭРЫТОРЫЮ БЕЛАРУСІ

Як стала вядома БелаПАН, Савет бяспекі Беларусі і прэс-служба Адміністрацыі Прэзідэнта папярэдзілі расійскі тэлеканал НТВ аб тым, што яго вяшчанне на Беларусь можа быць спынена. Як заявіў БелаПАН начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Падгайны, НТБ будзе пазбаўлена права трансліраваць свае перадачы на Беларусь у тым выпадку, калі не перастане неаб'ектыўна асвятляць палітычныя падзеі ў рэспубліцы. Па яго словах, НТБ — гэта адзіная прыватная тэлекампанія, якая плаціць Беларусі грошы за права вяшчання на яе тэрыторыю.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб адмене Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года «Аб зацвярджэнні тэкстаў праектаў рашэнняў, пастаўленых на рэспубліканскі рэферэндум 24 лістапада 1996 года»**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Адмяніць Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года «Аб зацвярджэнні тэкстаў праектаў рашэнняў, пастаўленых на рэспубліканскі рэферэндум 24 лістапада 1996 года» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 27, арт. 497).
2. Гэту Пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**
6 лістапада 1996 г., г. Мінск.
№ 763-XIII

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб Звароце Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб прадстаўленні праекта Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1997 год»**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Прыняць Зварот Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (прыкладаецца).
2. Апублікаваць гэты Зварот у газетах «Звязда» і «Народная газета».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**
13 лістапада 1996 г., г. Мінск.
№ 781-XIII

### ЗВАРОТ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ПРАДСТАЎЛЕННІ ПРАЕКТА ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ БЮДЖЭЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НА 1997 ГОД»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, разумеючы важнасць нармальнага функцыянавання бюджэтнай сістэмы Рэспублікі Беларусь і яе значнасць у рэфармаванні эканомікі, своечасовасці якаснага разгляду і прыняцця Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1997 год» у найвышэйшым прадстаўнічым і заканадаўчым органе дзяржаўнай улады, звяртаецца да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з прапановамі:

1. Разабрацца ў прычынах зрыву тэрміну прадстаўлення праекта Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1997 год», устаноўленага Законам Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь», з неабходнымі разлікамі і абгрунтаваннямі.
2. У найкарацейшы тэрмін прадставіць на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1997 год».

**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.**

## ГАНАРОВЫЯ ЗВАННІ

Указамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прысвоены ганаровыя званні:

дырэктару эксперыментальнай базы «Вусце» Аршанскага раёна **Голубу Івану Антонавічу** — ганаровае званне «Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь» за вялікі асабісты ўклад у развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці, плённую навуковую дзейнасць;

кампазітару **Ханку Эдуарду Сямёнавічу** — ганаровае званне «Народны артыст Беларусі» за вялікі ўклад у развіццё беларускага музычнага мастацтва.

**БЕЛТА.**

### У АПОШНЮЮ ХВІЛІНУ

## УЧОРА ПАРЛАМЕНТ ПРАВЁЎ НАЧНОЕ ПАСЯДЖЭННЕ

**Вечарам стала вядома, што заява Міхаіла Чыгіра аб адстаўцы была падпісана Прэзідэнтам. Прэм'ер-міністр сустрэўся са Старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім, але адмовіўся даць прэс-канферэнцыю і патлумачыць матывы сваёй адстаўкі.**

Адзін з членаў Прэзідыума ВС заявіў карэспандэнту «Звязды», што раніцай М. Чыгір патлумачыў С. Шарэцкаму і іншым членам Прэзідыума матывы сваёй адстаўкі: няправільная, на яго думку, эканамічная палітыка Прэзідэнта і незаконнае правядзенне мерапрыемстваў па ўсенародным рэферэндуме.

Пасля перапынку ў Вярхоўным Савеце працягваліся парламенцкія слуханні па праблеме шматлікіх парушэнняў падчас усенароднага галасавання, называліся канкрэтныя прыклады. У выніку Віктарам Ганчаром было прапанавана прыпыніць галасаванне на рэферэндуме ў сувязі з фактычным увядзеннем надзвычайнага становішча ў нашай краіне Прэзідэнтам А. Лукашэнкам і вызначыць дату галасавання пасля нармалізацыі сітуацыі.

Тым часам пытанне было пастаўлена яшчэ больш востра. С. Калякін, лідэр фракцыі камуністаў, заклікаў сваіх калег да пачатку працэсу імпічменту Прэзідэнта А. Лукашэнкі. Як зазначыў віцэ-спікер Г. Карпенка, усе падставы для гэтага, у тым ліку юрыдычныя, маюцца. Сёння былі сабраны 70 неабходных подпісаў для імпічменту. Дэпутаты вырашылі не спыняць сваю працу а 18 гадзіне і прадоўжыць яе пасля 20.00 з тым, каб паспець вырашыць хаця б адно з прапанаваных пытанняў.

У перапынку адбыліся пасяджэнне Прэзідыума ВС з удзелам старшыні Канстытуцыйнага суда В. Ціхіні і нарады дэпутатаў па фракцыях. Большасць фракцый падтрымала пытанне аб адхіленні А. Лукашэнкі ад улады.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## АПАЗІЦЫЯ ПРАВЯЛА НЕСАНКЦЫЯНІРАВАНУЮ АКЦЫЮ



Чарговую палітычную акцыю правялі 17 лістапада ў Мінску прадстаўнікі апазіцыйных сіл. Іх выступленне, якое пачалося на плошчы Якуба Коласа, праходзіла пад лозунгамі абароны свабоды слова.

Гарадскія ўлады для правядзення акцыі адвялі мітынгуючым месца ў раёне плошчы Бангалор. Туды першапачаткова і накіравалася калона дэманстрантаў, аднак затым яна нечакана павярнула, і мітынгуючыя па праспекце Скарыны пайшлі ў бок плошчы Незалежнасці.

Першы міліцэйскі кардон сустрэў дэманстрантаў каля цырка. Трэба адзначыць даволі лаяльныя адносіны работнікаў міліцыі да ўдзельнікаў несанкцыяніраванага маршу.

Калона парадзела і дайшла да скрыжавання вуліцы Валадарскага і праспекта Скарыны, дзе адбылася невялікая сутычка з супрацоўнікамі праваахоўных органаў.

На праведзеным стыхійным мітынгу выступілі дэпутаты Вярхоўнага Савета Павел Знавец і Генадзь Карпенка, віцэ-спікер парламента. Каб пазбегуць непрадбачаных сітуацый, Г.Карпенка заклікаў удзельнікаў мітынгу разысціся, прапанаваўшы ім сабрацца на наступны дзень каля Вярхоўнага Савета, дзе павінна адбыцца нечарговая сесія.

Паводле даных МУС, першапачаткова ў акцыі ўдзельнічала каля дзвюх тысяч чалавек, колькасць якіх затым зменшылася. За парушэнне грамадскага парадку затрыманы 8 чалавек, 4 супрацоўнікі міліцыі атрымалі цялесныя пашкоджанні, адзін з іх шпіталізаваны.

**БЕЛТА.**
**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## Па крываваму следу

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

...Ужо падчас спынення «РАФа» у цэнтры Азёр супрацоўнікі міліцыі заўважылі насцярожаныя погляды. Але вырашылі не рызыкаваць, каб не падвяргаць небяспецы жыцці пасажыраў. Праз 200 метраў, на канцавым прыпынку, уцекачы толькі і паспелі запытаць у вяскоўца пра дарогу на Скідаль...

Такога Азёры не памяталі з ваенных часоў: на агародах, за гаспадарчымі прыбудоўкамі ішоў сапраўдны бой — гулкія і частыя пісталетныя стрэлы заглушалі імпэтныя трэлі з АКСУ. Бандыты адстрэльваліся. Але саўладаць з «Калашніковым» і пяцёркай міліцыянераў, якія паслядоўна звужалі поле бою, ім не ўдалося. Спачатку падняў рукі ўгору адзін з іх, а потым, калі падаспела падмога з Гродна, у звычайнай вясковай прыбіральні быў выяўлены і другі. На месцы здарэння былі знойдзены належныя ім аператыўны пісталет Макарава і пісталет замежнай вытворчасці. Назавём некаторых удзельнікаў аперацыі па абясшкоджванню банды. Гэта начальнік УУС А. Белашэўскі, які ўзначальваў гэту аперацыю, аператыўны дзяжурны ўпраўлення В. Раецкі, якому амаль суткі давялося трымаць «руку на пульсе», міліцыянер — вадзіцель Ленінскага РАУС П. Піглюк, які быў разам з лейтэнантам С. Ягнешкам. І, вядома ж, нельга не адзначыць пяцёрку супрацоўнікаў сельскага райаддзела міліцыі: капітана М. Кузьмянкова, старшых лейтэнантаў В. Якусевіча і С. Басько, сяржантаў А. Прасняка і А. Шанчука.

Калі, напрыклад, Станіслава Басько, які яшчэ не астыў ад гарачкі пасля затрымання злачынцаў, запыталі, ці думаў ён аб асабістай бяспецы, участковы адказаў: «Думаў аб тым, каб бандыты не захапілі заложнікаў альбо нават ненаўмысна не пралілі крыві кагосьці з мірных азёрцаў у гэтай бязлітаснай бойцы».

**Георгій СЫСОЙ, прэс-цэнтр Гродзенскага УУС.**

## «АТЛАНТ» МЯНЯЕ ТВАР

**Пачынаючы з 1997 года Мінскі завод халадзільнікаў прапануе пакупнікам прадукцыю ўдасканаленай формы і дызайну.**

Ужо ў снежні сёлетняга года з'явяцца першыя «Атланты» без вострых вуглоў і з празрыстымі «унутранасцямі»: вуглам нададуць акруглую форму, паліцы і скрынкі будуць вырабляць выключна з празрыстых пластмас. Пры гэтым цана пакуль застанецца ранейшай — ад трох з паловай мільёнаў рублёў. Характэрна, што беларускі халадзільнік збіраецца амаль поўнасцю з імпартных дэталяў, чым тлумачацца яго даволі высокія кошт і якасць (прадпрыемства гарантуе работу тэхнікі на працягу трох год).

Штогод завод вырабляе 750 тысяч халадзільнікаў больш як дзесяці мадыфікацый. Палова прадукцыі рэалізуецца на рынках Расіі, 20 працэнтаў — у Беларусі, астатняе — на рынках іншых краін СНД.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, на значнай частцы тэрыторыі невялікія ападкі, месцамі туман. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 5—7, Мінску, Гродне, Гомелі — 7—9, Брэсце — 8—10 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 20-га месцамі па рэспубліцы, 21-га — на большай частцы тэрыторыі дажджы, у асобных раёнах туман. Тэмпература ўначы — 0—5, удзень — 4—9 градусаў вышэй нуля.

## Генадзь ГРУШАВЫ:

# «ЛЮДЗІ НЕ ПАВІННЫ СТРАЦІЦЬ ВЕРУ Ў ДАБРО...»

***Генадзь Уладзіміравіч Грушавы — асоба прыметная, вядомая ў Беларусі. Вядомы грамадскі дзеяч, колішні дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Чалавек, якога паважаюць многія. Сёння — кіраўнік Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля». Вядомы і чытачам «Звязды», усім, хто заўважыў акцыю «Выратаванне», якую праводзіць наша газета, яшчэ і тым — што да яго звяртаюцца сотні людзей (кожны — са сваім асабістым болем). Сёння, калі ў грамадстве ў адзіны клубок звіліся сацыяльныя, эканамічныя і палітычныя праблемы, мы спадзяёмся, акрамя ўсяго іншага, чытачу цікава будзе ведаць, якімі перакананнямі карыстаецца дабрачынны памочнік «Звязды», пакрыўджаных Чарнобылем і іншымі бядотамі-згрызотамі ўдзельнікаў акцыі «Выратаванне». Слова — Генадзю Грушавому, які акрамя ўсяго іншага з'яўляецца прафесарам філасофіі, прарэктарам інстытута сучасных ведаў.***

**— Генадзь Уладзіміравіч, прабачце, але пачну не з самага, відаць, прыемнага для вас. Часам нас крытыкуюць: столькі, маўляў, размоў пра «Выратаванне», а за мяжу паехала ўсяго толькі 100 з нечым дзетак...**

— Ведаеце, у сучасным свеце літаральна ўсё паддаецца ўліку. Можна, вядома ж, нагадаць, што акцыя пачалася напрыканцы вясны. Групы ў большасці сваёй былі сфарміраваны, але мы не маглі адмовіцца ад прапановы, ініцыятывы газеты. Да таго ж нам хацелася атрымаць і іншы вопыт — вопыт работы сумесна з газетай. Акцыяй «Выратаванне» з'яўляецца ўся дзейнасць фонду — а гэта толькі сёлетнім летам больш за 10 тысяч адпачыўшых за мяжой бясплатна. Каля 1600 сем'яў атрымалі гуманітарную дапамогу, 28 цяжка хворых дзетак накіравалі на лячэнне за мяжу і г. д. Але ж заўважу і наступнае. Акцыя «Выратаванне» — гэта праект, ініцыятыва, скіраваная на тое, каб разбудзіць людзей. Я перакананы і буду рабіць усё магчымае дзеля гэтага: людзі не павінны страціць веру ў дабро. Бескарысліва дапамагаючы ў бядзе, мы падштурхоўваем да таго, каб народ і сам станавіўся лепшым, дабрэйшым, не губляў надзеі.

**— Зразумелая справа, хацелася б, каб усякая работа па дабрачыннасці, а тым больш удзел у акцыі «Выратаванне» не была звязана з чыстай палітыкай. Але ж, відаць, так не атрымліваецца...**

— Так, сапраўды, «Выратаванне» — гэта мой новы палітычны вопыт. За ўсе папярэднія гады работы фонду мы размаўлялі, узаемадзейнічалі з людзьмі сам-насам, твар, што кажуць, у твар. Многаму, вядома ж, і раней вучыліся ў людзей, якім стараліся дапамагчы. Шмат чэрпалі ў сваіх сяброў, з якімі супрацоўнічалі. Але ўсё гэта быў асяродак, які быў звязаны агульнай справай: нехта дапамагае, нехта чакае дапамогі, спадзяецца, звяртаецца. Але ж тут атрымлівалася нешта накшталт «Лицом к лицу лица не увидать». Увесь час мы жылі ў рэжыме судакранання з канкрэтным фактам, канкрэтным лёсам. Гэта ўсё засталося. Ды дадалося і іншае: працуючы ў межах праграмы «Выратаванне», мы робім сваю справу адкрыта, галосна, перад усёй грамадскасцю і сумесна з ёй. І гэта ўдалося дзякуючы якраз газеце. Зараз у мяне нават больш дакладная карціна таго, што зараз грамадства перажывае, склалася падрабязная, насычаная не чыімсьці прыватным, а агульным болем. І другое — вастрэй стаў адчуваць, што чарнобыльская бяда з'яўляецца трагедыяй для ўсіх людзей краіны, а не толькі для тых, хто непасрэдна спрычыніўся да вынікаў аварыі. Важны і наступны вопыт «Выратавання»: тыя механізмы, якія працавалі ў нас для чарнобыльцаў, здольны распаўсюджвацца ўвогуле на сацыяльна-гуманітарныя задачы, на стварэнне арганізацыйных формаў, якія дапамогуць выжыць не толькі ахвярам, але і ўвогуле людзям, якім цяжка ад сучаснага жыцця, якія з'яўляюцца ахвярамі сацыяльных катаклізмаў.

**— Генадзь Уладзіміравіч, наколькі, між іншым, на ваш погляд, цесна пераплецены палітыка і дабрачыннасць?**

— Няхай на мяне ніхто не крыўдуе, бо гэткая прамалінейнасць, відаць, можа бумерангам ударыць і па мне. Зараз не столькі дабрачыннасць, гуманітарныя ініцыятывы з'яўляюцца апорай палітыкі, колькі палітыка скарыстоўвае дабрачыннасць, адкладваючы свае ўласныя абяцанні на потым. Аддайце, маўляў, нам свае галасы, а пасля мы дапаможам. Вось толькі даўгі так і застаюцца. Да таго ж спрацоўвае ранейшы менталітэт савецкага чалавека: дабрачыннасць з'яўляецца нечым «прыніжальным», што трэба перажыць, як трэба перажыць усе сацыяльныя хваробы. Але ж дабрачыннасць у самых квітнеючых краінах разгорнута ў тысячы разоў болей, чым у нас у Беларусі...

**— Так ужо і ў тысячы разоў?**

— Толькі ў ЗША зарэгістравана каля ста тысяч дабрачынных арганізацый. А ў нас?..

Часам абураюцца: восемдзесят дабрачынных фондаў, ды навошта нам гэтулькі трэба! Параўнайце: у Германіі — шэсць-сем тысяч... І гэта не ўсе грамадскія арганізацыі, а толькі тыя, якія ў сваім статуце заявілі пра галоўную мэту — аказанне матэрыяльнай дапамогі. Здавалася б, навошта гэтулькі? Яны ж там цудоўна жывуць, усім забяспечаны. Дык вось, дабрачыннасць у цывілізаваным грамадстве — люстэрка душы грамадства, яго маральная вышыня. Калі ў ЗША ствараецца дабрачыннае таварыства і дапамагае, напрыклад, некалькім літаральна бяздомным людзям, якія жывуць недзе на ўскраіне горада, — такое таварыства не толькі робіць важную сацыяльную справу, але яшчэ і будзіруе грамадства, не дае яму магчымасці спакойна заснуць у сваёй сытасці. І людзі тут выхоўваюцца. І не праз заклікі з амбону, а праз канкрэтныя справы.

Палітыка сёння ў сваім стаўленні да самой з'явы дабрачыннасці не-



адэкватная сутнасці гэтай дабрачыннасці. Усім нам — грамадству, дзяржаве — патрэбна мяняць псіхалогію.

Калі мы асэнсуем, што такое ёсць сацыяльная дабрачыннасць, толькі тады яна і пачне выконваць свае сапраўдныя функцыі.

**— Так атрымалася, што ў сённяшняй нашай размове мы не можам выйсці за межы палітыкі... Іначай, відаць, пакуль што і нельга. Але ж трэба заўважыць, што і вы імкняцеся ўдзельнічаць у палітыцы, хіба не так? Ці не адчуваеце вы на сабе, што, пачаўшы больш актыўна займацца палітыкай, нешта не дадаяце сваёй галоўнай справе — дабрачыннасці?**

— Безумоўна, у канкрэтна-практычным вымярэнні — губляю вельмі і вельмі шмат. Але за мною, калі гаварыць непасрэдна пра Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля», стаяць сотні, нават тысячы людзей. Але ж чаму я імкнуся вярнуцца ў парламент? Грамадства паціху, спакваля супакойваецца ад Чарнобыля. Трэба зноў будзіраваць усе праблемы, трэба зноў скіроўваць да чарнобыльскіх спраў максімальную ўвагу.

У парламенце на сёняшні дзень літаральна на пальцах можна пералічыць тых людзей, якія глыбінна разумеюць месца Чарнобыля ў грамадскім, сацыяльным жыцці. І тут я не баюся, што мяне абвінавацяць у нясціпласці. Абвінавачвайце ў чым заўгодна, але я буду дамагацца максімальнай рэалізацыі сваіх праектаў, сваіх ідэй. Вы ж зірніце, што адбываецца. Дзяржава, лічы што, гатова стымуляваць вяртанне людзей у чарнобыльскую зону. Чуюцца заявы, што няма ніякай небяспекі, Чарнобыль застаецца ў мінулым. Скарачаюцца дзяржаўныя асігнаванні на чарнобыльскія праграмы. І дзе, як не ў парламенце, з усім гэтым змагацца?!

І яшчэ: у парламенце павінны быць не толькі прыхільнікі двух эканамічных падыходаў: рыначнага, капіталістычнага, і сацыялістычнага. Там павінны быць людзі, здольныя мову эканомікі звязваць з сацыяльнымі памкненнямі людзей. І звязваць не ў плане механічным, а ў сэнсе зменаў, рэформаў у свядомасці людзей. Грамадская ініцыятыва, грамадская актыўнасць народа — вось што можа нароўні з эканамічнымі зменамі ўплываць на заўтрашні наш дабрабыт.

**— Генадзь Уладзіміравіч, думаю, што чытачу цікава было б ведаць і пра канкрэтыку ў рабоце БДФ «Дзецям Чарнобыля», у штодзённых вашых клопатах...**

— Я не хацеў бы звяртацца да статыстыкі дзейнасці фонду — аб гэтым было ўжо дастаткова сказана. Прывяду толькі ў якасці прыкладу мінскі мікраёан «Малінаўка». У ім як быццам зрэз дзяржавы. Глядзіце, у нас чарнобыльцаў недзе каля двух мільёнаў. Астатняе насельніцтва як быццам ніякага дачынення да бяды не мае. Таму і стварыўся сацыяльны прэцэдэнт унутры народа. Вось і ў Малінаўцы. Адны заяўлялі сваё права на пазачарговае забеспячэнне жыллём. Другія сцвярджалі, што, прастаяўшы дваццаць гадоў у чарзе, маюць на гэта большае права. Адны даказвалі, што іх дзецям, як непасрэдным ахвярам, патрэбны тыя альбо іншыя медыкаменты. Другія скардзіліся, што і яны таксама хочуць для сваіх дзяцей і вітаміны, і лепшае харчаванне. І абодва бакі маюць рацыю, маюць падставы спадзявацца на падтрымку. Толькі чаму ж гэтыя папрокі скіраваны да чарнобыльцаў?! Сёння мы павінны пераступіць праз процістаянне, разарванасць. Таму і працуем у большай ступені ў Малінаўцы, дзе трэцюю частку насельніцтва складаюць перасяленцы. Стварылі грамадзянскі камітэт сацыяльнай абароны і дапамогі, які аб'яднаў усе ўстановы, здольныя, абавязаныя працаваць для ўсіх людзей, а не толькі для чарнобыльцаў. І вось першыя прыклады — рыхтуецца стварэнне адзінага цэнтра для моладзі і падлеткаў. Мы хочам задзейнічаць дзяцей, перацягнуць іх з вуліцы ў гурткі, у аўташколу, у спартыўныя секцыі, як гэта было некалі раней. Ужо зараз ва ўсіх школах стварылі філіялы грамадзянскага камітэта — глядзім, якія дзеці патрабуюць больш пільнай увагі, дапамогі. Шукаем тых дзяцей, якім дзяржава па нейкіх прычынах не можа даць бясплатнае харчаванне, а становішча матэрыяльнае ў сям'і, тым не менш, складанае. Будзем браць на сябе абавязкі, дапаможам. Мяркуем стварыць кухню для людзей пажылога ўзросту. У планах — і стварэнне бясплатнай аптэкі для малазабяспечаных. Ужо праводзім ва ўсіх школах творчы конкурс для дзяцей «Наш дом — Малінаўка». Дзеці малявалі, ляпілі, нешта выраблялі, пісалі сачыненні. Як заахвочванне ўсе ўдзельнікі атрымліваюць сціплыя прызы. Калі б вы бачылі, як сотні хлопчыкаў і дзяўчынак з захапленнем узяліся за творчую справу. Вось так і павінен, намаганнямі ўсяго грамадства і ўсіх нас, ствараецца наш агульны, прыгожы і добры дом пад назвай «Беларусь».

**Гутарыў**
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**«Звязда» і БДФ «Дзецям Чарнобыля» працягваюць акцыю «Выратаванне». Пішыце нам. Усе вашы лісты, просьбы ўважліва разглядаюцца ў фондзе. Сачыце за старонкамі «Звязды» — мы будзем падрабязна інфармаваць пра ход акцыі.**

*ПА ВАШАЙ ПРОСЬБЕ*

# ПРАВІЛЫ ДАРОЖНАГА РУХУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.

## АСНОЎНЫЯ ЗМЯНЕННІ І ДАПАЎНЕННІ

**(Працяг. Пачатак у №266.)**

**«АБГОН»** — апярэджванне аднаго ці некалькіх рухомых транспартных сродкаў, звязанае з выездам на паласу (бок праезнай часткі) сустрэчнага руху **(выключана «з далейшым вяртаннем на раней займаемую паласу»).**

**«АБМЕЖАВАНАЯ АГЛЯДНАСЦЬ» (уведзены)** — бачнасць дарогі ў напрамку руху, абмежаваная геаметрычнымі параметрамі дарогі, прыдарожнымі інжынернымі збудаваннямі, насаджэннямі і аб'ектамі, а таксама транспартнымі сродкамі.

**«НЕБЯСПЕКА ДЛЯ РУХУ» (уведзены)** — змяненне дарожнай абстаноўкі ці тэхнічнага стану транспартнага сродку, якое пагражае бяспецы дарожнага руху і вымушае вадзіцеля зменшыць скорасць ці спыніцца.

**«АПЯРЭДЖВАННЕ» (уведзены)** — рух транспартнага сродку са скорасцю, якая перавышае скорасць спадарожнага транспартнага сродку (транспартных сродкаў), якія рухаюцца па суседняй паласе.

**«АРГАНІЗАВАНАЯ ПЕШАХОДНАЯ КАЛОНА» (уведзены)** — група людзей, што перамяшчаецца па пэўнаму маршруту і мае кіраўніка, спераду і ззаду якой ёсць суправаджальнікі з флажкамі чырвонага колеру ў светлы час сутак і з ліхтарамі белага колеру — наперадзе і чырвонага — ззаду ў цёмны час сутак і ва ўмовах недастатковай бачнасці.

**«АРГАНІЗАВАНАЯ ТРАНСПАРТНАЯ КАЛОНА» (уведзены)** — група з двух ці больш механічных транспартных сродкаў, якія ідуць непасрэдна адзін за адным па адной і той жа паласе руху з пастаянна ўключаным блізкім святлом фар у суправаджэнні галоўнага транспартнага сродку з уключаным праблiскавым маячком сіняга колеру ці маячкамі сіняга і чырвонага колераў і уключаным спецыяльным гукавым сігналам.

**«ПРЫПЫНАК» — (без змяненняў).**

«Перакрыжаванне» — месца перасячэння, прымыкання ці разгалінавання дарог на адным узроўні, абмежаванае ўяўнымі лініямі, якія звязваюць адпаведна процілеглыя, найбольш аддаленыя ад цэнтра перакрыжавання пачаткі закругленняў праезных частак. Не лічацца перакрыжаваннямі выезды з мяжуючых тэрыторый.

**«ПЕШАХОД» — (без змяненняў).**

**«ПЕШАХОДНЫ ПЕРАХОД»** — участак праезнай часткі, абазначаны знакамі 5.16.1, 5.16.2 і (або) разметкай 1.14.1 — 1.14.3 і прызначаны для руху пешаходаў праз дарогу. **Пры адсутнасці разметкі шырыня пешаходнага пераходу вызначаецца адлегласцю паміж знакамі 5.16.1 і 5.16.2.**

***(Працяг будзе)***

## *Post Factum*

### Гэты дзень у гісторыі

**19 лістапада 1711 года** нарадзіўся Міхаіл Ламаносаў, першы расійскі вучоны-натураліст сусветнага значэння, паэт, які залажыў асновы сучаснай рускай літаратурнай мовы, мастак, гісторык.

**19 лістапада 1770 года** нарадзіўся Іван Фёдаравіч Крузенштэрн, расійскі мараплаўнік, адмірал, заснавальнік Рускага геаграфічнага таварыства, начальнік першай рускай кругасветнай экспедыцыі (1803—1806) на караблях «Надзея» і «Нява». Аўтар «Атласа Паўднёвага мора».

**19 лістапада 1833 года** нарадзіўся Вільгельм Дыльтэй, нямецкі гісторык культуры і філосаф-ідэаліст, вядучы прадстаўнік так званай філасофіі жыцця. Аўтар шматлікіх прац па нямецкай філасофіі, літаратуры, музыцы.

**У гэты дзень у 1843 годзе** нарадзіўся Рыхард Авенарыус, швейцарскі філосаф-ідэаліст, адзін з заснавальнікаў эмпірыякрытыцызму. Вылучыў тэорыю «прынцыповай каардынацыі», згодна з якой «без суб'екта няма аб'екта».

У гэты дзень **у 1875 годзе** нарадзіўся Міхаіл Калінін, савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, Герой Сацыялістычнай Працы. Удзельнік рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, а таксама Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 года, старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

**19 лістапада 1888 года** нарадзіўся Хасэ Рауль Капабланка, славуты кубінскі шахматыст і дыпламат. Чэмпіён свету, пераможца шматлікіх міжнародных турніраў.

**19 лістапада 1900 года** нарадзілася Анна Зегерс, нямецкая пісьменніца, аўтар раманаў «Сёмы крыж», «Мёртвыя застануцца маладымі», «Давер».

У гэты дзень **у 1917 годзе** нарадзілася Індзіра Гандзі, вядомы палітычны і дзяржаўны дзеяч Індыі, прэм'ер-міністр, забіта экстрэмістамі ў 1984 годзе.

Сёння адзначаецца **Нацыянальны дзень княства Манака.**

Сёння ж адзначаецца **Дзень ракетных войскаў і артылерыі.**

### Неверагоднае, загадкавае

***Маланка дастала жыхарку Аклахома-сіці Мэры Кламзер у ванне. Калі пачуўся страшэнны ўдар грому, жанчына, спалохаўшыся, інстыктыўна схапілася за ручку душа.***

«І тут жа, — успамінае місіс Кламзер, — мяне ўсю працяў пранізлівы боль. На маіх руках і нагах ускочылі пухіры ад апёкаў. Але гэта была выратавальная маланка, яна вылечыла мяне». Справа ў тым, што 42-гадовая Мэры Кламзер, маці траіх дзяцей, больш як дваццаць гадоў пакутавала ад мультыплекснага склерозу. Апошнія два гады жанчына ўжо не магла хадзіць нават з дапамогай мыліц. А праз некалькі дзён пасля гісторыі з маланкай, калі Мэры адна сядзела ў пакоі, у яе моцна разбалелася галава. Не ўсведамляючы, што робіць, місіс Кламзер ускочыла на ногі і падышла да хатняй аптэчкі. Ногі дрыжэлі, але спраўна неслі гаспадыню. «Я зноў магу хадзіць!» — закрычала яна. Яе родныя, якія збегліся на крыкі, былі нямала здзіўлены і абрадаваны. У той жа дзень урач, які лячыў Мэры Кламзер, абследаваў яе і канстатаваў, што ўсе прыкметы склерозу яго пацыенткі зніклі.

### Дзесьці на белым свеце

Цэнтр медыцынскіх даследаванняў Сан-Францыска заснаваў спецыяльны фонд для фінансавання будаўніцтва шматкватэрнага жылога дома для... шымпанзе, на якіх праводзіліся доследы пры вывучэнні праблем СНІДу. У кожнай кватэры гэтага дома прадугледжаны каляровы тэлевізар і спецыяльны спартыўны комплекс з трэнажорамі.

Нам бы іх праблемы...

### А яшчэ быў выпадак

***Гэта было ў часы Пятра І. Нейкі салдат стаяў на пасту на беразе Нявы. Дзень быў спякотны, страшэнна даймала сонца, і салдат вырашыў пакупацца. Толькі распрануўся і даў нырца, як тут сам цар аб'явіўся. Спалоханы салдат куляй выскачыў з вады, схапіў стрэльбу і, стоячы па камандзе «смірна» ў чым маці нарадзіла, адрапартаваў.***

— Ваша Вялікасць, на пасту ўсё ў парадку!

Пётр пагразіў пальцам і сказаў:

— Быць бы табе сёння моцна бітаму. Аднак дарую за тое, што найперш штаноў вінтоўку схапіў!

### Мудрасць вякоў

■ Язык чалавека — дастатковая сіла, каб перадаць ідэі, што ўзнікаюць у чалавечым розуме. Але ў галіне сапраўдных і глыбокіх пачуццяў ён толькі слабы перакладчык.

■ Нашы ворагі могуць для нас быць больш карыснымі, чым сябры, бо сябры часта даруюць нам нашы слабасці, тады як ворагі звычайна адзначаюць іх і прыцягваюць да іх нашу ўвагу. Не грэбуй меркаваннямі праціўнікаў!

■ Дрэннае кола заўсёды гучней рыпіць. Пусты колас вышэй стаіць. Такая ж уласцівасць і гонару.

■ Ёсць толькі два гатункі людзей: адны — праведныя, але лічаць сябе грэшнымі, іншыя — грэшныя, але лічаць сябе праведнікамі.

### Анекдот

*— Роберт, чаму ты носіш чаравікі на два памеры меншыя, чым трэба?*

*— Разумееш, Том, жонка ў мяне непрыгожая, да таго ж нікчэмная гаспадыня. Сын вучыцца не хоча, і я сумняваюся, ці скончыць ён наогул школу. Цешча з намі жыве і пастаянна бурчыць. Адзіная радасць у жыцці, — калі я вяртаюся дамоў і здымаю чаравікі.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 96665. Індэкс 63850.
Зак. № 7277.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12